

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

20 КАСТРЫЧНІКА 2000г. № 42/4074 КОШТ 100 РУБ.

## "АКСАКАЛЫ" І ЛІТАРАТУРНАЯ МОЛАДЗЬ...

**Алесь МАСАРЭНКА:** ***"Што ж да суполкі "Бум-Бам-Літ" у цэлым, то там, прызнацца, я бачу толькі гульню ў "літаратурны маскарад"..."***

**4**

## "СВЯТЛІЦА" ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА ДОМА

**Леанід ГАЛУБОВІЧ:** ***"Нельга не заўважыць, што нават у гэты, складаны для Бацькаўшчыны час, у правінцыі выдаецца шмат кніжак, часопісаў, газет і альманахаў. Невялікімі накладамі ўся гэта друкаваная прадукцыя неўпрыкмет з'яўляецца на нашых вачах і гэтак жа таемна прападае..."***

**6—7**

## ЖНІВЕНЬ — 2000

***Паэтычная нізка Васіля ЗУЁНКА***

**8—9**

## АПОВЕДЫ-БЫЛІ

***Леаніда ЛЕВАНОВІЧА***

**9, 14—15**

## ГУЛЯЕМ У ЖЫЦЦЁ

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА:** ***"Ёсць вялікая думка ў Частэртона: пакуль мы дзеці, мы нявінныя і хочам справядлівасці, калі мы становімся дарослымі, мы вінаватыя і спадзяёмся на міласэрнасць..."***

**11**





# Сядзіба сярод гмахаў

Гэта — рэшткі колішняй сядзібы. Калісьці вакол былі гаспадарчыя пабудовы, быў парк. Цяпер застаўся толькі дом, вядомы пад назваю "Белая дача", пабудаваны ў другой палове XIX стагоддзя. Рэстаўраваўся напрыканцы 70-х — пачатку 80-х гадоў. Пэўны час знаходзіўся пад эгідаю культурніцкіх устаноў, скарыстоўваўся як выставачная зала. Тут экспанаваліся творы народных майстроў, а побач з будынкам, у парку (у тым, што засталося ад колішняга парку), ладзіліся фэсты самадзейнага мастацтва. Прынамсі, так было яшчэ на пачатку 90-х. Вакол шырока раскінулася шэрая забудова Курасоўшчыны. На другім беразе ракі, насупраць "Белай дачы" — чорныя коміны нейкай вытворчасці. Нават у сённяшнім занядбаным стане "Белая дача" — як дыямент сярод смецця. Мы спрабавалі высветліць у абарыгенаў раёна, каму гэты дом належыць. Ніхто не ведае... Прыгадваюць, што як скончыліся фэсты і выставы, атабарыліся ў будынку нейкія спартсмены, а зараз — дом нічыйны. Таму атынкоўка сыплецца і вокны пабітыя. Оршыцу забралі ў "культуры", каб зрабіць рэстарацыю **(не рэстаўрацыю, як памылкова надрукавана ў мінулым нумары)**. "Белую дачу", дзе меліся зрабіць агульнагарадскі ці нават агульнабеларускі цэнтр народнай творчасці, напаткаў яшчэ горшы лёс. Яна ўвогуле не мае гаспадара. Зрэшты, гэтую справу можна паправіць. Велізарнаму "спальнаму раёну" проста неабходны культурны цэнтр, неабходна месца, дзе душа адпачне ад геаметрыі.

**П. В.**






*Фота М. ПРУПАСА*



# КОЛА ДЗЁН

***15 кастрычніка адбыўся першы тур выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання. Гэты тыдзень дзяржаўныя газеты пачалі з загалоўкаў "Прагноз прэзідэнта апраўдаўся", "Мінск абірае... другі тур?", "Актыўнасць была высокай", "Выбары ў Беларусі ў параўнанні з іншымі краінамі з'яўляюцца мадэллю адкрытасці, сумленнасці і справядлівасці" і г.д. У незалежных выданнях загалоўкі зусім адваротнага зместу. Але як бы там ні было, Цэнтрвыбаркам пасля доўгіх начных падлікаў палічыў і аб'явіў, што ў 96 са 110 акруг выбары адбыліся. Абрана 43 дэпутаты. У другім туры галасавання, які пройдзе 29 кастрычніка, памагаюцца 53 пары кандыдатаў. У Мінску галасаванне пройдзе па 14 акругах. А праз год — прэзідэнцкія выбары...***

### НАПАМІН ТЫДНЯ

У друку з'явіўся напамін, што з 1 студзеня 2001 года на тэрыторыі Беларусі спыняецца абарачэнне разліковых білетаў Нацбанка 1992—1999 гадоў выпуску. З 1 студзеня грашовыя знакі старога ўзору страчваюць плацежаздольнасць. Аднак на працягу ўсяго наступнага года іх можна будзе абмяняць на білеты Нацбанка ўзору 2000 года ў суадносінах 1000:1. Праўда, ці знойдзецца ў нашай краіне дзівак, які захоўвае ў "зайцах" свой капітал...

### УПЭЎНЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Гледзячы Расійскае тэлебачанне, час ад часу жахаешся ад паведамленняў не толькі з Чачні, дзе другі год ідзе вайна, але і з мірных рэгіёнаў нашай суседкі. Наперадзе зіма, а там да яе не падрыхтаваліся, і сёння ўжо ў школах мерзнуць на ўроках дзеці, а ў бальніцах хворыя. А як зімаваць будзем мы? Гэтае пытанне хвалюе ўсіх. Нашы камунальныя службы да зімы падрыхтаваліся някепска — выкананы асноўныя аб'ёмы работ па рамонце цеплатрас, абсталявання кацельняў, іншых інжынерных сістэм. Паліва, паводле апошніх даных, падрыхтавана: вугалю — 31 тыс. тон, дроў — 76 тыс. кубаметраў, мазуту — 130 тыс. тон, што складае адпаведна 80, 90 і 81 працэнт ад планавага паказчыка. Мяркуючы па лічбах, перазімуем. Праўда, і ў нас апошнія дні ў кватэрах не так ужо і цёпла, а ацяпляльны сезон пачаўся толькі ў школах, дзіцячых садках і бальніцах.

### ДАВЕР ТЫДНЯ

Пасля таго, як з развалам Савецкага Саюза ў людзей ляснуліся ўсе зберажэнні, якія былі ў ашчадных касах, па логіцы сёння трэба было б даўно забыцца туды дарогу. Ды не, людзі, і іх нямала, зноў даяраюць дзяржаве захоўваць свае кроўныя грошы. Так, на 37,695 мільёнаў рублёў, або на 12,7 працэнта, павялічыліся за верасень усе дэпазіты насельніцтва (рублёвыя і ў замежнай валюце) ў банках Беларусі. За тры кварталы ўклады ў нацыянальнай валюце ўзраслі на 586925 мільёнаў рублёў (на 201,5 працэнта), а ў замежнай — на 39,4 мільёна долараў (на 19,8 працэнта) і склалі адпаведна 878148 мільёна рублёў і 238,5 мільёна долараў. Больш за ўсё нашы грамадзяне давяралі свае грошы ў замежнай валюце Беларусбанку, Джэм-банку, Белзнешэканомбанку, Прыорбанку, а ў беларускай — Беларусбанку, Белаграпрамбанку, Белпрамбудбанку і Белбізнесбанку. Словам, калі ў краіне сёння шмат бедных людзей, чаму б не быць і вельмі багатым...

### ПЕРСПЕКТЫВЫ ТЫДНЯ

Паміж Нацыянальнай акадэміяй навук Рэспублікі Беларусь і Польскай акадэміяй навук падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве. Гэта ўжо не першы такога кшталту дакумент. У новым — запланавана адкрыццё ў Мінску пастаяннага прадстаўніцтва Польскай акадэміі, а ў Варшаве — пастаяннага прадстаўніцтва НАН Беларусі. Абмен прадстаўніцтвамі дазволіць значна павысіць узровень каардынацыі сумесных навуковых даследаванняў. Польскае прадстаўніцтва ў Мінску пачне працаваць ужо недзе праз пару месяцаў. Словам, не адна ж у нас Расія суседка...

### НАМЕР ТЫДНЯ

Па стане на 1 кастрычніка ў нашай краіне на ўліку ў службах занятасці знаходзілася 97,2 тыс чалавек, што складае 1,72 працэнта ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва. Гэтая лічба ўжо некалькі гадоў не мяняецца. Аднак, нягледзячы як бы на стабільнасць, за апошнія дзевяць месяцаў па дапамогу ў працаўладкаванні звярнулася 322,8 тысячы жыхароў Беларусі. Палова афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных мае ўзрост ад 16 да 29 гадоў. Пры гэтым становішча працягвае ўскладняцца, бо значная частка моладзі не мае ніякай прафесіі і асабліва не імкнецца яе набыць. Сума дапамогі па беспрацоўі на сённяшні дзень не можа перавышаць дзвюх мінімальных зарплат, а гэта 7,2 тысячы рублёў. Многія з-за гэтага падчас пошуку працы ўвогуле лічаць непатрэбным звяртацца ў службы занятасці. З гэтай нагоды Камітэт па занятасці насельніцтва мае намер прапанаваць ураду вызначыць максімальную дапамогу па беспрацоўі ў памеры бюджэту пражытачнага мінімуму, але абмежаваць тэрмін яе атрымання 3 гадамі. Здаецца, няблага. Але...

### ПЕРАМОГА ТЫДНЯ

Апошнімі днямі настрой у балельшчыкаў футбольнай зборнай Беларусі радасны — нашы атрымалі перамогу ў адборачным турніры да чэмпіянату свету 2002 года над зборнай Арменіі з лікам 2:1 і ў турнірнай табліцы з шасцю ачкамі замацаваліся на другім месцы. Наступны матч адбудзецца 24 сакавіка наступнага года са зборнай Украіны. Хацелася б, каб і тады падначаленыя Эдуарда Малафеева паказалі сябе з добрага боку. Але ўсё ж нашы жаданні не заўсёды супадаюць з магчымасцямі нашых футбалістаў...

### КАМПЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Інтэрфакс" распаўсюдзіў інфармацыю, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "У інтэрв'ю "Радио Свобода" следчы па асабліва важных справах гарадскога следчага камітэта Яўген Архірэеў заявіў, што "крымінальная справа, узбуджаная па выніках праверкі Камітэтам Дзяржкантролю гаспадарча-фінансавай дзейнасці часопіса "Крыніца", закрыта ў сувязі з тым, што даныя рэвізіі не пацвердзіліся". Ён удакладніў, што ўрон, нанесены ў выніку фінансавых парушэнняў не крымінальнага характару, У. Някляеў кампенсаваў".

### ВЕСТКА ТЫДНЯ

Беларуская зямля спрадвеку была багатай на таленты. Шмат таленавітых людзей праслаўлялі і праслаўляюць сваімі справамі нашу краіну і сёння, але, відаць, намнога болей тых, што, нарадзіўшыся тут, прыносяць карысць нашым суседзям, жывучы і працуючы там. Адным з такіх з'яўляецца расійскі фізік Жарэс Алфёраў, які нарадзіўся ў 1930 годзе ў Віцебску і разам з сям'ёй жыў у гэтым горадзе ў даваенны час. І вось прыйшла вестка што гэты вучоны за развіццё паўправадніковых гетэраструктур для оптаэлектронікі і электронікі высокіх хуткасцей адзначаны Нобелеўскай прэміяй. І ці не пара нашай краіне больш увагі надаваць таленавітым людзям у сферы навукі і культуры, пакуль яны не разбегліся па свеце?

# Лаўрэаты прэміі Івана Франка — нашы літаратары

Клапоцячыся пра папулярызацыю ўкраінскай літаратуры за межамі сваёй дзяржавы, Рада Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў нашай паўднёвай суседкі ўстанавіла штогоднюю Міжнародную літаратурную прэмію імя Івана Франка. Яна прысуджаецца лепшым прапагандыстам, перакладчыкам, даследчыкам украінскага прыгожага пісьменства (гэтаксама як прэмія імя Максіма Рыльскага — перакладчыкам іншанацыянальных літаратур на ўкраінскую мову).

Першым лаўрэатам прэміі імя Івана Франка стала выдатная сербская пісьменніца Дэсанка Максімавіч. Гэта было чатырнаццаць гадоў таму назад. За гэты час прэмію атрымалі каля пятнаццаці вядомых пісьменнікаў з розных краін свету. Нядаўнім рашэннем прэзідыума Рады Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Міжнародная літаратурная прэмія Івана Франка 2000 года прысуджана беларускім пісьменнікам і літаратуразнаўцам Тацціяне Кабржыцкай і Вячаславу Рагойшу "за пераклады твораў украінскай класікі, сучасных пісьменнікаў і грунтоўныя даследаванні ўкраінска-беларускіх літаратурных сувязяў".

Уручэнне прэміі адбылося ў горадзе Івана Франка — у Львове, у межах урачыстасцяў, звязаных з 60-гадовым юбілеем літаратурна-мемарыяльнага музея класіка ўкраінскай літаратуры. Прэмію ўручыў сябра прэзідыума Рады Саюза ўкраінскіх пісьменнікаў, загадчык упраўлення культуры Львоўскай абласной адміністрацыі, даўні сябар і актыўны прапагандыст беларускай літаратуры Раман Лубкіўскі.

**В. КАЧАНОВІЧ**



*На здымку: Р. Лубкіўскі, В. Рагойша, Т. Кабржыцкая.*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Шырокай і насычанай атрымалася праграма наведвання Саюза беларускіх пісьменнікаў дэлегацыяй Саюза пісьменнікаў Масквы на чале з першым сакратаром СП Масквы вядомай рускай паэтэсай Рымай Казаковай. У папярэдняй дамоўленасці аб сустрэчы ставілася асноўная мэта — аднаўленне творчых узаемасувязей паміж пісьменніцкімі арганізацыямі і творцамі. Аб гэтым пайшла зацікаўленая дзелавая гаворка ў першы ж дзень на сустрэчы ў канферэнц-зале Дома літаратара. Шмат цікавых прапаноў прагучала з вуснаў гасцей Юрыя Сураўцава, Кірылы Кавальджы, Барыса Яўсеева, Эліны Сухавай, Аляксея Гелейна, сваё бачанне праблемы выказалі Вольга Іпатава, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Васіль Якавенка і іншыя.



Запамінальнай была паездка ў Вязынку ў купалаўскія мясціны, сустрэчы ў культурна-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны.

У сапраўднае свята рускай і беларускай паэзіі ператварылася вечарына ў Доме літаратара, дзе мяняючы адзін аднаго да мікрафона выходзілі масквічы і нашы Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Пісьмянкоў, Раіса Баравікова, Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, Алесь Пісарык...

Візіт гасцей з Масквы працягваецца. Сёння ў яго праграме выступленне перад студэнтамі журфака БДУ і прыём у Міністэрстве замежных спраў, пра што мы паведамім у наступным нумары "ЛіМа".

**Н. К.**

*Фота М. ПРУПАСА*

## Рэкамендавалі...

На чарговым пасяджэнні секцыі прозы абмеркавалі творчасць маладых празаікаў — Таісы Супруновіч і Маргарыты Прохар, якія дэбютавалі першымі кніжкамі ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць".

Цікава і слушна гаварыў Генрых Далідовіч пра аповесці Таісы Супруновіч, якая ўмее "па-пісьменніцку рэалізаваць славутае чорнаўскае, што чалавек — гэта цэлы свет..." Іншыя выступоўцы, падкрэсліваючы адметнасць прозы маладой аўтаркі, адзначалі, што аўтар ведае жыццё і ідзе ад жыцця ў сваіх творах.

Добрыя словы пра Маргарыту Прохар, як апавядальніка, гаварылі Віктар Праўдзін, Алесь Масарэнка і іншыя.

Бюро секцыі прозы рэкамендавала Таісу Супруновіч і Маргарыту Прохар для прыёму ў СБП.

Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва на сваім пасяджэнні абмеркавала шэраг пытанняў творчай работы на наступны год, а таксама рэкамендавала кандыдатуры дзіцячых пісьменнікаў на атрыманне штогадовай літаратурнай прэміі СБП імя Янкі Маўра і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай за 2001 год у галіне літаратуры.

**Я. ІВАНОЎ**

•

Цікавая гутарка адбылася ў час наведвання СБП калег-пісьменнікаў з далёкай Індыі. З індыйскага боку ў ёй прынялі ўдзел дэпутаты індыйскага парламента пісьменнікі Жайнель Судзіні Рэдзі і Картар Сігх Дугал, з беларускага — намеснік старшыні СБП Н. Гальпяровіч, У. Мачульскі, літкансультант саюза А. Масарэнка. Гаворка ішла пра творчыя стасункі паміж пісьменнікамі абедзвюх краін. Госці жыва цікавіліся беларускай літаратурай, дзейнасцю пісьменніцкай арганізацыі.

Картар Сігх Дугал паабяцаў аказаць садзейнічанне ў выданні твораў беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на пенджацкую мову ў Індыі.

**Н. К.**

ВАНДРОЎКІ

# Балет гастралюе...

Нацыянальны тэатр балета Беларусі зноў вандруе. 17 кастрычніка ў Амстэрдаме пачаліся яго гастролі, якія прадоўжацца больш за месяц. У рэпертуары беларускіх артыстаў — балеты "Спартак" і "Лебядзінае возера".

Дарэчы, з Галандыяй і Бельгіяй наш тэатр балета звязвае доўгатэрміновы кантракт, разлічаны да 2004 года. У гэтых краінах — тэатральныя будынкі, узведзеныя па апошнім слове тэхнікі, цудоўна абсталяваныя сцэны. У мінулым сезоне беларуская трупа таксама выступала ў гэтых краінах. І хаця творчая вандроўка аказалася непрацяглай, былі паказаны тры спектаклі — "Вясна свяшчэнная", "Кармэн-сюіта", "Спартак".

Напярэдадні новага года наш балет выправіцца ў Кітай, дзе пакажа "Рамэо і Джульету" і "Лебядзінае возера". Не ўпершыню давядзецца выступаць у гэтай краіне: раней творчыя вандроўкі адбыліся ў 1997 г. і на пачатку 2000-га.

Магчыма, у бліжэйшыя сезоны адбудуцца гастролі ў Вялікабрытанію і Іспанію. Летам 2001 г. беларускія артысты павінны выправіцца на Кіпр. Справа ў тым, што сёлета ў жніўні яны ўжо выступалі на Кіпры. На сцэнах антычных тэатраў у гарадах Саламіс, Гірна, Ляўкоша былі паказаны аднаактовыя балеты "Прывал кавалерыі", "Кармэн-сюіта" і канцэртная праграма. На гледачоў і тых, хто прымаў беларускіх артыстаў, іх выступленні зрабілі такое моцнае ўражанне, што нашым балерынам і танцоўшчыкам прапанавалі тыдзень адпачываць на Кіпры бясплатна. Да таго ж запрасілі выступіць летам наступнага года.

Сёлета павінна адбыцца яшчэ адна падзея — прэм'ера балета "Спячая красуня" на музыку П. Чайкоўскага. Дзесяць гадоў таму гэты твор ставіла ў Мінску вядомая руская балерына Ірына Калпакова. Але спектакль шмат вазілі на гастролі, яго дэкарацыі і касцюмы патрабуюць узнаўлення. Новую рэдакцыю "Спячай красуні" ажыццёвіць мастацкі кіраўнік Нацыянальнага тэатра балета Беларусі Валянцін Елізар'еў. У якасці сцэнографа запрошаны Вячаслаў Окунеў.

**Т. ФЁДАРАВА**

ГОСЦІ

# "Андрэй Пятроў у коле сяброў"

Бачыце? Па-беларуску ў гэтай назве нават рыфма ўзнікае: сапраўдная гармонія! Цалкам адпаведна гарманічнаму свету музычных вобразаў, створанаму знаным кампазітарам, народным артыстам Расіі Андрэем Пятровым.

Яго візіт у Мінск і аўтарскі вечар 17 кастрычніка, праведзены Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга з удзелам не толькі салістаў нашага цудоўнага калектыву, але і вядомай госці, заслужанай артысткі Расіі Людмілы Сенчынай, засведчыў даўнюю, сталую папулярнасць дэмакратычнай і шчырай музыкі А. Пятрова ў беларускай публікі.

Падчас прэс-канферэнцыі для сталічных журналістаў, у якой удзельнічалі таксама Л. Сенчына ды М. Фінберг, кампазітар прызнаўся, што скептычна ставіцца да юбілеяў — адной з улюбёных тэм сатырыкаў. Аднак на пачатку верасня і яго напаткала "круглая" дата, што сталася цудоўнай нагодай наладзіць фестываль з уласнай музыкі.

Працуе А. Пятроў практычна ва ўсіх музычных жанрах: опера, балет, сімфанічная, харавая, камерная музыка, музыка для драматычнага тэатра і кіно, эстрадная песня, інструментальны джаз. Для аўтара, занепакоенага цяперашняй тэндэнцыяй — папулярызаваць з тэлеэкрана выключна "папсу", не пакідаючы месца ў эфіры нават для класічных шэдэўраў (што ўжо казаць пра сур'ёзную музыку ХХ стагоддзя!), вельмі важна было нагадаць расійскаму слухачу пра сваю шматгранную творчасць. Бо музыка да кіна- і тэлефільмаў больш-менш на слыху, нават жыве даўжэй за самі стужкі...

Задумаўшы фестываль, А. Пятроў звярнуўся да людзей, з якімі яго звязвае даўняя творчая дружба, якія ведаюць яго музыку, якім не трэба штосьці вучыць "з нуля":

**— У ліку маіх сяброў шмат сапраўды выдатных выканаўцаў, артыстаў: і дырыжоры, і спевакі, і скрыпачы, і рэжысёры, і акцёры. Яны шчыра адгукнуліся на маю прапанову, і нарадзілася назва фестывалю: "Андрэй Пятроў у коле сяброў". Хаця я і старшыня Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга, пастараўся, каб саюз не меў да гэтага ніякага дачынення. Арганізацыяй займалася філарманічнае таварыства нашага горада. Філармоніі Екацярынбурга, Ніжняга Ноўгарада, тэатр "Новая опера" Масквы ўключылі адпаведныя праграмы ў свой план. Самае складанае — забеспячэнне рэкламы і правядзенне заключнага канцэрта 22 снежня, з арэндай пецярбургскай залы "Октябрьский" на 4 тыс. месцаў, з удзелам такіх зорак, як Людміла Гурчанка, Мікалай Карачанцаў, Ларыса Доліна, Эльдар Разанаў і выдатнага калектыву беларускіх музыкантаў пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга. Нам вельмі дапамог у фінансаванні губернатар Санкт-Пецярбурга. Працягваецца праца са спонсарамі — на іх асаблівая надзея.**

**Такім чынам, самая значная частка фестывалю будзе ажыццёўлена на працягу снежня ў канцэртных залах Пецярбурга. Да гэтага часу адбыліся сімфанічныя канцэрты ў Екацярынбургу, у Ніжнім Ноўгарадзе, у Маскве. У "Новай оперы" прайшоў і спектакль "Стварэнне свету". Вось і ў Мінску, я ведаю, да майго 70-годдзя быў прымеркаваны нядаўні паказ гэтага балета, бліскуча пастаўлены Елізар'евым і захаваны на сцэне гэтак трывала, што можна звяртацца ў Кнігу рэкордаў Гінеса: балеты на музыку кампазітараў, якія жывуць сёння, зазвычай у рэпертуары не**



**затрымліваюцца! Я вельмі ўдзячны...**

Я таксама вельмі ўдзячны маэстра Фінбергу, з якім упершыню сустрэўся на "Славянскім базары", дзе Міхал Якаўлевіч ажыццявіў маю аўтарскую праграму. Праз год аналагічны канцэрт адбыўся ў Мінску, у філармоніі. І вось — трэцяя сустрэча. Ужо на рэпетыцыі я пераканаўся, што аркестр у выдатнай творчай форме і што вакол яго гуртуецца 14 чароўных маладых салістаў з адметнымі вакальнымі дадзенымі і з высакароднай эстраднай манерай, якую, на жаль, у сённяшняй расійскай "папсе" згубілі.

Між іншым, Людміла Сенчына заўважыла, што ў Расіі зрабілася прэстыжным і модным, ладкуючы імпрэзы эстрадных спевакоў ці кампазітараў, запрашаць да ўдзелу Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга...

Дадамо, што бенефіс Андрэя Пятрова, дзе гучала музыка, напісаная ім да вядомых фільмаў, адбыўся ў межах праекта Міжнароднага фестывалю "Залаты Шлягер-2000".

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*

ФЕСТЫВАЛІ

# "Грай, гармонік!"

"Будзе хлеб — будзе і песня" — гэтымі словамі распачынаўся І абласны фестываль народнай музыкі "Грай, гармонік!", які прайшоў у Мар'інай Горцы. Тут сабраліся калектывы з 19 раёнаў і 4 гарадоў Мінскай вобласці. Усяго сюды прыехала больш за дзве з паловай сотні чалавек. Шэсце калектываў-удзельнікаў па цэнтральнай вуліцы горада выглядала сапраўды па-святочнаму. Непаўторнапрыгожае беларускае адзенне, народныя музычныя інструменты і мілагучныя матывы — гаспадарылі на свяце. Прыемна адзначыць, што сярод удзельнікаў былі і дзіцячыя калектывы. Напрыклад, ансамбль гарманістаў "Аношкаўскія музыкі", які створаны на базе ансамбля "Світанак" у 1989 годзе. Удзельнікі калектыву — навучэнцы Аношкаўскай дзіцячай музычнай школы. У рэпертуары калектыву — народная музыка, апрацоўкі якой для ансамбля робіць іх кіраўнік В. Навумчык. Высокі ўзровень выканальніцкага майстэрства і актыўны ўдзел у фестывалі "Грай, гармонік!" — даюць нам права спадзявацца, што менавіта яны, "Аношкаўскія музыкі", такія маладыя і вясёлыя, не дадуць загінуць беларускай песні.

Спецыяльна да свята была напісана песня-гімн "Мар'іна Горка". Кампазітар — Ігар Лучанок, які, дарэчы, нарадзіўся ў гэтым горадзе. Словы напісала галоўны хормайстар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Стэла Іванова. Святочнае адкрыццё фестывалю было завершана гэтай велічна-прыгожай песняй. Пасля ўрачыстасцяў адбыліся выступленні ўдзельнікаў фестывалю на канцэртных пляцоўках Пухавіцкага раёна.



*Аношкаўскія музыкі (Нясвіжскі раён)*



*Юныя гледачы ў час канцэрта*



*Валожынскія "Сваякі"*

**Наталля ЖЛОБА**

*Фота аўтара*

НОВАЕ

# Сімфоніі... на раялі

Спачатку ўсе сімфоніі Людвіга ван Бетховена, перакладзеныя для фартэпіяна Ферэнцам Лістам, дзевяць маладых беларускіх піяністаў выканалі на радзіме кампазітара, у Боне. Цяпер з гэтым унікальным творчым праектам змогуць пазнаёміцца мінскія меламаны: з 19 кастрычніка па 8 лістапада ў Вялікай зале Беларускай акадэміі музыкі ладкуецца цыкл канцэртаў, у праграме якіх — фартэпіянныя транскрыпцыі бетховенскіх сімфоній.

Студэнты БАМ і навучэнцы Рэспубліканскага каледжа пры акадэміі прадстаўляюць па дзве сімфоніі за вечар. Першы такі вечар быў учора, а прадоўжыцца цыкл 24 кастрычніка, 1 і 8 лістапада ("не ўпісалася" ў яго, на жаль, Восьмая сімфонія). Сярод удзельнікаў праграмы — і лаўрэаты міжнародных конкурсаў, і менш вядомыя юныя таленты: Сяргей Смірноў-старэйшы, Іван Сцепанцоў, Аляксандр Музыкантаў, Карына Глазоўская, Алег Бабій... Канцэрты пачынаюцца а 19-й гадзіне, уваход вольны.

**С. Б.**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА

### Вечарына вакальнай музыкі

У вялікай зале Гомельскага музычнага каледжа імя Н. Сакалоўскага рэгулярна праводзяцца "музычныя серады". Гэтымі днямі адбылася чарговая — вечарына вакальнай музыкі. У ёй узялі ўдзел выкладчыкі і навучэнцы Беларускай акадэміі музыкі, самога каледжа, у тым ліку колішнія, салісты абласной філармоніі.

### Карціны былога лётчыка

Гомельскі абласны Дом народнай творчасці стала арганізоўвае выставы майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і жывапісцаў. Днямі тут адкрылі новую экспазіцыю, дзе можна паглядзець карціны былога лётчыка ваенна-паветраных сіл Міхаіла Каліліна. Родам ён з Кармы Добрушскага раёна. Тэма персанальнай выставы — палескі край. Назвы работ сведчаць самі за сябе: "У добрушскім лесе", "Дубы", "Зімовая фантазія", "Залатая восень".

### Спектакль для ветэранаў

Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды сумесна з заслужаным калектывам Рэспублікі Беларусь абласнога драматычнага тэатра правялі чарговую акцыю — паказалі для ветэранаў вайны і працы спектакль "Аргенцінскае танга" па п'есе Н. Птушкінай.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## БРЭСТЧЫНА

### Старшыня падае прыклад

Цікавым і багатым вернісажам адзначыў 30-годдзе сваёй творчай дзейнасці старшыня абласной мастакоўскай арганізацыі Міхась Канькоў. 70 графічных і жывапісных карцін, эцюдаў вынес ён на суд гледачоў. Гэта пераважна кампазіцыі-роздумы, пейзажы, нацюрморты, кожны з якіх пазначаны арыгінальным і высокапрафесійным аўтарскім почыркам. Нездарма выстава выклікала вялікую цікавасць у берасцейскіх аматараў мастацтва. На яе адкрыцці прысутнічаў старшыня аблвыканкама Васіль Даўгалёў, што, як і многія, пакінуў добры водгук у кнізе для наведвальнікаў.

### 10-ая кніжка серыі

Галоўная задача серыі "Берасцейскае вогнішча" — выпуск першых кніг пісьменнікаў-землякоў. І выконваецца яна ўдала. Зусім нядаўна выйшла (яе выпусціў Цэнтр па падтрымцы грамадскіх ініцыятыў "Вежа") 10-ая кніжка. Гэта зборнік вершаў Івана Лагвіновіча "Разлукі выраёвыя", аўтара ўжо сталага веку, які доўгую частку жыцця быў адарваны ад Беларусі. "Боль па страчанай радзіме стаў ці не галоўным стрыжнем паэзіі І. Лагвіновіча", — піша ў прадмове да зборніка паэт Мікола Пракаповіч. Разам з тым у кніжцы нямала вершаў пра каханне і сяброўства, публіцыстычных, сатырычных і гумарыстычных твораў. У Баранавічах, дзе цяпер жыве І. Лагвіновіч, а таксама ў Брэсце, неўзабаве адбудзецца прэзентацыя гэтай "юбілейнай" кніжкі.

**Сымон АКСЕНІН**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА

### Фільм пра Караткевіча

На Мсціслаўшчыне завяршыліся здымкі дакументальнай кінастужкі, прысвечанай 70-годдзю пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Рэжысёрам — Уладзімір Арлоў. Мсціслаўшчына была выбрана для гэтага невыпадкова: менавіта тут жыла маці Караткевіча.

### Барды рыхтуюць змену

Магілёўскія барды рыхтуюць сабе новую змену. Нядаўна тутэйшы бард-клуб "Новы горад" пры падтрымцы Палаца піянераў і школьнікаў адкрыў школу-студыю. Плануецца, што ў сценах гэтай школы моладзь зможа навучыцца граць на гітары, а таксама паспрабаваць сябе ў літаратурнай творчасці. У прыватнасці, праект прадугледжвае шэраг заняткаў па вывучэнні азоў музычнай граматы і курс лекцый па гісторыі Магілёва і мастацтва.

### Народны тэатр пачынае сезон

З традыцыйнай "Тэатральнай восені" пачнуць свой новы сезон у народным тэатры Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу. Кіруе тэатрам заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Валянцін Ермаловіч. Амаль тыдзень — з 23 па 28 кастрычніка — самадзейныя артысты будуць паказваць свае лепшыя спектаклі: "Парог", "Прымакі", "Калізей".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## ВІЦЕБШЧЫНА

### Срэбны абраз для музея

Срэбны абраз святой Еўфрасінні Полацкай падарылі Полацкаму музею беларускага кнігадрукавання амерыканскія беларусы. Зора і Вітаўт Кіпелі. Падарунак зроблены з нагоды 10-годдзя гэтага адзінага ў Беларусі музея кнігі. 300 срэбных абразоў былі адліты ў 1973 годзе англійскім майстрам Паўлем Вілічы на замову прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў гонар 800-годдзя з дня смерці асветніцы. "Замежныя беларусы дапамагаюць нам узбагачаць музейныя калекцыі. Зараз экспануецца выстава "Традыцыі святой Еўфрасінні на эміграцыі", на якой прадстаўлены іканаграфічныя творы замежных беларускіх мастачак Тамары Стагановіч, Галіны Русак, Паўліны Сурвілы, сабраныя камп'ютэрныя копіі абразоў апякункі зямлі беларускай з ЗША і Канады", — гаворыць дырэктарка музея Галіна Ладзісава.

**Святлана ГУК**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА

### Гранты ўстановам культуры

Гранты з Фонду прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва атрымалі Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей і абласная навуковая бібліятэка імя Я. Карскага. Музейшчыкі займелі 2 гранты па 2,5 мільёна рублёў. Адзін з іх на набыццё экспанатаў для стварэння мастацкай галерэі. Як паведаміла дырэктарка музея Алена Салаўёва, у адной з залаў Старога замка плануецца адкрыць пастаянную экспазіцыю твораў сучаснага мастацтва Беларусі. Другі грант пойдзе на рэстаўрацыю твораў жывапісу з фондаў музея. Ужо ёсць дамова з аб'яднаннем "Мінскрэстаўрацыя", згодна якой сталічныя спецыялісты ўзяліся за аднаўленне дзвюх карцін 18-га і 19-га стагоддзяў. Аднак на многае грантавых сродкаў не хопіць. Напрыклад, рэстаўрацыя 1 кв. м палатна каштуе 3,2 мільёна рублёў.

Паўнавартасны грант на 6 мільёнаў рублёў атрымала бібліятэка імя Я. Карскага. Гэтыя грошы накіруюць на аўтаматызацыю бібліятэчных працэсаў. Канкрэтна гэта азначае, што бібліятэка купіць дзесятак сучасных камп'ютэраў. Улічваючы, што гродзенскі аблвыканкам выдаткаваў бібліятэцы яшчэ 6 мільёнаў рублёў, працэс аўтаматызацыі будзе завершаны як след.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

## Музыкай напоўнены куток...



**Музыка восені чуецца паўсюль, дзе разгарнуў кастрычнік сваю непаўторную маляўнічую палітру. Чуллівы рамантык лёгка можа ўявіць сабе напоўнены ціхай дзівоснай музыкай старадаўні парк вакол сціплай сядзібы. І ягонае ўяўленне будзе не зусім далёкае ад рэальнасці. Бо ёсць у нашай краіне менавіта гэткі ціхі маляўнічы куток — сціплая сядзіба ў старадаўнім парку, дзе кожную восень быццам ажываюць музычныя вобразы XIX стагоддзя. Гэта — мястэчка Залессе, з якім звязаны адметны перыяд жыцця і творчасці Міхала Клеафаса Агінскага.**

**Паводле даўняй мясцовай традыцыі, штогод праводзяць тут землякі нашага знанага кампазітара і палітычнага дзеяча сваю мастацкую імпрэзу, прымеркаваную да дня нараджэння Міхала Клеафаса.**

**Сёлета з дня яго нараджэння —**



**7 кастрычніка (25 верасня па-старому) — адзначалася амаль круглая дата: 235 гадоў. Добрая нагода — памарыць пра тое, каб гадоў праз 5-10, а праз 15 абавязкова, прайшло тут вялікае музычнае свята, міжнародны фестываль у адроджанай і дагледжанай "сядзібе музаў" Агінскага.**

**С. ВЕТКА**

*На здымку: у Залессі; партрэт М. Кл. АГІНСКАГА*

## "Вожык" прымаў гасцей

**На мінулым тыдні ў рэдакцыі часопіса "Вожык" адбылася цёплая, шчырая сустрэча першакурснікаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры факультэта культуралогіі, кафедры рэжысуры народных святаў і абрадаў з супрацоўнікамі рэдакцыі.**

**Галоўны рэдактар часопіса "Вожык" Міхась Пазнякоў расказаў студэнтам пра планы часопіса на будучыню. Узгадаў пра тых супрацоўнікаў, якія стаялі ля вытокаў часопіса і ўнеслі вялікі ўклад у развіццё беларускай сатыры і гумару.**

**Супрацоўнікі часопіса расказалі пра працу ў "Вожыку", пачыталі свае творы.**

**Сустрэчу студэнтаў з рэдакцыяй часопіса "Вожык" арганізавала выкладчык дысцыпліны "Моўнае дзеянне ў свяце" Беларускага дзяржуніверсітэта культуры Ларыса Іўлева.**

**Марыя ДАР**

## Рэстаўрацыя завершана

**14 кастрычніка (Дзень Пакрова Свяцейшай Багародзіцы) у Гродне адзначалі завяршэнне рэстаўрацыі Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора.**

**У храме была адслужана літургія, у якой браў удзел мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх Усяе Беларусі.**

**Варта нагадаць, што сабор быў пабудаваны адразу пасля руска-японскай вайны 1904—1905 гадоў у гонар загінуўшых у ёй афіцэраў і салдатаў.**

**Паўнавартасны рамонт не праводзіўся там з таго самага часу. Таму не дзіўна, што многія архітэктурныя элементы разбурыліся. Патрабавалася рэстаўрацыя.**

**Яна і была праведзена за кошт ахвяраванняў прыхаджан, прадпрыемстваў і гарвыканкама.**

**В. Д.**

# "Аксакалы" і літаратурная моладзь: сябры ці супрацоўнікі?

***Дом літаратара, трэці паверх... Маладзёжны гурток пры Саюзе пісьменнікаў. Мой суразмоўца — Алесь Масарэнка. Вопытны празаік, вядомы старэйшаму пакаленню чытачоў як аўтар рамана "Баргузінскае лета", аповесці "На бабровых тонях", кніг прозы "Журавіны пад снегам", "Пакуль не завялі кветкі", малодшаму — як заснавальнік і першы рэдактар часопіса "Першацвет" ды нязменны кіраўнік суполкі "Літаратар". Сапраўды: амаль усе аўтары-дэбютанты 1990-х прайшлі і праз часопіс, і праз творчы гурток. Сёння ж А. Масарэнка рыхтуе да друку спецыяльны даведнік "Мы!.." І маё першае пытанне пісьменніку было менавіта пра гэта...***



— Даведнік маладых літаратараў быў задуманы намі яшчэ ў 1995 годзе: мы хацелі ўключыць туды звесткі пра аўтараў "Першацвета". Цяпер складаецца выданне, якое змесціць матэрыял болей чым аб трохстах аўтарах-дэбютантах. На кожнай старонцы кнігі будуць прадстаўлены па два маладыя творцы (фотаздымак, біяграфія, звесткі пра творчасць). Такі даведнік патрэбны нашым рэдакцыям, выдавецтвам. Карысны будзе ён і таму, хто сапраўды хоча звязаць сябе з мастацтвам. Але ж, мне здаецца, і тым, хто надрукаваецца два-тры разы, такое выданне можа прынесці своеасаблівую радасць, цёплы ўспамін...

**— Вы ўжо доўгі час працуеце з творчай моладдзю. Якую ацэнку дасце літаратурнай плыні, што цяпер ствараюць гэтыя людзі?**

— Перш за ўсё давайце вызначымся з узростам аўтараў. Моладзь — тыя, хто "да 20-і". Раней у Саюз пісьменнікаў нават саракагадовага чалавека прымалі як "маладога". Звычайна лічылася так: калі ў чалавека талент, дык ён і сам "праб'ецца". Так, "праб'ецца" — але толькі недзе ў 50—70... На прыкладзе нашай суполкі "Літаратар" магу сказаць: сапраўднае пачуццё беларускай мовы прыходзіць да пачаткоўца не адразу. Бывае, што раскрыццю таленту замінае вузкае кола аднадумцаў, што звычайна і спараджае тое, што ёсць: чалавек проста нікога не бачыць у літаратуры, акрамя сябе ды сваіх аднагодкаў. На жаль, шмат хто з маладых не чытае ні "Полымя", ні "Маладосці", не кажучы пра "ЛіМ". Не многія нават з творамі Караткевіча знаёмыя. Ці вазьміце літаратуру эмігрантаў, "рэпрэсаваную" літаратуру... Вось я і лічу: калі ў літаратуру ідуць маладыя, побач з імі павінен быць і нехта сталы, настаўнік, які тое-сёе і падкажа, і параіць.

Наогул літаратура маладых — розная. Сярод лірыкаў Івана Лайкова, Іланы Сцяцко, Віктара Слінко, Сяргея Патаранскага, Міколы Адама — ёсць і Віктар Жыбуль, вершы якога вельмі добра клаліся на старонкі нашага першага "Першацвета", сапраўднага, які не "таптаўся" ў адным і тым жа коле аўтараў, не зацыкліваўся на "постмадэрне", а сапраўды **дапамагаў** маладым творцам працаваць, "думаць вершы". У таго ж Віктара Жыбуля — дар сацыяльнага гумарыста, здаровая іронія. Але ён сам баіцца гэта прызнаць. Што ж да суполкі "Бум-Бам-Літ" у цэлым, то там, прызнацца, я бачу толькі гульню ў "літаратурны маскарад". Хлопцам важна "ўкалоць" нашых старэйшынаў слова (заўважце: тых самых, хто захаваў, лічыце, беларускае літаратурнае слова і ў крытычна небяспечным 1930-м годзе, і ў чалавеказабойным 1937-м...). Многія маладыя не любяць крытыкі, асабліва канкрэтных папрокаў за недасканалае валоданне мовай. Не верыце? Паспрабуйце сказаць таму ж Сержуку Мінскевічу, што яго "вядомы" пераклад "Дзядоў" Адама Міцкевіча — слабы, пасрэдны...

**— У нашай літаратуры маладых ёсць і рускамоўная плынь...**

— Так. Ёсць маладыя аўтары, і сярод іх большасць — дзеці былых вайскоўцаў, што выбралі Беларусь. А наогул жа я не зайздрошчу нашым рускамоўным беларусам, тутэйшым, так бы мовіць. Яны чуюць увесь час мову "абульбашаную" і тое ж цягнуць у свае творы. Звярніце ўвагу: усе буйныя фігуры нашай літаратуры — менавіта тыя, хто глыбока разумеў сваё роднае, традыцыі. На душу ўвогуле славяніна, а не толькі беларуса, хораша кладзецца ўсё, што ідзе ад Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Янкі Купалы, Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Генадзя Бураўкіна... Я веру, што таленавіты беларус — нават і зрусіфікаваны — калі ўзварушыць яго гены, кладзезь генны, зможа зрабіць значны ўнёсак менавіта ў нашу, нацыянальную літаратуру.

**— Якую ролю ў маладзёжнай культуры, па-вашаму, адыгрываюць нефармальныя мастацкія суполкі?**

— У кожнага паэта — свой індывідуальны почырк. Усялякая "арганізацыя", як вядома, не спрыяе раскрыццю індывідуальнасці, збівае з уласнага "панталыку", арыентуе на чужое. У нас і было ўжо нешта падобнае: некалі модна было пісаць "пад Броўку". І шмат хто згубіў сваё "я". Таму — мая першая парада пачаткоўцу: пішы так, як да цябе яшчэ ніхто не пісаў. Такім шляхам ішлі Барадулін, Наўроцкі, Разанаў — і сталі вядомыя. Паэтаў жа, хто пісаў "пад Броўку", ужо нават маё пакаленне паспела забыць... Вядома ж, сам Броўка застанецца. Ён — лірык.

**— Наш час — маю на ўвазе не толькі рубеж тысячагоддзяў, а перш за ўсё мінулыя 1990-ыя гады — гэта час спрыяльны для развіцця мастацтва? Ці разам з набыткамі айчынная культура нешта істотнае і страціла?**

— Культура нічога не страціла. Як, зрэшты, і літаратура. Пісьменнікі страцілі адно сваю паліклініку, стол заказаў. І потым — яны сталі яшчэ больш непаслухмяныя. Іх ужо аніяк не могуць узяць зноў пад кантроль. Таму "дзяржава" і забылася пра іх. Правераная метода. Шкадаваць тут няма чаго, тым больш што нашыя ранейшыя "куратары" ў рэальным сваім жыцці абыходзіліся без сур'ёзнай літаратуры. Чыталі "Праўду", "Огонек", "Комсомольскую правду"; хтосьці з іх адолеў адзін-два раманы І. Шамякіна. Гэта з нашых празаікаў. І ўсё. Я ўзгадваю, як было ў маім Слаўгарадскім раёне: усе "выдатнікі" з маіх аднагодкаў паступілі ў інстытуты, ваенныя вучылішчы; "троечнікі" ж "праляцелі", але, як ні дзіўна, усе яны потым апынуліся ў партшколе. Мне — чалавеку, які праслужыў у войску тры гады, скончыў БДУ — было прыкра на гэта глядзець: я знарок пакінуў партшколу, куды быў накіраваны выдавецтвам "Мастацкая літаратура".

Апошняе дзесяцігоддзе, па-мойму, "перамалола" ўжо гэту "некультурную"" праслойку грамадства. І дзякуй Богу.

**— Ці не лічыце вы, што наша мастацтва апошнім часам імкнецца стаць залішне "элітарным"?**

— Часопіс "Спадчына" — безумоўна, элітарнае выданне. Былая "Крыніца" — таксама. І нават — той наш "Першацвет" у нейкай меры таксама быў элітарны... Усё ў тым, каго лічыць элітай. Не "жменьку" ж так званых літслюньцяеў, якія, выбачайце, толькі й глядзелі б на бабскія "телеса" ды смакотна аблізваліся б... Вядома ж, і не ў тым элітарнасць, каб, напрыклад, "карту" называць "мапаю". У нас сапраўды ёсць часопісы з прэтэнзіямі на элітарнасць: "Архэ", "Nihil", але пакуль што я там бачу менавіта **прэтэнзіі.**

**Гутарыў Аляксандр АДЛІВАНЧЫК**

ВЫСТАВЫ

# Музей пачынае новы сезон

Музей сучаснага мастацтва адзначыў сваё трохгоддзе традыцыйнай ужо выставай "Новая калекцыя". Гэта своеасаблівая справаздача за мінулы год. У экспазіцыі прадстаўлены работы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, закупленыя і падораныя музею. Сузор'е імёнаў уражвае, тут і народныя мастакі, і маладыя таленты: Г. Вашчанка, А. Кашкурэвіч, У. Тоўсцік, У. Кожух, М. Бараздыка, Ю. Падолін, В. Касцючэнка, У. Голуб... Асобны гонар музея — падораныя вядомымі беларускімі дызайнерамі У. Цэслерам і С. Войчанкам адзін свой і дзевяць калекцыйных польскіх і венгерскіх плакатаў.

З 59 новых работ, прадстаўленых на выставе, былі набыты за кошт сродкаў музея толькі 8. Натуральна, гэта намнога больш, чым у мінулым годзе, калі музеем была закуплена толькі адна работа. "За кадрам" экспазіцыі застаюцца "баталіі" экспертнай камісіі пры Міністэрстве культуры Беларусі, многія члены якой неадэкватна ўспрымаюць нефармальныя пошукі маладых мастакоў. І крыўды саміх мастакоў, якіх "не хвалюе" адсутнасць у дзяржавы грошай. Музейныя супрацоўнікі сумна жартуюць, што нават уваход у экспазіцыю бясплатны, таму што ў музея проста няма грошай набыць касавы апарат. А як вядома, у кожным жарце ёсць доля праўды...

Парадокс, аднак адкрыцці новых выстаў у музеі адбываюцца рэгулярна чатыры-пяць разоў на месяц. А працуюць пры гэтым у аддзеле выстаў толькі тры чалавекі і іх зарплата больш падобная на сацыяльную дапамогу. Таму калектыўны выезд музейных супрацоўнікаў у лес па грыбы імі самімі ўспрымаецца часткаю бесперапыннага перформанса іх "калямастацкага" жыцця.



На жаль, дзяржава зрабіла толькі першы крок да стварэння музея. Лабірынты выставачных залаў на праспекце Скарыны — часовае месцазнаходжанне стваранай калекцыі. Але ў нашай краіне часовае заўжды самае трывалае. За тры мінулыя гады бюджэтных грошай хапіла толькі на праектаванне на месцы былога кінатэатра "Беларусь" будучага будынка музея, які мусіць адпавядаць ультрасучасным запатрабаванням як звонку, так і знутры. Аднак пад рэальнае будаўніцтва грошай у дзяржавы пакуль што няма. І аптымізм дырэктара музея прафесара Васіля Шаранговіча пашыраецца толькі да бязмежнасці развіцця сучаснага беларускага мастацтва, аднак не на будоўлю музея сучаснага мастацтва.

І пры ўсім гэтым музей выключна папулярны ў мастацкім асяродку, за права выставіцца тут спрачаюцца нямала мастакоў. І гэта пакідае надзею...

**Н. В.**

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ

АБРАЗКІ

Лідзія АРАБЕЙ



## Пажаданні

Каб збываліся ўсе пажаданні, якія людзі зычаць адно аднаму ў святы, то ўсе людзі былі б здаровыя і шчаслівыя.

Каб збываліся ўсе праклёны, якія людзі ў злосці пасылаюць адно аднаму, то чалавецтва даўно вымерла б альбо ўсе былі б калекамі.

## Крыжыкі

На аголеных грудзях параненых хлапчукоў — салдатаў чачэнскай вайны — крыжыкі. Можа, маткі, адпраўляючы сыноў у армію, начапілі ім тыя крыжыкі — просячы заступніцтва ў Бога. Але Бог не абараніў хлапчукоў ад балючых ран, а колькі іх з такімі крыжыкамі палягло ў зямлю, запакаваных у фальгу, як цукеркі.

## Кроў

Горы, пакрытыя снегам, горы, пакрытыя кустоўем, даліны пад высокім сінім небам — харaство, паэзія чачэнскай зямлі. І за кожную гару, за кожную даліну ліецца кроў. Адны ў другіх адбіраюць і горы, і жыцці.

## Можна падумаць

Дапатопны, цёмны люд, які верыць у прымхі, забабоны, якіх не кранулася рука цывілізацыі, дзікая мова — такімі паўстаюць з некаторых твораў беларускіх пісьменнікаў сённяшнія беларусы. Можна падумаць, што мы і праўда не дажылі да права называцца нацыяй, што нам і праўда патрэбна апека разумнейшага. Толькі дзе ён, разумнейшы?

## Зверху ўніз

Танцы былі заліхвацкія, пасля кожнага з іх, ускочыўшы за кулісы, яна выцірала з твару пот. Але зала апладзіравала, і яна, разам з усім ансамблем, лёгка, з усмешкаю, выбягала на сцэну, кланялася, быццам танец ані крышачкі яе не стаміў.

Але маладосць мае той недахоп, што хутка канчаецца. А разам з маладосцю скончыліся і танцы.

Яна ўладкавалася на завод. Паяла там дроцікі адзін да аднаго, не вельмі разумеючы, як тыя дроцікі будуць потым працаваць. Але старалася, і ў яе ніколі не было браку.

Гады праляцелі, як тыя мухі, і вось яе адправілі на заслужаны адпачынак. Яна паспрабавала жыць на пенсію, якую ёй прызначылі, але пенсія была такая маленькая, што яна некалькі гадоў не магла купіць сабе новыя панчохі, бо тыя, што мела ў запасе, зусім падраліся.

Яна ўладкавалася дворніцаю ў сваім двары. У свае немалыя ўжо гады згрaбала лісце, чысціла снег, выцягвала цяжкія кантэйнеры са смеццем.

Прыйшоўшы з работы, адразу кідалася пад душ — пот змываць. І ўспамінала той пот, калі танцавала. Пасля паэзіі акунулася ў суровую прозу.

## Перасцярога

У яго цяжка хварэла і памерла жонка. Ён быў яшчэ малады і хацеў ажаніцца яшчэ раз. Але пра кожную кандыдатку ў новую жонку збіраў цяпер звесткі пра яе здароўе, каб зноў не ўзяць хворую.

## Маналог

— Думаеш, сям'ю зберагчы так проста? Мой жа, бывала, за кожнай спадніцай ганяўся, колькі ў яго баб перабыло. Я плакала ў падушку, але трывала, бо ад кожнай бабы ён усё-такі ў сям'ю вяртаўся. А цяпер астыў, перабясіўся і ўжо толькі сям'я яму трэба. І цяпер складна жывём — дзеці дарослыя, унукі. А каб я тады ў развод кінулася — і ён бы недзе скруціўся, і дзеці без бацькі засталіся б, унукі без дзеда.

Так што глядзі...

## Крычы не крычы

Крыкі, спрэчкі ледзь не да бойкі ў тралейбусах, у электрычках — свабода ж слова! Адны крычаць за камуністаў, другія — за дэмакратаў, думаюць, хто каго перакрычыць, той і пераможа.

А жыццё ішло, каціліся, і тыя, што пры ўладзе, рабілі сваё, не зважаючы на крыкі народныя. І спакваля пачало цішэць. Быццам бы зразумеў народ, што нічога ад яго не залежыць, крычы, не крычы. І моўчкі едуць цяпер у электрычках, у тралейбусах, а калі хто ўздыхне ды загамоніць, то хіба пра цэны высокія, што ўсё растуць і растуць. Але і іхняга росту народ не стрымае — крычы, не крычы, хоць і свабода слова.

## Год трынаццаты

Бывала, пісалі, хваліліся, як пайшлі далёка ў эканоміцы ў параўнанні з 1913 годам — гэта да першай сусветнай вайны.

Цяпер ніяк не дагоняць у эканоміцы таго, што было некалі, у тым жа трынаццатым.

## Яйкі

Па шчытах аўстрыйскіх паліцыянтаў цяклі жаўткі, бялкі — гэта дэманстранты закідвалі іх яйкамі — свежымі, можа, нават, дыетычнымі. Ну і дзіва! У нас яйкі дэфіцытны прадукт, за імі часам стаяць у доўгіх чэргах, яны вельмі дарагія, у нас нікому і ў галаву не прыйшло б адстойваць свае правы, кідаючыся яйкамі.

## Выгада

Пераўтвораны ў груду металу помнік Леніну малою хуткасцю перабіраўся з Прыморскага краю ў Кітай. У Кітаі прыбыло каштоўнага металу, у прыморскім краі — грошай. І тым, і тым выгада.

## Рэўнасць

Рэўнасць — каварная паненка. Калі хлопец гуляе з дзяўчынаю і раптам каля яе закруціцца новы кавалер, то першы можа паспяшаць і ажаніцца, каб у яго не адабралі дзеўкі. Гэта як на базары, калі ты таргуеш тавар і тут падвернецца новы купец, то ты хутчэй і купіш, каб табе не перабілі торг. Хоць потым, прыйшоўшы дадому, і ўбачыш, што купіў не тое...

## Дождж

Ты сядзіш у хаце, табе цёпла і суха, а за вакном хлешча дождж, б'е ў шыбы, грыміць па даху, зліваецца ў капяжы. І табе нібы спакойна, той дождж табе не робіць шкоды, ён не дастае цябе, як ні стараецца, ты абаронены сценамі, дахам.

І разам з тым табе трывожна, бо за вакном стыхія, якой ты рады не дасі, яна будзе гуляць, колькі ёй захочацца, будзе трымаць цябе ў палоне, і ці толькі ён, гэты дождж, мацнейшы за цябе, і ты супроць кожнай стыхіі — мурашка.

## Прытулак

Ці мог Васіль Быкаў, ваюючы супроць Германіі, лічачы немцаў смяротнымі ворагамі, думаць што некалі, праз пяцьдзесят гадоў, будзе шукаць прытулку ў Германіі ад беларускіх цемрашалаў? І прызнавацца, што тут, у Германіі, ён адчувае сябе больш бяспечна, чым у Беларусі і ў Расіі?

Несправядлівыя шляхі твае, Госпадзе.

## Ранжыр

Мужык выстраіў сваю любоў па ранжыру і аб'явіў:

На першым месцы — унучка.
На другім — сабачка Бобік.
На трэцім месцы — унук.
На чацвёртым — дачка.
На пятым — жонка.

Як бы хацела жонка памяняцца месцам з сабачкам!

## Вучымся

Кожнае процiпраўнае дзеянне ў Расіі ўспрымаецца ў Беларусі як дазвол на тое самае. Калі ім можна — то чаму нельга нам? Вучымся ў старэйшага брата. А тое-сёе пераймае і Расія ў Беларусі.

## Інтэрв'ю

Паэт у інтэрв'ю адной газеце вельмі хваліў сваю жонку — яна і верны сябра, і суровы, але справядлівы, крытык, і вельмі добры, ласкавы чалавек.

Жончына сяброўка сказала жонцы паэта:

— Бачыш, як муж цябе любіць, як паважае, як прынародна хваліць.

— Няхай бы не пахваліў, — адказала паэтава жонка, — я б яму свет нямілым зрабіла.

## Пра дэспатаў

Чытаючы кнігу Аркадзя Белінкова пра Юрыя Алешу, набрыла на цікавыя думкі:

"У эпоху, калі дзяржава ператвараецца ў шайку злачынцаў, звязаных страхам за свае злачынствы, ля ног гэтай шайкі поўзае бяздарнасць розных спецыяльнасцяў, і яна абараняе шайку, добра разумеючы, што калі прыйдзе іншая шайка, альбо, што ўжо зусім катастрафічна, да ўлады прыйдзе дэмакратычная дзяржава, то яна, гэта бяздарнасць, згубіць дабрабыт".

І яшчэ:

"Дэспаты, гэта такія людзі, якім дазваляюць быць дэспатамі..."

## Ахвяры

Ёсць людзі — ахвяры, яны свядома ахвяруюць сваімі жыццямі ў імя ідэі. Джардана Бруна спалілі на кастры. Цяпер на кастрах не паляць, але ёсць шмат іншых спосабаў расквітацца з тымі, хто адважваецца пярэчыць начальству.

## Чужое святло

На сходах ён, бяздарны і сквалыжны, падсядаў да людзей славутых. Калі ў перапынках тыя збіраліся купкамі, ён зноў тачыўся ў іхняе кола. Хацеў, каб святло тых славутасцяў падала і на яго, каб навакольныя і яго далучалі да тых славутасцяў.

## Яшчэ з кнігі А. Белінкова:

"Сапраўдны мастак гэта чалавек, які ўсё бачыць і ўсё разумее, які гаворыць тое, што ён думае, і якога за гэта знішчаюць".

## Пагарда

Эла Памфілава, ходзячы кандыдаткаю ў прэзідэнты Расіі, можа, каб набраць сабе ачкі, а можа, і не думаючы пра тыя ачкі, глыбока абурылася, што "ў нейкай Польшчы топчуць расійскі сцяг".

Не, глыбока сядзіць шмат у якіх рускіх пагарда да іншых народаў. Польшча для Элы Памфілавай — "нейкая Польшча".

## Жаўрук

Лета. Сонца. Цяплынь. Мы з мужам ідзём па селавой дарозе на яго радзіме з могілак, дзе мужава маці, разам са сваімі супляменнікамі, пахавана ў брацкай магіле. І раптам над намі, з чыстага сіняга неба, пачуўся спеў. Я глянула ўгору. У нябеснай высі, быццам прывязаны нябачнай нітачкай да зямлі, трапятаўся і спяваў жаўрук. Дзіця горада, я ўпершыню бачыла жаўрука ў небе і чула яго спеў. І гэта быў цуд. І ён азначаў, што жыццё працягваецца.

## Доўгае жыццё

Мая цётка моцна перажывае, што так доўга жыве — за дзевяноста пяць перавалiла.

— Дочкі старыя, хворыя, а ў мяне нічога не баліць і чую, і бачу добра. Не дай Бог каторую перажыву, — гаруе цётка.

## Лекі

Чалавек хварэе, ніяк не можа ачуняць і ўжывае то тыя, то іншыя лекі. Не памагае. Шукае ратунку ў травах і нават у экстрасэнсаў, але хвароба не мінае, а нават разрастаецца.

Так і з вялікаю Расеяй. Якіх толькі лекаў ні ўжывала, якіх эксперыментаў ні рабіла — і самаўладства, і дыктатура пралетарыяту, і спакойны застой, рабіла прымочкі з нацыянальнай ідэі і нават піла міксутуру дэмакратыі, але ніяк не можа стаць вялікаю не толькі сваім абсягам.

## Танцы

Восьмага сакавіка ў Чачні, каб пазабавіцца і зрабіць прыемнае жанчынам, салдаты-федэралы ў лагеры для бежанцаў наладзілі танцы. Але ніводная чачэнка не пайшла танцаваць з рускім. А вы кажаце — народ падтрымлівае...

## Законы

Не магу зразумець расейскіх законаў. Чалавека, якога па тэлевізары на ўвесь белы свет паказалі голага ў кампаніі з путанамі, які браў хабар гарнітурамі (чатырнаццаць штук), допускаюць да бараньбы за крэсла прэзідэнта. Мне сорамна глядзець на яго, няўжо яму не сорамна сябе паказваць?..

## Ідэалы

Ён палову жыцця праседзеў у турмах за дробныя кражы. Недзе гадоў пад сорак вызваліўся, пасяліўся ў маткі, якая чакала яго і не выпісвала з кватэры. І ён вельмі дзівіўся, што ягоны сусед, інжынер, вечарамі вытрэсвае дываны, гуляе са сваім малым дзіцем. У ягоным уяўленні інжынер павінен быў вечары праседжваць у рэстаранах, ездзіць на машыне і не ведаць ніякіх побытавых клопатаў.

## Розум

Самае вялікае і самае агіднае, што стварыла прырода за вякі — гэта розум чалавечы. Розум можа рабіць вялікія адкрыцці, планаваць цудоўныя будынкі, гарады, саборы, ствараць шэдэўры музыкі і мастацтва. І разам з тым у ім спеюць самыя каварныя, самыя агідныя задумы, ён вынаходзіць спосабы, як лепей забіць чалавека, як яго абылгаць, як разбурыць тое, што ён стварыў.

За жыццё чалавечы мозг набірае столькі інфармацыі, што каб яе запісаць на нейкую стужку, то тая апаясала б усю зямную кулю, а каб яе размалёўваць, яна мела б усе колеры вясёлкі і да таго ж яшчэ чорны.

## Мудрасць

Мудрасць народа заключаецца не ў тым, каб ён умеў кіраваць дзяржаваю, а ў тым, каб ён умеў выбраць урад, які б дастойна кіраваў дзяржаваю. А пакуль народ будзе баяцца выбраць кіраўніка разумнейшага за сябе, то і будзе мець урад, якога сам ён і варты.

## Некалі

Якое пачуццё павінна кіраваць паэтам, які павінен мець ён талент, каб верш, які ён напісаў, прачытаў і заплакаў над ім чалавек, што народзіцца толькі некалі...

## Імператрыца

Як вялікае для мяне адкрыццё — руская імператрыца Аляксандра Фёдараўна пакутавала ад таго, што персоны царскага двара не вельмі яе паважалі, лічылі чужынкаю, што ў яе, як у простай жанчыны, балелі ногі, што была яна адзінокая.

Калі ўжо імператрыца пакутавала, то што гаварыць простай кабеце.

## Вынаходства

Дзікуну далі агонь, каб ён варыў на ім мамантаціну, а той ўзяў ды падпаліў свой вігвам. То ці азначае гэта, што агонь — кепскае вынаходства?

Расіі далі дэмакратыю, каб яна паспытала прыстойнага жыцця, а яна зрабіла з дэмакратыі анархію. То ці азначае гэта, што дэмакратыя — кепска?

Трэба ўмець карыстацца вынаходствамі.

## Агарод

У маёй цёткі ў Нізку быў пры хаце агарод. Там раслі, аж буялі, агуркі, капуста, морква, буракі. Яркімі кветкамі цвіў мак, вялікі загон займала бульба.

*(Працяг на стар. 12)*





КРЫТЫКА

## "Незламаная свечка"



Анатоль Казлоў. Незламаная свечка

**Чатыры аповесці ўвайшлі ў новую кнігу арыгінальнага і цікавага празаіка Анатоля Казлова, выпушчаную выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Галоўныя героі твораў — кожны са сваім лёсам, але аб'ядноўвае іх адзінота. І не толькі тая, калі няма поруч чалавека, з якім бы можна было падзяліцца самым патаемным і які абавязкова зразумеў бы цябе. У большасці выпадкаў гэтая адзінота пападае пад вызначэнне — маральная, духоўная, тады, калі нібыта і ёсць той, з кім адчуваеш сябе добра, але разам з тым не стае душэўнага пастаянства.**

**Самы ж драматычны лёс у Вілена Падкіднога з аповесці "Дзеці ночы". Імя свайму герою А. Казлоў выбраў невыпадкова. Магчыма, хто-небудзь з чытачоў не звярнуў на гэта ўвагі, таму патлумачу: Вілен у рускім варыянце расшыфроўваецца як "Владимир Ильич Ленин". Імя, дарэчы, вельмі распаўсюджанае ў першыя гады савецкай улады. Ды і пазней пра яго часам успаміналі бацькі, называючы так сваіх дзяцей. Вілен з аповесці "Дзеці ночы" не толькі шчасця не знайшоў, а і апынуўся на ўзбочыне жыцця. Ён лішні ў гэтым жыцці. Выпадкова з'явіўся на свет, бо маці, калі можна назваць маці тую, якая дала яму жыццё, адразу адцуралася ад сына. Калі ж Вілен падрос, ён стаў звычайным бамжом. Няцяжка здагадацца, чым гэта ў хуткім часе скончылася б. Калі варыянты і магчымы, дык яны вялікага выбару не даюць: ці ранняя смерць, ці турма. І ўсё ж альтэрнатыва з'явілася. З гэтага моманту аповесць, уласна кажучы, і пачынаецца. На Вілена Падкіднога звярнуў увагу нехта Максім Гурон, які даўно лічыць сябе выключным чалавекам і ўпэўнены, што яму наканавана вырашаць лёсы іншых людзей. Вілен патрэбны Гурону не толькі як аднадумца, ён гатовы зрабіць яго сваім намеснікам, бо ўпэўнены, што так прадвызначана зверху. Таму адразу адкрываецца Вілену: "Прыйшло тое на зямлю, пра што гаварылі ў мінулых стагоддзях, чаго чакалі такія гаспадары жыцця, як мы — гуронаўцы. Гэта наш баль, баль нашага вялікага Гаспадара. Мы заказваем музыку, самі граем і танчым, выбіраем ахвяр і даём дазвол на жыццё".**

**Звязаўшыся з сатаністамі, Вілен Падкідны як быццам блізкі да сапраўднага шчасця. Ёсць дастатак, ёсць "шасцісоты" мерседэс... А перспектыва яшчэ больш заманлівая. Але, як высвятляецца, за такое шчасце трэба плаціць. Прытым дорага. Цаной жыцця дзяўчыны, якую яшчэ нядаўна ён кахаў.**

**Душа Вілена як бы раздвойваецца. Сумленне, якое да пары да часу драмала ў яго, прачынаецца: "А ты ж падымаўся па прыступках на свой эшафот, на эшафот зла, — пачуў Вілен голас двайніка, — каб не гэта дзяўчына, твая Нінка, то стаў бы ты і на апошнюю, трынаццатую прыступку, а там дарогі і вяртання назад ужо б не было. Чорны балахон смяротніка закрыў бы ад цябе назаўсёды апошні промень сонца. І ты быў бы вечным сабачанём-служкаю князя цемры".**

**Цемра — тое страшнае, што паглынае чалавека. Чалавек супраць цемры — чалавек, які робіць выклік абставінам. Інакш зло будзе і надалей множыцца, прадаўжацца, перадавацца з пакалення ў пакаленне. Падобная думка пакладзена ў аснову аповесці, якая дала назву кнізе. А не зрабі зла — гэта, як вядома, і біблейская запаведзь. Ды ў жыцці многія пра яе забываюць. Забываюць, што калі ты прычыніш зло іншым, яно можа вярнуцца ў цябе самога. А нешта падобнае адбылося з Лёнікам — героем аповесці "Перакуліся, перакуленае". Калі ў іншых творах містычная аснова, дык тут цалкам рэалістычная, а сюжэт як бы выхаплены з сучаснага жыцця.**

**Падставу для роздуму дае і аповесць "Распяцце, альбо Ці ж баліць галава ў вароны..." Элементы містычнага арганічна ўплятаюцца ў сюжэтную канву твора, галоўны змест якога — духоўнае адзіноцтва маладога чалавека, які страціў блізкага сябра. Андрэй, як і герой аповесці "Дзеці ночы", у такім стане, калі ў душы пасялілася крыўда калі не на ўсіх, дык на пераважную большасць людзей. Але, ў адрозненне ад Вілена, Андрэй яшчэ не апусціўся на дно, пакуль трымаецца на паверхні жыцця.**

**Анатоль Казлоў як пісьменнік мае сваю тэму, сваіх герояў. Таму і чытацца яго новая кніга з цікавасцю. Таму і хочацца, каб хутчэй адбылася сустрэча з яго чарговымі творамі.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

# Праўда, без якой нельга

Напачатку не абысціся без даведніка. Можна ў 18-томную "Беларускую энцыклапедыю" зазірнуць, якая цяпер выходзіць у нашай краіне. Патрэбнае слова ёсць у яе першым томе. Армагедон — грэчаскага паходжання. Паводле Старога Запавета — гэта месца збору сіл Сатаны для вырашальнай бітвы з Богам, а калі шырэй — сімвал спрадвечнага супрацьстаяння і апошняй бітвы Дабра са Злом. Але тэрмін "Армагедон", як і канкрэтызаваны сюжэт, звязаны з гэтым, належыць Адкрыццю св. Іаана Багаслова (Апакаліпсіс). Калі прытрымлівацца гэтага меркавання, згаданы паядынак мусіць скончыцца перамогай Хрыста, пасля чаго трэба чакаць Страшнага суда. А ў выніку будзе вырашаецца лёс усіх уваскрэслых: у "нябесны Іерусалім" пойдуць тыя, каму наканавана ўратаванне, шлях жа недараваных ляжа ў пекла.

"Армагедон-1895" — назва чарговай кнігі Юрыя Станкевіча, якая стала жнівеньскім зборнікам "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" за сёлетні год. Ю. Станкевіч, як вядома, зарэкамендаваў сябе цікавым, арыгінальным празаікам, а яго аповесць "Ноч пацукоў" выклікала шырокі рэзананс у літаратурна-крытычным асяродку.

Аднак тых, хто пакуль не паспеў пазнаёміцца з кнігай "Армагедон-1895", мусім расчараваць: згаданая аповесць у яе не трапіла, як і ўвогуле празаічныя творы Ю. Станкевіча. Але адразу прыхільнікаў яго таленту і абрадуем: аўтар гэтым разам выступае ў новай іпастасі, правільней — у дзвюх: драматурга і кінасцэнарыста. І дадамо: пры гэтым адчуваe сябе ўпэўнена, а шмат у чым можа паспаборнічаць і з аўтарамі, хто ў гэтай справе, як кажуць, з'еў зубы. Праўда, як сведчыць лёс п'есаў Ю. Станкевіча і яго кінасцэнарыя "Зямля Запаветная", атрымалася "палка" з двума канцамі. Канечне, прыемна, што цябе напаткаў поспех, але з другога боку... Драматургія, відаць, адзіная галіна мастакоўскай дзейнасці, дзе сёй-той даўно і цвёрда прытрымліваецца няпісанага правіла — "не сваіх" не пушчаць!

Пацвярджэнне таму і творчы лёс Ю. Станкевіча-драматурга, аб чым ён, дарэчы, нагадвае ва ўступе "Ад аўтара": "Працуючы над п'есамі, я калі-нікалі сутыкаўся з подыхам прысутнасці таго невядомага, пра што дасканала выказаўся Лаа Дзы: "...самае наймагутнейшае ў свеце тое, што нельга ўбачыць, пачуць, спазнаць...". І тут жа аперыруе канкрэтнымі фактамі: "Спроба паставіць "Шэву" (назва адной з п'ес. — **А. М.**) у Мазырскім драматычным тэатры рэжысёрам Валерыем Ласоўскім скончылася трагічна для аднаго з выканаўцаў галоўных роляў. Пасля таго рэпетыцыя спынілася. Тым не менш упэўнены, што ідэя п'есы будзе калі-небудзь выкарыстана". І далей: "Не надта зразумелымі засталіся для некаторых тэатральных крытыкаў п'есы "Псеўда" і "Армагедон-1895". Не пашанцавала і з кінасцэнарыем: "Ідэя сучаснага вандроўнага рыцара лягла ў аснову кінасцэнарыя вострасюжэтнага трылера, які, упэўнены, калі-небудзь будзе пастаўлены ў кіно. Разам з кінарэжысёрам Ірынай Волах мы абмяркоўвалі гэту думку, але далей нацыянальнай прэміі за сам сцэнарый справа не пайшла. Магчыма, цяпер не той час".

Заканамернае пытанне, а што хацеў сказаць Ю. Станкевіч сваімі творамі, асобныя з якіх, як бачым, знайшлі прыхільнікаў? Наконт гэтага пісьменнік сведчыць наступнае: "Магчыма, мы самі іншым разам не ведаем адказаў, а толькі і задаём бясконцыя пытанні, сцвярджаючы тым самым абсурднасць нашага існавання. Але ж, мяркую, у рэшце рэшт чытач гэтай сціплай кніжкі асэнсуе ўсё сам".

Не ведаю, як будуць "асэнсоўваць" усё іншыя, а я, узяўшы ў рукі "Армагедон-1895", застаўся прыхільнікам аднойчы абранага мною і нязменнага ў падобным выпадку прынцыпу: чытаць найперш твор, назву якога аўтар выносіць у назву кнігі. Дык вось — п'еса "Армагедон-1895". Што такое Армагедон, мы ўжо ведаем. А наконт зместу твора, дык ён не такі і складаны — не складаны, калі мець на ўвазе падзейную напоўненасць. Але і "Армагедон-1895", і п'есы "Шэва", "Псеўда", якія ўтвараюць як бы драматургічную трылогію (сам аўтар ставіць іх у такой паслядоўнасці: "Шэва", "Псеўда", "Армагедон-1895"), моцныя найперш сваёй мысліцельна-ўнутранай энергіяй, якая лучыцца з іх філасофскай напоўненасці, калі драматург выступае псіхолагам, якому па сіле не толькі (нават не столькі!) аналіз пэўных падзей, з'яў, колькі выхад на перспектыву, у будучыню, а тым самым як бы мадэлюецца далейшае развіццё грамадства ў лёсавызначальны для ўсяго чалавецтва момант, калі выжыванне "гомо сапіенс" ператвараецца ў праблему планетарнага маштабу. Гэта само па сабе не можа не выклікаць зацікаўленую ўвагу, але істотней іншае: Ю. Станкевіч пра ўсё гаворыць на прыкладзе беларускага народа, які ўступае ў новае, трэцяе тысячагоддзе шмат у чым не так, як іншыя народы. У іх таксама нямала праблем. І праблем, якія залежаць не толькі ад іх, але, бадай, цяжка знайсці на планеце яшчэ адзін народ, які б гэтак цураўся свайго, кроўнага, ператвараўся б у манкурта.

Ды пра саму п'есу "Армагедон-1895". Дзеянне адбываецца напрыканцы мінулага стагоддзя спачатку, а затым — праз сто гадоў, на схіле нашага веку. Персанажы ж — адны і тыя: Адам ("вынаходца, адзін з тых, хто спрычыніўся да ўзнікнення першых радыёперадатчыкаў. У двухтысячным годзе Адам — звычайны інжынер"), Ева ("маладая жанчына").

Няцяжка заўважыць, што імёны двух галоўных герояў выбраны невыпадкова: Адам і Ева сімвалізуюць чалавецтва, над якім узнікла пагроза знішчэння. Носьбітамі ж зла выступаюць Гога і Магога, а таксама Даджам, па волі якіх Адам і Ева атрымліваюць мажлівасць двойчы жыць на Зямлі. Апошняя ж тройца, зноў жа, на планеце існуе здаўна, наконт чаго Ю. Станкевіч дае "Неабходнае тлумачэнне": "У старажытнай хрысціянскай міфалогіі, у тэкстах, характэрных для ўсіх рэлігій, згадваюцца Гога і Магога — дзве асобы (ці два дзікія народы), прышэсце якіх павінна было папярэднічаць Страшнаму суду. У Каране Гог і Магог таксама ўспамінаюцца, як дзве дзікія асобы, якія жывуць у "скрайніх межах

# "Святліца" для беларускага дома

Нельга не заўважыць, што нават у гэты, складаны для Бацькаўшчыны час, у правінцыі выдаецца шмат кніжак, часопісаў, газет і альманахаў. Невялікімі накладамі ўся гэтая друкаваная прадукцыя неўпрыкмет з'яўляецца на нашых вачах і гэтак жа таемна прападае...

На вялікі жаль, у бальшыні выпадкаў усё гэта застаецца толькі бачаным і наспех пагартаным і вельмі рэдка — прачытаным. Падобныя выданні маюць *"шырокі розгалас у вузкіх колах"*, аднак, у рэшце рэшт, застаюцца без сур'ёзнага чытацкага водгуку ўвогуле. Сучасная, можна сказаць, абыякавая да ўсякай літаратурнай з'явы, крытыка не звяртае на такую літаратуру ані каліва ўвагі. Магчыма, што тычыцца высокапрафесійнай крытыкі, то гэткае стаўленне да згаданай праблемы з'яўляецца нармальным і слушным, паколькі большасць друкаваных тэкстаў у падобных выданнях не вытрымлівае ніякай аб'ектыўнай крытыкі. І ўсё ж, на мой погляд, з'яўленне падобным чынам тэксты, маюць пэўны ўплыў на развіццё сённяшняга літаратурнага працэсу на Беларусі, асабліва ў правінцыі.

Таму найпершая наша ўвага павінна быць да перыферыйных выданняў. Малапацыху там пачынае ачуньваць *"перабудоўчая ініцыятыва галоснасці"*, якая, здавалася, заглохла была, як няполатая града, на*няпэўны час*. Гэта вельмі няпростая, але архіважная справа — мець сярод правінцыйнага люду свой *"аддрукаваны беларускі голас"*. Хоць, вядома ж, сучасныя варункі гэтаму аніяк не спрыяюць. Хутчэй — наадварот.

Аднак на Полаччыне, Пастаўшчыне, на Гарадзеншчыне, Берасцейшчыне ды ў Баранавічах такая літаратурная, а ў нейкім сэнсе і асветніцка-прапагандысцкая работа не перапыняецца не зважаючы ні на што. Звычайна тут патрэбны завадатар, патрыёт ці проста апантаны нацыянальнай ідэяй чалавек. Як мне здаецца, то менавіта на ім, на яго ініцыятыве і палымянай самаадданасці гэтай справе і трымаюцца ўсе правінцыйныя выдавецкія праекты.

Алеся Бакача з Баранавічаў я ведаю гадоў восем. Як гавораць у народзе: *"гэты з цябе не злезе"*. У добрым сэнсе, вядома. Шмат якія яго выдавецкія праекты ўжо даўно ўвасобіліся ў жыцці і нават мелі адпаведны водгук у прэсе. Я маю на ўвазе ўжо вядомую анталогію сучаснай беларускай паэзіі "Агледзіны", што выйшла ў 1998 годзе.

І вось пабачыў свет літаратурны альманах "Святліца", старонкі якога аддадзены творчым высілкам баранавіцкіх літаратараў. Як і ў кожным альманаху, тут ёсць усё — і вершы, і эсэ, і проза... Пераважаюць жа, як і ва ўсякай *нашай нацыянальнай* таліцэ, вершы. І як заўжды — іх замнога... Бракуе добрай прозы, бо патрыятычныя тэксты Валадзея Болкі, як той неаб'езджаны жарабец, рвуць лейцы з рук, выскокваюць з аглобляў ды пруць з бязмернай сілай у пустое неагляднае поле, замест таго, каб цягнуць гожа складзены цяжкі воз да прызначанага месца. І усё ж творчы патэнцыял у гэтага*наскрозь беларускага* хлопца ёсць. Пачакаем, пакуль стане ён у стылёвыя *аглоблі* ды надыбае сваю глыбокую мастацкую *каляіну*.

Што да эсэ, то і ў Яна Збажыны, і ў Руслана Равякі праяўляюцца зусім неблагія творчыя перспектывы. Але калі першаму бракуе абстракцый і засяроджанасці, то другі — занадта*ўедлівы да свайго*, аднак — бясформенны. Збажына ж *падкі да ўсяго*, а таму, як мне падаецца, схільны да дылетанцтва. Хоць, трэба зазначыць, што падчас у яго з'яўляюцца вельмі трапныя афарызмы ("Каб знішчыць імперыю, часам дастаткова ўкрыжаваць аднаго"), а ўжо праз старонку — больш чым цынічнае хоку ("Распранутая // Прыгажуня ў трупярні // Моцна смярдзела...").

Вершы ж трапляюцца дабротнага кшталту амаль ва ўсіх аўтараў альманаха. І калі ў Бакача, Корнева, Лагвіновіча, Ланцмана, Свірыдовіч і Трысценя пераважаюць беларускія патрыятычныя матывы, то Бусько, Бутрым і Тукай шукаюць сябе ў краявідах беларускай прыроды.

Якаў Шутовіч піша*праз раз* удалыя байкі. Улічваючы, што майстроў гэтага жанру ў нас няшмат, пажадаем яму творчага плёну.

Як для мяне, то асобна выдзяляюцца ў гэтым альманаху вершы Аляксея Белага і *Анатоля Станкевіча*, ужо, на вялікі жаль, нябожчыка. Ён трагічна загінуў пад коламі машыны ў сваім родным горадзе неўзабаве па прыёме яго ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Вось жа лёс! Я ведаў гэтага няўрымслівага і сумленнага чалавека. Ён так*хацеў стаць* прафесійным літаратарам! Не, нават не так: ён хацеў, каб яго*прызналі* паэтам. І ён ім быў, бо хто як не паэт напрарочыць уласны скон?! А ён прадчуваў...

***Я ўжо стары:***
***Хутка на тым свеце***
***Сустрэнуся з табою, мама...***

Зямлі". Даджам (Шатан) трымае іх у сваім падпарадкаванні".

У п'есе Адам і Ева знаходзяцца ў прадчуванні Страшнага суда. Даджам пераконвае іх у гэтым яшчэ падчас першага існавання: "Сусвет імкнецца да неарганічнага стану. Жыццё, тым больш разумнае, яму не патрэбна, і яно адразу знішчаецца. Тэрмін дзесьці тысяча гадоў. Таму Страшны суд для вас пачаўся менавіта з 1895 года. А роўна праз тысячу год тут паўсюдна, на ўсіх кантынентах, на ўсёй планеце павінна быць пустэча з насякомымі. А потым і яны знікнуць". Як пункт адліку, гэты год узяты нездарма. Тады было, як вядома, адкрыта радыё, непасрэднае дачыненне да гэтага меў і Адам. З'яўленне першых радыёперадатчыкаў і дало мажлівасць сілам зла (Даджам прызнаецца: "Імя нам — легіён") лёгка арыентавацца ў Сусвеце, каб знайсці жывое жыццё і паступова знішчыць яго.

Паводле задумы аўтара, пачатак Армагедона — цэнтр Еўропы, сама Беларусь. Тое месца на планеце, дзе зло ў розных яго выяўленнях дае дружныя ўсходы. З сарказмам Даджам канстатуе: "Тут — пачатак, бо нідзе так не адракаюцца ад свайго, жывога, нідзе няма столькі здраднікаў сваёй зямлі... А гной мае схільнасці да самазнішчэння". Гэта гучыць як прысуд. Страшны! Пакуль прысуд аднаму Адаму, які ў сваім новым жыцці і стаў першай ахвярай нягоднікаў. Ды не будзем забываць, што Адам — першы чалавек на Зямлі!

З няменшай вастрынёй згаданая праблема, няхай часам і ў іншых аспектах, закранаецца Ю. Станкевічам і ў п'есах "Шэва" і "Псеўда". Па мастацкіх вартасцях я б вылучыў "Шэву", у якой, гэтаксама, як і ў "Армагедоне-1895", персанажы апынуліся перад тым непазбежным, якое прымушае іх інакш зірнуць на сябе. І на тое, што адбываецца вакол іх. Ды і ў іх саміх. Такая мажлівасць адкрываецца дзякуючы кантактам з Шэвай: "Шэва, — паводле тлумачэння Ю. Станкевіча, — нябачная, неарганічная, палявая сутнасць, магчыма, эфірная форма жыцця ці разумная энергічная субстанцыя плазменнага тыпу. Паразітуе ў чалавеку, што часам фіксуецца на "беснаватасць" і г. д. Сям-там у паўночных народаў такую сутнасць завуць "Шэва" і, калі выяўляюць яе, то імкнуцца пакарыстацца: разгаварыць, каб даведацца пра схаваныя скарбы, будучыню, пра мінулае і інш.".

Шэва выступае, як прадказальнік. Але яна не толькі ўступае ў кантакты з персанажамі п'есы. Шэва да ўсяго існуе і сама па сабе — як субстанцыя, што становіцца выказнікам страшнай праўды пра будучыню чалавецтва. Маналог Шэвы гучыць у пачатку твора, ён працягваецца і па завяршэнні сцэнічнага дзеяння, не сціхаючы нават тады, калі гледачы пакідаюць залу. Інакш быць не можа, бо ў ім сама праўда. Праўда, ад якой нікуды не дзенешся, не схаваешся... Праўда, выказаная па сутнасці прадстаўніком іншага, паралельнага нам свету. А магчымасць яго не адмаўляецца і ў п'есе "Псеўда".

Драматургічныя творы Ю. Станкевіча — смелы палёт аўтарскай фантазіі, але, як чытач паспеў заўважыць, пісьменнік не прыхільнік фантастыкі, не падмацаванай навуковай асновай. Прынамсі, наяўнасць паралельных светаў, пры тым з арганічнай матэрыяй, сёння не адмаўляецца многімі аўтарытэтамі. Гэта яшчэ адно сведчанне, што жыццё куды больш складанае, чым падаецца на першы погляд. Аднак гэта і яшчэ адзін напамінак, наколькі ўсе мы павінны берагчы **сваё жыццё**, сваю планету, каб не знішчыць і саміх сябе, і тое жывое, што знаходзіцца вакол нас. Пакуль яшчэ знаходзіцца...

Вострасюжэтны трылер "Зямля Запаветная" — надзіва дынамічны, з элементамі прыгодніцтва. Хоць і падзейная аснова ў ім сама па сабе не такая і значная, але, як і ў п'есах, Ю. Станкевічу ўдалося ўзняць важную праблему: захавання беларускай нацыі. Гэта асноўная думка-ідэя твора. А тое, што яна, калі можна так сказаць, апранута ў дэтэктыўнае адзенне, дык пісьменнік па сутнасці ідзе шляхам Уладзіміра Караткевіча, калі той, пішучы аповесць "Дзікае паляванне караля Стаха", раман "Чорны замак Альшанскі", таксама закранаў падобную праблему, няхай і ў іншым аспекце. І разам з тым разумеў, што чытацкая ўвага да твора павялічыцца, калі сюжэт атрымаецца вострым, дынамічным. А значыць — можна разлічваць на поспех, на тое, што да тваіх разваг прыслухаюцца.

Кніга "Армагедон-1895", як бачна з таго ж прызнання "Ад аўтара", толькі невялікая частка "невыдаваемых" рукапісаў" Ю. Станкевіча — "колькасць якіх паступова ўзрастае". Не ведаю, як астатнія, а тое, што надрукавана, вартае пільнай увагі. І хацелася б спадзявацца, што з цягам часу п'есы (няхай і адна-дзве) будуць увасоблены на сцэне, а кінасцэнарый — на экране. Не лішне, калі б знайшліся і тыя, хто б мог бы аказаць пры гэтым матэрыяльную дапамогу. Як у дачыненні да кнігі "Армагедон-1895" гэта зрабіў прэзідэнт агенцтва працоўных сувязяў Мінскага аўтамабільнага завода Валянцін Лопан, якому яе аўтар і выказвае шчырую ўдзячнасць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Ці пазнаеш такога?*
*Ты ж пакінула мяне*
*Двухгадовым хлопчыкам.*

Альбо — гэты, з самых апошніх вершаў.

*Хочуць мяне забіць...*
*Прашу ў Бога,*
*Каб дзень стаў ноччу —*
*Схаваюся ў цемры...*

Дзе ж ты схаваешся, *паэт*?! Усё адно *выдасі* сябе *словам*...

Што да большасці цудоўных лірычных вершаў Белага, то хацелася б заўважыць для ўсіх тых, хто трымае ў руках сціло: неабавязкова быць членам Саюза пісьменнікаў, каб пісаць добрыя вершы. І — наадварот. Аляксей Белы — сталы беларускі паэт са сваім голасам, манерай і стылем выканання. І найперш ён паэт па духу. Бо ўсё ж *выштукаваць* верш можна навучыцца, а вось *выдыхнуць* далёка не кожнаму ўдаецца. Калі б Аляксей жыў у Мінску, то, безумоўна, меў бы зусім іншыя *погляды збоку* на свой творчы плён. Хочацца працытаваць, можа, не самыя яркія радкі з верша, прысвечанага памяці сябра-паэта, нейкім чынам адносныя і да згаданага ўжо тут мною Анатоля Станкевіча.

***Не паспелі і мы, хоць, здаецца, свае***
***(Можа, проба ў сябро́ўства не тая).***
***Больш ніколі ён песень сваіх не спяе***
***І элегію не прачытае.***
***На ўзбярэжжы пары,***
***што падорыць лістам***
***Чырвань жніўня і колер жытнёвы,***
***"Хай хоць там будзе добра табе,***
***хай хоць там..." —***
***Мы убачым апошнія словы.***

Не буду "палохаць" *заходнікаў* і сцвярджаць, што цалкам альманах уяўляе сабой выданне высокага мастацкага палёту, кшталту "Arche"... Бракуе пэўнай літаратурнай школы, вопыту а там-сям і таленту. Але найперш — самакрытычнасці, і гэта тычыцца як гэтага канкрэтнага альманаха, так і іншых літаратурных дзяржаўных і не дзяржаўных выданняў, у тым ліку і выбітнога часопіса "Arche"...

І ўсё ж падобныя незалежныя выданні, што час ад часу трапляюць у рукі, дадаюць аптымізму на будучыню, бо яшчэ раз нязмушана напамінаюць нам, што Беларусь жыве не толькі ў Мінску, але і ва ўсіх сваіх аддаленых правінцыях.

Як піша Аляксей Белы:

***Паверым на слова ганцу***
***І дзідзе з Пагоняй.***
***Пакінем шыхты на пляцу***
***І сядзем на коней.***

І як бы не асабліва *вытыркаецца* нефілалагічнаму чытацкаму воку з гэтых прыгожых эмацыянальных радкоў наша абавязковая беларуская памылка: трэба было "*пакінуць* шыхты на *пляцы*", а не сыходзіць з "*пляцу*". Гэтая несвядомая, але вельмі характэрная, як аўтарская, так і наша нацыянальная, памылка ўвогуле — граматычная і гістарычная... Таму скончу свой, можа, залішне паблажлівы, з разлікам на перспектыву, крытычны разгляд альманаха "Святліца" вершам усё таго ж Аляксея Белага "Такія мы...", дзе ёсць менш ці больш удалая спроба *зірнуць* на сябе сённяшніх сваім уласным унутраным позіркам.

***Вып'еш проста з бутэлькі віно,***
***Да парога праве́ўшы знаёмых,***
***І завесіш нарэшце акно.***
***Сёння — дома!***
***Сёння будуць шчаслівымі сны,***
***Бы ў Вялікдзень над плошчаю звоны.***
***А пакуль з адчуваннем віны***
***Адстаўляеш фатэль ад сцяны,***
***Каб дайсці да іконы.***

І хай беражэ нас Гасподзь, покуль нам ёсць што сказаць...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Натуральная чалавечая цікаўнасць...

Я б гэтак назваў тую кніжку вершаў, напісаную стала і сталым чалавекам, для якога выхаванне дзяцей — уласны і грамадскі клопат. Ужо і даўнавата мы пазнаёміліся з Валодзем Мазго — назавём гэтак крыху фамільярна аўтара кнігі Уладзіміра Мазго, паэта, які прысвяціў свой талент галоўным чынам дзецям, але для мяне было і пакуль што застаецца вялікай радасцю выхад кожнай яго кніжкі паэзіі, як і апошняй "Смехапад". Яе назва падзіцячаму крыху наіўная, але дакладная.

Чытаеш верш за вершам і ўвесь час бачыш імкненне паэта, імкненне аўтара выклікаць радасць — гэту галоўную прыродджаную якасць дзіцяці. Маленькі чытач "Смехападу" сустракаецца з аўтарам, як з блізкім па духу сталым чалавекам. Гэта кніжка напісаная, аднак, не толькі дзеля забавы. Яна прызначаная тым дзеткам-малалеткам, якія са свету гульняў пераходзяць у сур'ёзны свет чытачоў. Гэта кніга для чытання ў тую дзівосную пару, калі дзіця адкрые сабе школьны свет, а праз яго з дапамогай бацькоў пачынае адкрываць у сабе самім уласны свет, вучыцца сузіранню жыцця.

На першых кроках самастойнага чытання для дзяцей-першакласнікаў вельмі важна, каб яны адчувалі музыку верша. У творах Уладзіміра Мазго яна ёсць. Выключная музычнасць была ўласцівая яго вершам для дзяцей ад самага пачатку, і гэта вельмі каштоўная якасць.

Вось невялікі верш "Здарэнне" — ён неспадзяваны зместам і музыкальны, сам просіцца на язык.

***Мне сягоння давялося***
***Напаткаць у лесе лося.***
***Я спалохаўся яго,***
***Лось жа выгукнуў: "О-го!"***
***Ты, напэўна, смелы хлопча,***
***Пагуляць***
***Са мною хочаш?***
***Пагуляць***
***Са мною хочаш?***
***Я ківаю галавой***
***На сцяжыне***
***Баравой.***
***І мы ўтрох***
***Ляцім са смехам***
***Праз гушчар:***
***Я, лось***
***І рэха...***

У гэтым вершы ўсё неспадзявана, незвычайна — сустрэча з лосем, тое, што лось размаўляе, сумесная прагулка па лесе... Цудоўна перададзены эмацыйны стан маленькага героя — спалох і цікавасць. Увогуле, псіхалагічная дакладнасць у перадачы пачуццяў дзіцяці ўласцівая вершам Уладзіміра Мазго. Маленькі герой адкрывае свет і палохаецца неспазнанага і радуецца сваім адкрыццям. Натуральная чалавечая цікаўнасць перамагае асцярогу і ляноту.

У кнізе У. Мазго поўна нечаканасцей, неспадзяванасцей, якія ўспрымаюцца падзіцячаму натуральна і пераканаўча.

Трэба, палажыўшы руку на сэрца, шчыра прызнацца, што беларуская літаратура, адрасаваная самым маленькім чытачам, хоць і збавіла значна сваю актыўнасць, усё ж не кідае сваіх даўно сцверджаных магчымасцей, што адкрыліся ў творах Я. Коласа, В. Віткі, Я. Маўра і іх паслядоўнікаў. Дзеці малодшага ўзросту сёння не надта горнуцца да кніжкі, іх больш зачароўвае каляровае дзіва тэлевізара ці розныя гульні на камп'ютэрах. А таму з густам падрыхтаваныя першыя чытанкі, такія, як "Смехапад" У. Мазго, павінны часцей бываць у дзіцячым садку ды і наогул у руках дзяцей. А хіба 3 тысячы экземпляраў не збеднены кніжны паёк для малалетак?

Цяпер маладыя бацькі не ўсе здольныя матэрыяльна забяспечыць сваіх дзяцей так выдатна выдадзенымі ўзорамі дзіцячай літаратуры. Вось і гэтая цудоўна афармлена мастаком М. Беразенскай кніжка "Смехапад" ці мае права быць незаўважанай не толькі ў дзіцячым садку, але і ў кожнай сям'і? Не запрасіць намаляваных у кнізе птушак і звяроў да сябе ў госці, у сям'ю — проста грэх перад сваімі дзецьмі. Ці не варта вярнуць у беларускую сям'ю выдатнейшую завядзёнку купляць дзіцячыя кнігі, выхоўваць да іх ашчадныя адносіны, каб зберагаліся на цэлыя пакаленні ў сем'ях?

Нішто так не пашырае культурнага далягляду дзяцей, як кніжка. Некалькі вершаў, прысвечаных падарожжу ў Італію, незвычайна ўзбагачаюць чытача, а галоўнае, падахвочваюць бацькоў рабіць свае турысцкія падарожжы па свеце разам з дзецьмі. Якое багацце геаграфіі раскрывае хоць бы верш "Італія" — пра падарожжа бацькі з сынам, дзе "летам разам з Генаю мы адкрывалі Геную..."

Кніжка "Смехапад" — не толькі для забавы, але і для навукі, дзеля пашырэння так патрэбнага чалавеку кругагляду. Яна — падарунак беларускім дзецям ад тых, хто не пашкадаваў сіл, таленту і часу, каб стварыць яе.

*Уладзімір Мазго. Смехапад. Вершы, песні, казкі, загадкі. Мінск, "Юнацтва", 1999.*

**Уладзімір ЮРЭВІЧ**




# Акадэмічны вянок

Старэйшая навучальная ўстанова нашай рэспублікі — Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія — рыхтуецца да свайго 160-гадовага юбілею. Падрыхтоўка да свята яшчэ раз паказала нам, што гэта ВНУ вядома не толькі імёнамі сваіх вучоных і дасягненнямі ў сельскагаспадарчай навуцы, але і сваімі літаратурнымі талентамі, аб чым сведчыць выдадзены да 160-годдзя БДСГА зборнік вершаў, апавяданняў, нарысаў, публіцыстыкі "Акадэмічны вянок". Пад вокладкай гэтай кніжкі сабраны літаратурныя здабыткі як тых, хто некалі працаваў ці вучыўся ў акадэміі, так і тых, хто працуе і вучыцца тут сёння. Таму тут можна сустрэць імёны класікаў, творы якіх сталі хрэстаматыйнымі (М. Гарэцкі), імёны тых людзей, для якіх літаратурны занятак стаў прафесійным, а пачынаўся ён менавіта ў акадэміі (Н. Тулупава), тых, хто прыйшоў у паэзію з аграпамічнага факультэта (З. Марозаў). Вядома ж, увайшлі ў зборнік творы выкладчыкаў, якія працуюць у акадэміі зараз ці знаходзяцца на заслужаным адпачынку. Чытач пазнаёміцца з ваеннымі ўспамінамі заслужанага агранома А. Багамолава, з літаратуразнаўчым артыкулам кандыдата філасофскіх навук У. Ліўшыца, з прозай і паэзіяй старшага выкладчыка акадэміі А. Пугача, з вершамі прафесара А. Клачкова. Разам з творамі выкладчыкаў суседзяць і творы студэнтаў — для некаторых гэта дэбют, для іншых ужо не першая магчымасць бачыць свае творы надрукаванымі.

Творы, змешчаныя ў зборніку "Акадэмічны вянок", самыя розныя — і па сваёй мастацкай вартасці, і па сваёй тэматыцы, і па жанры. Але ўсе яны сведчаць аб адным — пад дахам акадэміі жывуць, вучацца і працуюць людзі творчыя, якія дабіваюцца вышынь не толькі ў сельскагаспадарчай навуцы і адукацыі, але якія здольны ўбачыць навакольны свет сваім позіркам і данесці гэты свой погляд да іншых праз вершаваны радок, праз літаратурны роздум.

Зборнік выдадзены за кошт сродкаў БДСГА (наклад 300 асобнікаў), і гэта яшчэ раз пацвярджае тое, што і ў XXI стагоддзе акадэмія ўвойдзе не толькі як цэнтр сельскагаспадарчай навукі, але і як культурна-адукацыйны цэнтр.

**М. СТУДНЕВА,**
**дырэктар Горацкай бібліятэчнай сістэмы**



**ЧАСАПІС**

## "Сто лічылак, загадак, смяшынак"

Выдавецтва "Юнацтва" вялікую ўвагу ўдзяляе не толькі выпуску новых твораў беларускіх пісьменнікаў і перавыданню іх, а і нацыянальнаму фальклору, бо гэта, як вядома, крыніца народнай мудрасці, а далучацца да яе лепш як мага ў больш раннім узросце. Адна з апошніх кніг такога кшталту — зборнік "Сто лічылак, загадак, смяшынак", з густам аформлены мастаком Ірынай Лобан. А пра жанр твораў, прадстаўленых у кнізе, канечне ж, гаворыць яго назва. І каторы ні возьмеш,радуешся дасціпнасці, назіральнасці тых невядомых аўтараў, дзякуючы фантазіі якіх усё гэта нарадзілася. Тым большую радасць атрымаюць ад гэтых твораў хлопчыкі і дзяўчынкі, прачытаўшы іх самі ці



пачуўшы з вуснаў дарослых (зборнік адрасаваны дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту). А ад асобных такую, якую некалі мелі, знаёмячыся з імі, іх бацькі, а то і дзяды. У першую чаргу гэта тычыцца лічылак, "узрост" якіх вельмі вялікі, і асобныя даўно сталі хрэстаматыйнымі". Як, для прыкладу, "Кацілася торба":

*Кацілася торба*
*З вялікага горба,*
*А ў той торбе*
*Хлеб, паляніца.*
*З кім хочаш падзяліцца?*

Лічылка ж "Эна, бэна, рэсь...", несумненна, належыць да дзіцячага фальклору, бо такое маглі прыдумаць толькі самі дзеці:

*Эна, бэна, рэсь,*
*Кэнтар, мэнтар, жэсь,*
*Эна, бэна, раба,*
*Кэнтар, мэнтар, жаба.*

Лічылкі цікавыя і тым, што, дзякуючы ім, дзеці атрымлівалі па сутнасці першыя навыкі па арыфметыцы, вучыліся няхітрым падлікам:

*Бег сабака цераз мост,*
*Чатары лапы, пяты — хвост.*

Ці:

*Раз, два, тры, чатыры, пяць,*
*Выйшаў зайчык пагуляць.*
*А за зайцам — шэры воўк,*
*Воўк у зайцах знае толк.*

І ў загадках, змешчаных у гэтай кнізе, шмат той непаўторнасці, дзякуючы якой "чамучкі" вучацца назіральнасці, праз некаторыя прыкметы, якія становяцца для іх свайго роду падказкай, адрозніваюць пэўныя прадметы, з'явы — усё тое, што падпадае пад вызначэнне "навакольны свет". Адразу ж за загадкай ідзе адгадка, надрукаваная ў "перавернутым" выглядзе, а гэта не выклікае цяжкасці даведацца, ці не памыліўся ў сваім адказе. Трэба звярнуць увагу і на такую адметнасць народных загадак. Асобныя аўтарскія творы (а жанр загадкі вельмі папулярны ў дзіцячых пісьменнікаў), магчыма, і больш вобразна насычаныя, але ім не стае ўсё ж фальклорнай лаканічнасці, калі часам дзякуючы нават аднаму сказу можна сказаць вельмі многае. Напрыклад: "Не жывы, а ўгару лезе" (Хмель), ці пра той жа хмель: "Уецца, уецца каля дрэўца". А колькі назіральнасці ў гэтым радку: "Рук многа, а нага адна". Адгадаць, калі не зірнуць адразу ў адгадку, няпроста, а, як высветліцца — нічога складанага: ўсяго-наўсяго дрэва. Прачытаўшы ж: "Хутка бяжыць — не дагоніш", трэба ведаць што гэта — час.

Раздзел жа "Смяшынкі" складаецца як з твораў, якія даўно бытуюць у народзе, так і з сучасных, што з'явіліся нядаўна і зместам звязаны з сённяшнімі рэаліямі. І першыя і другія адразу выклікаюць усмешку. Да "старажылаў" адносіцца смяшынка "Пані і служанка":

"Пані. А ты памыла рыбу перад тым, як паставіла варыць?

Служанка. А нашто? Яна ж заўсёды ў вадзе бывае".

А гэта найсучаснейшая — "У школе":

"Настаўнік. Скажы мне, Пятрусь, чаго Ной узяў у каўчэг чыстых сем пар, а нячыстых дзве пары?

— Штаноў, — адказаў вучань".

Прыдбайце гэтую кніжку сваім дзеткам — не пашкадуеце!

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Васіль ЗУЁНАК



# Жнівень-2000

## Душа

*Нібы Марс пустэльнасці сігналам*
*У душу зямную зазірне:*
*То каналы, то лесапавалы*
*Ў нашай узбалотнай старане.*

*Чую, як з магільнага пагорка*
*Жытнім полем шэпчуць галасы, —*
*А пра што ў дзядоў ідзе гаворка,*
*Я не знаю, і не знае сын.*

*А што ўнук, дык той і не пачуе,*
*Не пабачыць з гарадскіх муроў,*
*Як над Начай лесавік карчуе*
*Пень смалісты для распалу дроў.*

*Бо ніхто не клікне абагрэцца,*
*Як на ляда хлынуць халады, —*
*То ў Каляды выладзіць цяпельца*
*І з падвеем узвіхураць дым...*

*Будзе праўнук зорныя сюжэты*
*На касмічных выдмішчах шукаць*
*І не здагадаецца пры гэтым,*
*Хто яго наважыўся гукаць.*

*Падкажу — няхай сабе адзначыць:*
*Гэта голас-абярог імкне*
*Той хлапчук з душой багоў надначных,*
*Што падобны крышку на мяне...*
3.8.

## Пчала

*Пчала пачала: пчала загула —*
*Гэта ў пчалы песня такая, —*
*Пчала нікому не тоіць зла,*
*Гудзе — значыць, мёд шукае.*

*Па кропельцы з кветак збірае нектар*
*І свой узятак бароніць,*
*Не лезь у вулей, калі не пчаляр:*
*Пчала не любіць староннiх.*

*Не любіць пчала, калі, як вятрак,*
*Ты злосна махаеш рукамі,*
*Твой страх —*
*для пчалы небяспекі знак,*
*Нібыта за пазухай камень...*

*Баяцца пчалы і мёд любіць —*
*Яшчэ паўбяды, не болей...*
*Пчалу ж не любіць — пчаляром*
*не быць:*
*Пчала не даруе ніколі.*

*Не крыўдзі пчалу, не збівай з крыла,*
*Помні: пчала не сказала —*
*Плача пчала, пчала загула,*
*Пчала навайстрыла джала!..*
4.8.

## Камар

*Па законах сям'і лясной*
*Ёсць у кожнага бізнес свой.*
*Заяц зайцаву есць капусту —*
*І нішто сабе, хоць і не тлуста.*
*Лось траву ды кару жуе,*
*А як волат — трывушча — жыве.*
*У ваўка гэткі харч не ў пашане:*
*Воўк спрадвеку жыве з палявання.*
*З палявання жыве і камар,*
*Ды ў яго тут асобы дар.*
*Ён ахвяру не б'е і не рэжа —*
*Ён крывёю мацуецца свежай.*
*У меню — камарыная мара:*
*Мець заўсёды жывую ахвяру.*
*Дужа добра знае камар:*
*Дужа смачны з крыві адвар.*
*І таму ля крыжоў межавых*
*Ён ахоўвае ўсіх жывых.*
*То і дзякуйце: і камару,*
*І што кроў яму па нутру...*
5.8.

●

*На кожную травінку,*
*на кожную расінку*
*Гляджу, як у апошні раз:*
*Нібыта ў вечнасці выпрошваю хвілінку,*
*Што і яднае і разлучыць нас.*

*А час*
*грызе, грызе гадоў скарынку —*
*І мізарнее з кожным днём запас, —*
*Які няўмольны і бяздушны час:*
*Ні здрады, ні спагады, ні супынку...*
5—6.8.

## Вясновыя адценні

*Вырай пралесак асеў*
*На баравым высокім угрэве.*
*На такавішча касу нясе*
*Цецярук, каб сапернiку зрэзаць грэбень.*

*А ў нізінным закутку цень*
*Яшчэ зябкасцю студзеня патыхае.*
*І заімшэлы не знае пень,*
*Што вырашана сонечнымі вярхамі.*

*Шматок зімы пад сасной*
*Схаваўся ў яры гарбылём зляжалым,*
*І снег апошні пахне смалой,*
*І пахне смала снегам падталым...*
10.8.

## Па бартару...

*Мы жывём, беспрададжныя,*
*Без рахункаў і цэннікаў —*
*З нашай праўдай сярмяжнаю,*
*З нашай сутнасцю цынікаў.*

*Наша справа чыноўная:*
*Гнём прасіцеляў дугамі,*
*Каб было ўсім па-роўнаму:*
*За паслугу — паслугаю.*

*Калі ўлагада вартая,*
*Дык і мы "саатвецьсцвенна":*
*Па ўзаемнаму бартару —*
*І ніякай адмеціны.*

*Невідушчасці й нечуццю*
*Аддаём перавагу мы:*
*Тут — хто ўбачыў, хай лечыцца,*
*Хто пачуў — хай не звягае.*

*Без рэкламы абменнае*
*Ўсё ў жыцці, — як тавары:*
*І пачуцці абманныя,*
*І бяздумныя тવары.*

*Так і гнём, і выпростваем,*
*Хто з душою гарбатаю,*
*Хто пакрыўся каростаю, —*
*Па-братэрску, па бартару...*
13.8.

## Хто знае...

*Не ўяўляю і ўявіць не магу:*
*Як гэта я... не: як гэта мяне*
*Пакладуць адной галавою на покуць...*
*А трэба ўявіць. І прыдумаць,*
*Як тую*
*Старую*
*Каргу*
*Прымусіць, калі зазірне,*
*Хоць не збегчы самохаць,*
*Дык перапалохаць...*

*Серп тупы дажынае гады, —*
*І чаму гэта я пра яе ўсё,*
*Калі па іржышчы пенсійным*
*думкі блукаюць?*
*А чаму не тады,*
*Калі быў малады,*
*Калі вёсны гулі,*
*Як у кветках чмялі?..*

*А была б, скажам, зараз яна маладая?*
*Што падумаў бы я — хто знае!..*
18.8.

●

*Калі чужакі мы ля родных дзвярэй,*
*Не людзі мы — нелюдзімы.*
*І душы шырэй, і сэрцы шчырэй,*
*Калі ёсць у нас Радзіма.*

*Калі стаіш на роднай зямлі —*
*Крылата ўзлятаеш у неба.*
*І мёд саладзей у сваім вуллі, —*

*Ды й мёду таго не трэба!..*
19.8.

## Свята

*Усе-ўсенькія ў свеце прыкмецілі,*
*Колькі на яблыні кветені.*
*І якая яна прыгожая —*
*І па-свойму для кожнага.*

*Для садоўніка тым прывабная,*
*Што чаканню не здраджвае яблыня.*
*Між пялёсткаў дзівуюцца мошкі,*
*Што салодкія сёння ў іх ножкі.*
*Пчолы роем, самотна чмялі*
*Свой мядовы аблёт пачалі.*

*І ніхто не мог здагадацца,*
*Колькі яблыні выпала працы,*
*Колькі клопату — спраўдзіць існасць —*
*На галінах вясёлых навісла...*
*Пустацветам не адквітнець,*
*У чаромхавы холад сагрэць...*
*Каб пароўну было, па-парадачку —*
*Па карэньчыку кожнаму яблычку...*
*Напаіць, залюляць, даспяліць,*
*З беражкамі сонцам наліць...*

*І тады ўжо, на яблычны Спас,*
*Будзе ў яблыні свята. Для нас...*
20.8.

●

*Свет задуманы Богам*
*Дзеля радасці быў,*
*Ды з нічога ў нічога*
*Ключ прапрашчур згубіў.*

*З той прамашкі Адама*
*І пяклуецца люд.*
*Цяжка нам, і таксама*
*Богу з намі не цуд...*

*Разбягаецца статак —*
*Гурт за гуртам у зброд.*
*Дзе канец, дзе пачатак?*
*Ці ўсё наадварот?..*

*І ужо наканаванне*
*Над зямлёю вісіць:*
*Чалавек — не абраннік, —*
*Час і шлях уступіць.*

*А каму? Бог не выдаў*
*Тых намераў — і зноў:*
*Лабірынты планідаў*
*Нам праз бойні і кроў...*

*Свет нязменна-цудоўны,*
*Ды ў разгуле чумы,*
*Шматаблічнай, шматмоўнай,*
*Не мяняемся мы...*
21—22.8.

## Прадчуванне

*Хмары знядужана неба варушаць,*
*Тужліва хаваюцца ў нетры звяры,*
*Птушкі палётам бяскрылым тушаць*
*Размытыя фарбы кволай зары.*

*Свет ахінуўся грэшным пакровам,*
*Хтосьці агідны сядзіць на плячы.*
*Быццам чакаеш страшнае слова,*
*А той, хто мовіць павінен, маўчыць...*
22.8.

●

*У час імглісты, у час бунтоўны*
*Атрутных слоў*
*Няма мне блізкіх, няма мне роўных, —*
*Няма асноў.*

*У сэрцы згубны хаос бушуе,*
*Сусвет дрыжыць.*
*І хто той трубны разлом пачуе:*
*Жыць ці не жыць?..*
23.8.

●

*Ахопіць сон, але душа жыве,*
*Палоніць — ды не можа абяскрыліць:*
*Яна ў нябёсах зоркаю плыве*
*Між зорак тых,*
*што нам жыццё адкрылі.*
*Што на зямлі закончылі свой шлях,*
*Адзначаны пясчанымі грудкамі,*
*Што толькі ў сне —*
*снам невядомы страх —*
*Мы на спатканне радасна гукаем.*
*Дзядоў і прадзедаў, нязнаных, пазнаём,*
*Як з роўнымі, гамонім і смяёмся.*
*І вечнасцю, як і яны, жывём,*
*Пакуль ізноў —*
*смяротнымі — прачнёмся...*
25.8.

## Калісьці...

*Калісьці ўсё было: была вясна —*
*Глыток жывой крыніцы,*
*І ў моры зорным светлы ўзмах весла —*
*Чароўнасць таямніцы...*

*Чаромхава кіпелі халады —*
*А сонца ззяла.*

*Была вясна. І вечнасць невады*
*Не расстаўляла.*

*Было надрэчча з песняй салаўя: —*
*Аб чым? Не знаю...*

*Дзе песня тая, у якіх краях, —*
*Каго спытаю?..*

*Будзённа дні апошнія рыпяць —*
*Сышлі з арбіты.*
*Загадкі неразгаданыя спяць*
*Вясной забытай...*

*Калісьці*
*Ўсё было...*

*Калі ж ты*
*Ўсё было?..*
25.8.

•

*Няма ў сусвеце зваротнага руху:*
*Кругамі, кругамі — але наперад.*
*І толькі аднойчы я тайну падслухаў:*
*Як Бог і сам сабе не паверыў*
*І сам здзівіўся: "Няўжо ніколі*
*Не павярнуць мне палёт імклівы,*
*Няўжо й сусвет не пазнае болей,*
*Што значыць і юным быць,*
*і шчаслівым?.."*
25.8.

## Фантазія гадавога чыну

*Звычцы той не чыню перашкод:*
*Каму і калі пачынаць новы год, —*
*І няхай каляндар выбачае,*
*Што каноны яго парушаю...*

1
*Усё пачынаецца з восені,*
*Калі й верабей багаты,*
*Калі то агледзіны, то запрасіны,*
*То водведы ў кожную хату.*

*Восень рупнай ідзе сялянкаю,*
*Па жніўі басаном ступае,*
*Восень цешыцца пагулянкамі*
*І на сватоў не скупая.*

*А таму на дажджы з імжакаю*
*Не зважайце, каб шчасце вялося:*
*Восень, хлопцы, бывае двоякая —*
*І вясна здараецца ўвосень.*

2
*А яшчэ — а яшчэ перад гэтым*
*Было — не забудзьцеся — лета.*
*І восень такая багатая,*
*Што лета з працаю сватала.*
*Хто ў прыпар не зломак быў,*
*Той шчодрую восень здабыў.*
*І я таксама багаты*
*Кавалачкам летняга свята.*
*Са мною — зямельцы паклон,*
*Са мной — сенакосны звон,*
*Са мною — даспелы жнівень*
*І жніўная песня над нівай...*
*Я ў роднага поля ў цане, —*
*Дык што яшчэ трэба мне?!.*

3
*Адкуль бярэцца зіма?*
*З той краіны, дзе нас няма.*
*Вось былі б мы ў краіне той,*
*Знаць не зналіся б там з зімой.*

*Але трапіць туды памкненне*
*Гасне ў бездаражы асенняй.*
*А калі са спазненнем прыходзім,*
*То зіму ўжо мы там знаходзім...*

*І палонімся снежнай бялынню,*
*І дзівуемся: кроў не стыне*
*І на шчоках заранкамі зззяе,*
*І зіма не такая ўжо злая,*
*З ёй і век векавалі, здаецца, —*

*І згаджаемся: хай застаецца!..*

4
*Збеглі ў лагчыны снягі*
*З выдмішчаў цецеручыных,*
*Нача ўвайшла ў берагі*
*Селішчам сем'яў качыных.*

*Ля старыц, усцяж ракі,*
*Сонцам рассыпаным — лотаць,*
*І ў сонечных кронах гракі*
*Чорнае пер'е залоцяць.*

*Зябка бяроз карані*
*Адхукваюць дол на сугрэвах.*
*І людзі — куды ні зірні —*
*Толькі Адамы і Евы.*
26—27.8.
Лысая гара.

ПРОЗА

Леанід ЛЕВАНОВІЧ



# АПОВЕДЫ-БЫЛІ

## Самотны баравік

*Земляку Масею СЯДНЁВУ*

Бралася на вечар, калі я вяртаўся ў сваю вясковую хату. З трохлітровым слоікам сырадою нетаропка крочыў лесавою дарогай. Хадзілі і ездзілі па ёй мала, і яна спакваля зарастала травою, шыракалістым, вушастым трыпутнікам. Высозныя хвоі шчодра абдорвалі дарогу шышкамі, шыгаллем.

У кустах арэшніку пачулася нейкая валтузня, трывожна крыкнула каўкасойка, узляцела на прысадзісты малады дубок. Я загледзеўся на крыклівую пярэстую птаху і ледзь не наступіў на баравік. Аж сэрца ёкнула. Грыб вырас проста на дарозе. На тоўстым моцным корані ён ганарліва ўзвышаўся над шыгаллем і друзам, які сагнала сюды дажджавая вада і ўпакавала хвалістымі слаямі. Смуглява-карычневы капялюш баравіка быў задзірыста ссунуты набакір. Асілак дый годзе!

Нажа з сабою не было, выдзіраць грыб з коранем не падымалася рука. Вырашыў прыйсці сюды раніцай, хоць меліся іншыя планы: збіраўся касіць з расою чарнобыль, які нахабна захапіў узмежкі, лез на бульбу.

І вось ранкам, як толькі праз сівы рэдкі туманок прабілася сонца, я пакіраваў у лес. Вядома ж, пайшоў не па дарозе, дзе мяне чакаў смуглявы мацак — я спадзяваўся, што за ноч ніхто яго не зрэзаў, што ён яшчэ болей падрос, падужэў. У лесе знайшоў некалькі лісічак, бялява-жоўтых курачак, маладзенькіх чырвоных сыраежак-капялюшнікаў. Большыя сыраежкі ўсе былі чарвівыя. Шмат іх было зрэзана, там-сям бялеліся карэньчыкі іншых грыбоў — усё гаварыла, што прайшла тут цэлая раць грыбнікоў.

Але гэта сляды мінулых дзён. Сёння было яшчэ ціха. Маўчала і лясное птаства: яно сваё адспявала, выгадавала дзятву і пацішу рыхтавалася ў вырай. Ды і птушкі, што не збіраліся пакідаць абжыты кут, таксама не падавалі голасу. Але галасы раптам пачуліся, і не птушыныя — чалавечыя. І вельмі звонкія. У ранішнім лесе нават аддаленыя і невыразныя галасы робяцца дужа звонкімі і чыстымі.

Раптам я згледзеў наперадзе грыбнікоў: ён — здаровы бамбіза ў клятчастай сарочцы навыпуск размахваў белым пластмасавым вядзерцам, яна — таўсматая, у чырвона-сінім спартовым касцюме, і вастраносы хлапчук у акулярах. Трывога апанавала мяне: незнаёмцы набліжаліся да той дарогі... Я наддаў кроку, абагнаў іх і апынуўся наперадзе. Подлы прыём. Ненавіджу, калі мяне ў лесе абганяюць, а тут сам гэткае вырабіў. Бамбіза і жонка, якая пыхкала цыгарэтаю, былі далей, нешта збіралі, хлапчук ішоў з гэтага краю. Ён спалохана бліснуў акулярамі — моўчкі зірнуў на мяне і пасцінуў да бацькоў.

Вось і дарожка. Баравік, падалося, ані не падрос. Няўжо і праўда: грыбы перастаюць расці, калі на іх паглядзіць чалавек. Нахіліўся, каб зрэзаць, але спярша разгроб зямлю вакол кораня — там быў зусім маленькі баравічок — прыхаваў яго мохам. Хай расце, а старэйшага брата, смуглявага мацака, паклаў у кош, які адразу пацяжэў.

Цяпер я ішоў услед за незнаёмцамі. Збоку высунулася з-за дрэў сталага веку кабета з круглымі акулярамі на кірпатым носе.

— Ну што, няма грыбоў, — ці то спыталася ў мяне, ці то сама сцвердзіла. — Мусіць, грыбы рашылі перадыхнуць...

Нічога не паспеў я адказаць, як падаў голас — хрыплаваты, густы — бамбіза:

— Людзей болей, чымся грыбоў. Тры дні таму мы тут нарэзалі два кашы, а сёння пуста.

— Ну, яшчэ восеньскія наперадзе. Зялёнкі, падзялёнкі, апенькі, — падтрымала размову жонка незнаёмца, выняўшы з нафарбаваных вуснаў цыгарэту.

— Так, яшчэ ўсе грыбы наперадзе. І баравікі будуць, і лісічкі, — сказаў і я, нібы суцешыў незнаёмых людзей.

Мы разышліся ў розныя бакі. Незнаёмая сямейка пакіравала да машыны, якая паблісквала непадалёку цёмнасінім кузавам. Накульгваючы, пацінулася кабета ў акулярах у кустоўе. Я ішоў сваім кірункам — на любімае месца, дзе растуць лісічкі. Зірнуў у кош на смуглявага баравіка, згадаў словы незнаёмца: людзей болей, чымся грыбоў, і міжволі ўспомніў бязлюдную вёску Мокрае на маёй роднай Касцюкоўшчыне.

Там на вуліцы, на сцежках, на падворках раслі баравікі. Хоць касою касі. Але збіраць іх няма каму. І збіраць іх нельга. Радыяцыя — трыццаць кюры з гакам — выгнала з вёскі людзей. Вялізныя, здаровыя, як сыр, без чарвяточыны, асілкі-баравікі, прыгожыя сваёй дзікай, атрутнай прыгажосцю, стаялі каля кожнага двара.

А навокал — ні душы. Мёртвая ціша панавала ў вёсцы. Нават вераб'і пакінулі паселішча.

Вёска Мокрае — радзіма Масея Сяднёва, таленавітага паэта, празаіка, якога лёс закінуў далёка за акіян, у Амерыку. І прыехаў я ў Мокрае з "Масеевай кнігай", якая ўбачыла свет у "Мастацкай літаратуры" ў 1994 годзе, калі наша Адраджэнне яшчэ дыхала на поўныя грудзі.

Прывёз мяне ў гэта старажытнае, глыбіннае паселішча — амаль трыццаць кіламетраў ад райцэнтра — пляменнік Валодзя Іваненка. Не буду апісваць, як ехалі праз мае родныя, таксама адселеныя, мёртвыя Клеявічы, міма хаты, дзе былі выдраны масніцы, якія помніліі мае босыя дзіцячыя пяткі. Па новай асфальтоўцы, якая ідзе з Саматэвіч на Вялікі Бор, далей на Браншчыну, у Расію, пераехалі Бесядзь. Уразіў новы мост цераз раку — даўжэзны, жалезабетонны. Падумалася, што гэты мост паяднаў малую радзіму народнага паэта Аркадзя Куляшова з малой радзімай народнага пісьменніка Івана Чыгрынава. Нібы славуты паэт падаў руку маладзейшаму таленавітаму паплечніку. Прыгадаў куляшоўскія пераклады Лермантава, славуты радок: зорка зорцы голас падае...

А яшчэ падумалася: як патрэбен быў гэты мост раней, калі тут жылі людзі!

У мае студэнцкія гады хадзіў аўтобус, маленькі, кургузы, з кабінай, падобнай на вожыкаву пысу, Камунары — Мокрае. Камунары — гэта чыгуначная станцыя бліз Касцюковічаў, апетая некалі Куляшовым. Маршрут праходзіў праз маю вёску. Часта аўтобус буксаваў, калі фарсіраваў Бесядзь, а то і на лузе ў глыбокіх калдобінах заставаўся начаваць. А пасажыры дабіраліся да райцэнтра цалюткую ноч. Некаторыя вадзіцелі адмаўляліся заязджаць у Клеявічы, тады вяскоўцы звярталіся да мяне: "Лёнік, пісаніка ў раёнку...". І я мусіў гэта рабіць. Сталася так, што раней не даваліся пабыць у Мокрым. Гэтулькі кружыў, блукаў вакол, а ў вёску ні разу не патрапіў. У 1957 годзе я паступіў на завочнае аддзяленне філфака БДУ, з Дзяржынска, дзе адпрацаваў год пасля Магілёўскага культасветвучылішча, вярнуўся на радзіму. Адзіная вакансія была ў вёсцы Гаўрыленка — таксама аддаленай, ля самай мяжы з Расіяй. І стаў я загадчыкам клуба ў той вёсцы. Ад Гаўрыленкі да маіх Клеявічаў каля дваццаці кіламетраў па лесе, праз вёскі — іх трэ было праміннуць пяць-сем. Маршруты выбіраў розныя. Заходзіў у Вялікі Бор, Вараноўку, Кавычачы, Жаркі, Машавую, а Мокрае заставалася ўбаку. Вядома, пра Масея Сяднёва я тады нічога не чуў.

І вось цяпер я хадзіў па яго роднай вёсцы, з ягонай кнігай у кішэні. Агледзеў абшарпаны абеліск — помнік землякам. Налічыў 68 чалавек, якіх забрала крывавая вайна. Прачытаў прозвішча: Конюхаў Хвядос Пятровіч, а за ім чатыры браты — Аляксей, Андрэй, Хвёдар, Іван. Зашчымела сэрца: колькі загінула людзей... А якая сямейка! Балюча адгукнулася: і ў мяне ж былі чатыры браты...

Вакол помніка раслі маладыя бярозкі, маўкліва стаялі будынкі: клуб, кантора саўгаса, дзіцячы садок, хаты вяскоўцаў. Я хадзіў па вёсцы адзін. Валодзя нешта корпаўся ў машыне. Быў светлы дзень маладога бабінага лета, першае жоўтае лісце ціха падала долу. Неба было высокае, чыстае і светлае. А мне ўсё навокал здавалася чорным...

Прыгадаў, як Масей Сяднёў апісвае сваё вандроўкі па Мінску. Захацелася адшукаць гэтае месца ў кнізе. Прысеў на ганак маўклівага дзіцячага садка. Будынак нагадваў птушынае гняздо, з якога адляцелі птушаняты. Прачытаў радкі, дзе аўтар піша, што сучасны Мінск — прыгожы, шыкоўны горад. "Ды ўсё ж, — зазначае Сяднёў, — калі я хаджу ці езджу па ім — аўтобусам, тралейбусам, метро, машынай, — прыглядаюся, прыслухоўваюся, напрыклад, да суцэльнай *н е б е л а р у с к а й* гаворкі, да саміх людзей, добрых, цярплівых, міласэрных і прыгожых, мне неяк міжволі прыходзіла думка — з'ехала некуды Беларусь, тая, што я ведаў, і пытаюся ў сябе самога, ці вернецца яна і калі?.."

Гартаў кнігу далей. Неяк па-новаму ўражвалі яе старонкі, ужо чытаныя і перачытаныя. Ну вось хоць бы кароткая нататка "Сум па духоўным Пантэоне". Аўтар піша: "Дух — гэта тое, што цэментуе нацыю і вызначае ейную (адметную) сутнасць. Дух — гэта тое, што актывізуе стваральную дзейнасць нацыі, больш таго, Дух фарміруе нацыю... Ці ёсць у нас, беларусаў, такі Дух, такі павеў, якім бы мы прычашчаліся? Ёсць. Безумоўна ёсць. Ён дадзены нам звыш..."

Уразілі радкі, у якіх аўтар апавядае, як у пасляваеннай Нямеччыне, на нейкім разбітым вакзале ён убачыў прыбітую на сцяне карціну: уся Нямеччына ў руінах, а над руінамі, як запэўненне нязломнасці Духу, — вобраз-выява Гётэ.

"У нашым духоўным Пантэоне няма яшчэ свайго Гётэ. Над нашымі руінамі сімвалам выратавання не ўзняўся яшчэ беларускі Гётэ, — скрушна адзначае аўтар. — Над нашай пакутнай, але прыгожай зямлёй мусіць узняцца Агонь Духу і адбудзецца другое нараджэнне нашай нацыі, яе ўваскрашэнне".

...У тую раніцу грыбоў я назбіраў мала. Баравікоў болей не знайшоў. Вяртаўся дамоў, пазіраў на смуглявага мацака у кашы, які ляжаў зверху над лісічкамі і курачкамі. І здаваўся ён мне вельмі самотным, як падрэзаны асілак, якому б жыць і жыць.

•

Па законах жанру тут трэба ставіць кропку, але... Апошнім жнівеньскім ранкам прыехаў я ў горад, каб павіншаваць з Днём ведаў, з пачаткам заняткаў унука-школьніка і жонку-настаўніцу. Перагарнуў каляндар і ў вочы адразу кінулася: 1 верасня — 85 гадоў з дня нараджэння М. Л. Сяднёва...

Значыць, успомніўся зямляк невыпадкова. Мабыць, ёсць на свеце тэлепатыя. Міжволі падумалася: як ён там? На далёкай чужыне, самотны... Але ж ён кніжку мае. І дзякаваць Богу — не адну.

Жывіце доўга, Масей Ларывонавіч!

## Футбол з пацалункамі

Ніколі не быў я заўзятым прыхільнікам футбола. У дзяцінстве ў вочы не бачыў футбольнага мяча. Нават маленькі гумовы мячык быў для нас, вясковай дзятвы, вялікай раскошай. Але ў студэнцкія гады захапленне футболам авалодала і мной. Спрыяла гэтаму... дзяўчына, смуглявая танклявая студэнтка філфака. Пра ейныя вочы можна было сказаць словамі паэта: "круглые да карие, горячие до гари..."

У часе першых паходаў на стадыён, калі забівалі гол, я болей глядзеў на балельшчыкаў, бо яны падхопліваліся са сваіх месцаў, крычалі, абдымаліся. Неяк адзін мужчына сарваў з галавы капялюш і кінуў яго аж на суседнюю трыбуну. Капялюш, нібы лятаючая талерка, прасвістаў над галовамі і накрыў нечую чупрыну. А ягоны ўладальнік нават не зірнуў у той бок, ён крычаў на ўвесь голас і заўзята пляскаў далонямі. Паступовa, як муха ў мёд, і я ўліп у футбол. Вясною 1963 не прапускаў ніводнага матча. І вядома ж, са сваёй сяброўкай. Менавіта ў той год мінскае "Дынама" стала бронзавым прызёрам. Але ў глыбіні душы заўзятарам футбола не быў. І тады, і цяпер сумняваюся, што можа быць разумнай галава, якая так часта сутыкаецца з цяжкім, а часам і мокрым мячом. І таму вельмі ўразіў мяне такі выпадак.

Аднойчы мы з сяброўкай вярталіся пад раніцу. Гулялі ўсю ноч, але, апроч абдымкаў і пацалункаў, нічым іншым не займаліся. На шчасце, замежнае слова "секс", якое ў нашы дні замяніла людзям каханне, тады не было ў модзе. Дык

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Вывучаем народныя святы

**Нядаўна на кніжных паліцах з'явілася чарговая кніга з серыі "Бібліятэчка народных святаў і прысвяткаў" "Веснавыя святы" (аўтары-укладальнікі А. Аляхновіч і А. Лозка). Гэты дапаможнік ахоплівае веснавы народны каляндар, дзе асаблівая ўвага надаецца**




**Велікодным святам, Зялёным святкам, Дню птушак, і змяшчае метадычныя рэкамендацыі, сцэнарый, гульні і іншыя матэрыялы для вывучэння і правядзення веснавых святаў і прысвяткаў народнага календара. Асноўны кантынгент яго, безумоўна, настаўнікі і выхавацелі дашкольных устаноў. Спатрэбіцца кніга і студэнтам гуманітарных спецыяльнасцей, кіраўнікам гурткоў, фальклорных калектываў, а таксама ўсім, хто цікавіцца каранямі нашай Бацькаўшчыны, адраджэннем беларускай нацыянальнай школы, выкарыстаннем народнай педагогікі ў навучальна-выхаваўчым працэсе; асабліва, калі прыняць пад увагу, што аналагічных выданняў пакуль што вельмі мала і выходзяць яны не так часта, як хацелася б.**

**На аснове дадзеных рэкамендацый і парад настаўнік зможа скласці прыкладны рабочы план урока ці сцэнар пазакласнага мерапрыемства. Прычым неабходна зазначыць, што праца з фальклорным матэрыялам павінна весціся living разнабакова: адны творы прызначаны для азнаямлення з мэтай вывучэння гісторыі, побыту народа; другія — для ўвасаблення на сцэне.**

**Алена МАЙСЮК**

## Непаўторны свет маленства

**Недзяржаўнае выдавецтва "Харвест" добра вядома не толькі на Беларусі, але і за яе межамі. Праўда, не сказаць, каб яно з увагай ставілася да твораў беларускіх пісьменнікаў. Ды нездарма кажуць: няма правілаў без выключэнняў. Нядаўна ў "Харвесце" пабачыла свет кніга вершаў і казак лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянціна Лукшы "Як Ліса лётаць вучылася". У гэтым зборніку тры раздзелы, якія добра дапаўняюць адзін аднаго, а тым самым атрымліваецца зацікаўленая і глыбока-псіхалагічная гаворка вядомага дзіцячага пісьменніка з дзецьмі аб тым, што іх не можа не хваляваць. А гэта і хараство роднага краю, і тое, што акружае хлопчыкаў і дзяўчынак, і, вядома ж, непаўторны, дзівосны свет казкі, а ў гэтым жанры В. Лукша заўсёды адчувае сябе ўпэўнена. Творы на рускую мову пераклалі І. Бурсаў, Э. Скобелеў, Ю. Кушак, В. Суслаў, П. Кошаль...**

## Першая кніга па-ўкраінску

**Гаворка ідзе не аб той кнізе, што некалькі стагоддзяў назад упершыню была выдадзена на мове суседняй нам краіны. Маецца на ўвазе першынец, так бы мовіць, мясцовага значэння. Асацыяцыя творчай інтэлігенцыі "Духоўнае адраджэнне", што працуе ў Мінску, у паэтычнай бібліятэцы "Нашчадкі" выпусціла зборнік паэзіі Алеся Пісарыка "На кленових листах" у перакладзе на ўкраінскую мову Валерыя Стралка, а гэтая кніга стала адзінаццатай у самога А. Пісарыка і першай украінскамоўнай на Беларусі.**

**Пад адной вокладкай сабраны творы розныя па змесце, што даюць поўнае ўяўленне аб творчасці А. Пісарыка. Рэкамендуюць жа зборнік чытачу паэт, заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны, лаўрэат міжнароднай прэміі імя Грыгорыя Скаварады М. Шаўчэнка, старшыня Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Ю. Мушкецік і надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь А. Дронь. Тры прадмоўкі, хоць і невялікія. Ю. Мушкецік, у прыватнасці, упэўнены, што "вершы гучаць натуральна, нібы перакладчык па-ўкраінску іх сам пісаў".**

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Цяпер там пустка. Буяюць толькі лебяда ды чартапалох. І так не толькі каля цётчынай хаты. Ці не пусціць нам на гэтыя землі якіх-небудзь карэйцаў, яны б накармілі нас агароднінаю?

### Невядомасць

Як шкода, што чалавек не ведае, што здарыцца з ім праз некалькі хвілін. Іначай ён не сеў бы ў самалёт, які праз некалькі хвілін разаб'ецца, не сеў бы ў машыну, якая праз імгненне ўзарвецца, не выйшаў бы з кватэры, ведаючы, што ў пад'ездзе яго чакае кілер.

Гэта што за хвіліну... А што казаць пра гады? Што чалавека чакае там, наперадзе?

### Метамарфоза

Мужчыны, такія хвацкія і агрэсіўныя ў маладосці, у старасці робяцца кволымі і бездапаможнымі. І жанчыны, якімі яны некалі пагарджалі, цяпер ім вельмі патрэбныя — каб дзьмухалі на іхнія балячкі, кармілі і дагледзалі.

### Станоўчы герой

— Нам патрэбен станоўчы герой, вобраз нашага сучасніка, на прыкладзе якога выхоўвалася б наша маладое пакаленне, — такія прамовы гаварыліся з высокіх трыбун, такія патрабаванні да пісьменніка ставіла партыя.

І пісьменнікі, якія вельмі хацелі дагадзіць начальству, кінуліся шукаць такога героя — на заводах, на фабрыках, у калгасах. Але нідзе героя не знаходзілі, трапляліся ўсё такія, што не маглі служыць прыкладам для маладога пакалення.

Тады пачалі станоўчага героя выдумляць. І на паліцах кнігарняў з'явіліся кнігі з выдуманымі станоўчымі героямі, з выдуманымі сюжэтамі, фальшывыя з пачатку да канца. Але затое аўтарам тых опусаў чаплялі на шыі лаўровыя вянкі, давалі вялікія прэміі.

### Цытаты

У крытычных артыкулах пра паэзію я ў першую чаргу чытаю цытаты з вершаў, якія прыводзіць крытык. Па тых цытатах відаць, ці сапраўды паэт той варты пахвалы, і яшчэ відаць — як разумее паэзію крытык, якія вершы выбірае для цытавання. А часам бывае, што крытык выбірае радкі, праз якія аніяк не зразумееш — добры гэта верш ці кепскі.

### Чаго вы хочаце

З 1918 года пачалося знішчэнне лепшага генафонду Расіі (і Беларусі). Спачатку грамадзянская вайна, у якой гінула лепшае афіцэрства. Далей — эміграцыя, калі паплылі за мяжу культура, навука. Але нехта яшчэ заставаўся на радзіме. За іх ужо ўзяўся Сталін. Нішчыў усіх, хто прывык мыць рукі і хадзіў у чыстай кашулі, а тым болей, хто насіў гальштук і капялюш.

Хутка ўзяліся і за сялянства, нішчылі тых, хто ўмеў і любіў працаваць і не сядзеў без хлеба. Поўны давер аказваўся беднякам — гультаям і п'яніцам.

То чаго вы хочаце ад народа? Яны ж нашчадкі тых, каму давер аказваўся, якія дужа расплодзіліся і сталі нашым генафондам. І не відаць святла ў канцы тунеля, вельмі мала добрага насення для прыстойнага ўраджаю, а пустазелле разрастаецца само па сабе, не страшныя яму ні замаразкі, ні спякота.

### Новае мастацтва

"Беспредел", як кажуць рускія, у палітыцы, у эканоміцы захапіў і літаратуру. Адна за адной выходзяць кнігі, змест якіх за межамі здаровага сэнсу, якія забіваюць, засмечваюць галовы чытачу, невядома ў чым бачаць задачу літаратуры, ва ўсякім разе, "чувства добрые", альбо "свабоду" яны не ўслаўляюць. Вось адзін з раманаў Дзмітрыя Ліпскерава: жук, які трапіў пад скуру на руцэ героя, расказвае яму розныя прыдуманыя гісторыі са сваёй біяграфіі. Адсечаныя рукі самі па сабе робяць работу, адна з іх — Максіма Горкага, нават перапісвае свае ўласныя раманы.

Альбо раман Віктара Пялевіна — поўная касмагорыя. Спачатку пра ўяўных касманаўтаў, потым пра жыццё мурашак, што вядуць чалавечы лад жыцця, маюць чалавечыя імёны і гавораць пачалавечы, хоць нясуць розную луху.

І разам з тым гэтыя аўтары цяпер модныя, на іх не шкадуюць паперы. Куды вядзе такое новае мастацтва? І бедны Леў Талстой, які сваёю творчасцю хацеў выратаваць чалавецтва. Задача новага мастацтва — свет дарэшты загубіць.

### Лыжка

Дзяўчына гаварыла пра сваю сяброўку:

— Ды яна нічога, цяжэйшага за лыжку, у сваім жыцці не трымала.

### Бог

Дастаеўскі некалі пісаў: "Калі няма Бога, то ўсё дазволена".

Вялікі пісьменнік хацеў гэтым сказаць — калі няма Бога, то няма каго баяцца, няма перад кім адказваць за свае грахі.

Сучасны мудрэц сказаў іначай:

"Калі ёсць Бог, то ўсё дазволена". Ён патлумачыў сваю думку: калі ёсць Бог і ён дазваляе рабіць тое, што творыцца на зямлі — гвалт, забойствы, кроў, — то і чалавеку ўсё дазволена.

### Невідзімкі

Цікавы вобраз у дзённіку Юрыя Нагібіна:

"Нашыя бяздарныя празрыста-пустыя пісьменнікі (названы пэўныя імёны. — **Л. А.**) загортваюцца ў чыны і званні, як Уэлсаўскі невідзімка ў анучы і бінты, каб яго бачылі. Здаецца, яны не вераць у рэальнасць свайго існавання і хочуць пераканаць і саміх сябе, і іншых, што яны існуюць. Адсюль і такія хваравітыя адносіны Міхалкова да прэмій. Медалі павінны абгарнуць яго цела, як кальчуга, тады ён будзе відаць усім".

### Госці

Выходзяць людзі з метро "Кастрычніцкая", кіруюцца на вуліцу Чырвонаармейскую, а тут заслона міліцэйская, праз кожны метр — ахоўнік парадку ў рабой форме.

— Куды ідзяце, забаронена, — спыняюць кожнага.

— Сынок, — просіць дзед з кавенькаю, — мне ў паліклініку трэба...

— А мне ў аптэку, прапусці, — просіць бабка.

— Сказана — нельга! — настаўляе паліцыянт дубінку.

— Чаму нельга?

— Прэзідэнт гасцей прымае...

І сунуцца дзед з кавенькаю, і бабка на хворых нагах на вуліцу Купалаўскую, адтуль на вуліцу Кірава — далёка абыходзяць рэзідэнцыю прэзідэнта, дзе той гасцей прымае.

А вечарам праз экран тэлевізара прэзідэнт прыйдзе ў нашу хату і будзе гаварыць, як ён клапоціцца пра народ, і лаяць апазіцыю, якая затрымлівае рух на праспекце.

### Дзіця

Сёння мець дзіця могуць толькі багатыя людзі, гэта такая ж раскоша, як шыкоўны аўтамабіль, катэдж і рахунак у банку. Бо сёння апранаць дзіця, накарміць ды вывучыць патрэбен вялікі капітал.

### З Дэні Дзідро

"Разумны толькі той, хто такі самы дурны, як мы..."

### Аднагалосна

Пісьменнік Ікс на выбарах у пісьменніцкую раду дапісаў сваё прозвішча і прагаласаваў за сябе. Калі адкрылі урну з бюлетэнямі, то за гэтага пісьменніка аказаўся адзін голас. Аб'явілі, што за пісьменніка Ікс прагаласавалі аднагалосна.

### Золата

У маёй бібліятэцы ёсць яшчэ некранутыя залежы літаратурнага золата, але часам трэба доўга перабіраць кнігі, каб на тое золата натрапіць.

### Інтэлігентныя людзі

Маскоўскі юрыст перад тэлекамерай дакладваў журналістам:

"Уладзімір Гусінскі знаходзіцца ў прывілеяваных умовах, сядзіць у камеры на трох, мае тэлевізар, скора яму прывязуць халадзільнік. Яго сакамернікі — інтэлігентныя людзі. Адзін фальшываманетчык, другі — па эканамічных злачынствах..."

Як той казаў — хоць стой, хоць падай.

### Праўдзівасць

Ёсць людзі вельмі натуральныя ў сваіх паводзінах, яны не стараюцца выглядаць лепшымі, чым ёсць, альбо стварыць сабе нейкі імідж.

І ёсць пісьменнікі вельмі праўдзівыя, натуральныя ў сваіх творах. У тым, магчыма, геній Льва Талстога, што кожны яго сказ магічна перадае праўду жыцця, што пісьменнік не становіцца на хадулі, не прыбягае да штучнасці. Інтанацыя кожнага яго сказа прыцягвае сваёй праўдзівасцю.

### Пахвальба

Федэралы хваляцца — колькі забілі баевікоў. Баевікі хваляцца — колькі забілі федэралаў. І нікому не ў галаве, што і там, і там — чалавечыя жыцці.

### Кампліменты

Сабраліся на традыцыйную сустрэчу выпускнікі універсітэта — пяцьдзесят гадоў з часу сканчэння Альма Матэр. Прыйшлі ў асноўным жанчыны — ужо бабулькі, і толькі адзін мужчына. Былыя сакурсніцы рабілі яму кампліменты — молада выглядае, дасюль прыгожы. Але ён быў ужо такі глухі, што не чуў кампліментаў.

### Брацкая магіла

Уразіла думка — мільярды людзей, што жылі да нас на свеце, пахаваныя ў зямлі, што зямля прыняла ў сябе мільёны пакаленняў і ўсе яны там недзе месцяцца. Што зямная куля ў рэшце рэшт — вялікая брацкая магіла.

### З расказу А. Дракахруста

У тралейбусе на месцы для інвалідаў сядзіць дзяўчына — з голым пупком, з голымі плечыкамі. Да яе падыходзіць бабулька з кійком і просіць:

— Дзіцятка, можа, ты саступіла б мне месца?

Скрывіўшы губы, дзяўчынка паднялася. А потым да той бабулькі:

— Няма чаго гойсаць па тралейбусах, трэба сядзець дома і чакаць смерці...

### З веку ў век

Пасля цёмнай ночы за вакном пачынае шарэць. Потым бялее. Нарэшце з-за аграмадзін дамоў, як з-за лесу, выплывае акрайчык сонца. Адбываецца цуд — нараджаецца новы дзень. І так з веку ў век.

### Трэба было раней...

Пазванілі з Саюза пісьменнікаў і сказалі, што памёр адзін з яго паважаных членаў. Але хаваць будуць з дому, бо саюз не мае грошай ні на дапамогу сваякам, ні на пахаванне. І мілы жаночы галасок дадаў:

— Трэба было раней паміраць...

Некаму, мусібыць, было б выгадна, каб усе беларускія пісьменнікі вымерлі яшчэ пры камуністах.

### Поп

У тралейбус увайшоў поп — малады, прыгожы, з акуратнаю густою чорнаю барадою. Да яго высокай стромкай фігуры вельмі пасавала доўгая чорная раса, падпяразаная на тонкім стане.

Усе пасажыры ў тралейбусе чамусьці прыязна ўсміхнуліся.

### Адкрыццё

Прыйшла думка, як адкрыццё — ад нас абсалютна не залежыць, калі і як мы памром.

### Суверэнітэт

Саюз Беларусі з Расіяй і незалежнасць Беларусі тое самае, каб дзеўка выйшла замуж і нявіннасць захавала.

### Адтуль

Мабыць, чалавек, што адышоў у іншы свет, ведае адтуль пра нас болей, чым ведаў на гэтым свеце, ведае нават тое, што мы тут ад яго хавалі.

УГОДКІ

# Як месяц — адзінокі

## ДА 110-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Сяргея ПАЛУЯНА

Пра Сяргея Палуяна чулі нават тыя, хто незнаёмы з жыццём і творчасцю гэтага пісьменніка, бо яго памяці прысвяціў свой знакаміты "Вянок" Максім Багдановіч. Ды і адна з паэм Янкі Купалы мае падобнае прысвячэнне. А вяртанне С. Палуяна з небыцця адбылося параўнальна нядаўна, калі ў 1990 годзе адзначалася 100-годдзе з дня яго нараджэння. Парупіліся Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша, а ў выніку ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" з'явілася іх кніга "Слядамі знічкі". Зборнік жа С. Палуяна, складзены Т. Кабржыцкай і В. Рагойшам (проза, публіцыстыка, крытыка, а таксама ўспаміны пра яго і вершы-прысвячэнні), з красамоўнай назвай "Лісты ў будучыню" пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" яшчэ ў 1986 годзе і па сутнасці "падрыхтаваў" стогадовы юбілей.

Нарадзіўся С. Палуян 19 кастрычніка 1890 года ў Брагіне і быў трэцім дзіцем у сям'і Епіфана і Аляксандры Палуянаў. А пасля давялося жыць у Крышычах — цяпер Калінкавіцкі раён, куды перабралася сям'я. Гадаваўся Сяргей хлапчуком дапытлівым і быў сярод дзяцей ініцыятарам у розных гульнях. Яго сястра З. Каракіна ўспамінала: "У раннім дзяцінстве мы гулялі з Сяргеем у самаробныя цацкі-хлопчыкі, якія прыдумваў ён сам. Гэта былі палачкі, якія мы апраналі ў анучкі (штаны, сарочка — для мужчын, хустка, спадніца — для жанчын), замотвалі ніткамі. Жывёл рабілі з бульбы, агуркоў і іншай агародніны. Кожны з нас меў сваю "вёску", шмат сем'яў. Сяргей патрабаваў, каб усё было **як у жыцці**. Так, адпраўляючыся з нашымі "хлопчыкамі" ў поле на касьбу, у лес па дровы, у грыбы і г.д., мы павінны былі траціць столькі ж часу, як і на самай справе".

Вучыў С. Палуян меншых і чытаць-пісаць, знаёміў з кнігамі. І сам да ведаў быў ахвочы. Бацька адвёз яго ў Мазырскую шасцікласную гімназію. Там Сяргей зблізіўся з рэвалюцыйна настроенымі рабочымі, распаўсюджваў пракламацыі, удзельнічаў у маёўках. Прыязджаючы на канікулы, наведваўся ў Юравічы — агітаваць мясцовую моладзь.

Бацька, разумеючы, што сына выключаць з гімназіі, адправіў яго ў Мітаву (цяпер Елгава ў Латвіі), каб знаходзіўся пад наглядам родных дзядзькоў і вучыўся ў тамашняй гімназіі. Ды давялося хутка забіраць назад. Здавалася, нарэшце возьмецца за розум. Але, як слушна сцвярджаюць Т. Кабржыцкая і В. Рагойша, "...не такі быў ён, Сяргей Палуян, каб, ходзячы нават за плугам, апускаць вочы долу, нічога больш не бачыць навокал. Ён не мог абысціся без зорак! Позірк яго сягаў угару, за нізкі небакрай, туды, дзе займалася зара новага жыцця".

С. Палуян працягваў займацца рэвалюцыйнай справай. Нарэшце, цярпенню бацькі прыйшоў канец. У злосці ён замахнуўся на сына. Два блізкія чалавекі пасля гэтага разышліся назаўсёды. Такой абразы Сяргей не мог даравацъ. Паехаў у Кіеў. Спыніўся ў дзядзькі, хацеў экстэрнам здаць экзамены за курс гімназіі. Але,калі даведаўся, што тамашнія сацыял-дэмакраты актывізавалі сваю дзейнасць, стала не да вучобы. Тым больш, як высветліў, сярод іх аказаўся і яго дваюрадны брат Іван. Зноў заняўся рэвалюцыйнай барацьбой. А яшчэ з'явілася жаданне пісаць. Вырашыў звязацца з рэдакцыяй газеты "Наша Ніва", якую з цікавасцю чытаў. (У кіеўскай кнігарні быў беларускі аддзел, куды паступалі віленскія выданні.)

Вельмі ўзрадаваўся, калі ў нумары за 1 мая 1909 года прачытаў у "Паштовай скрынцы": "Кіеў—Палуяну. Вашу стаццю "Беларуская справа і ўкраінскае грамадзянства", надта цікава і добра напісаную, збіраемся выдаць нумарам-кніжкай". З'явілася жаданне ехаць у Вільню.

Па прыездзе хутка зблізіўся і пасябраваў з Янкам Купалам. Калі прыбыў Цішка Гартны, знайшоў паразуменне і з ім. А ў астатнім... Па нейкай прычыне быў згублены артыкул, на які С. Палуян ускладаў столькі спадзяванняў. Магчыма, выпадковасць, а магчыма, прычына іншага кшталту. Ва ўсім С. Палуян прывык быць прынцыповым, не баяўся гаварыць праўду ў вочы. Яму не падабалася, што дзеля прыбытку ў "Нашай Ніве" пачалося рэкламаванне выданняў, пазіцыя якіх не адпавядала нашаніўскай. Сказваліся і яго разыходжанні ў ацэнцы дасланых у рэдакцыю літаратурных твораў. Не спадабалася, што М. Багдановіч быў абвінавачаны ў дэкадэнцтве.

Сапраўдную падтрымку Максім-Кніжнік і знайшоў у асобе С. Палуяна. Паэт выказаў яму падзяку і прыслаў свой здымак з вершаваным надпісам:

*Я, нядужы, бясскрыдлы паэт,*
*Помню, раз пазабыў сваё гора,*
*Бо ў той час атрымаў ваш прывет.*
*Я — нядужы, бясскрыдлы паэт:*
*Мо не выскажа вам трыялет,*
*Дык хоч гэты партрэт хай гавора,*
*Як нядужы бясскрыдлы паэт*
*На гадзіну забыў сваё гора.*

**З шчырым паважаннем**
**М. Багдановіч.**
**Яраслаў, 9.II.1910 г.**

Душа душу знайшла. А такой маральнай падтрымкі С. Палуяну ў гэты час не ставала. У "Нашай Ніве" ён знаходзіўся па сутнасці ў духоўным вакууме. Таму і вырашыў вярнуцца ў Кіеў. А ў Кіеве спадзяванні на лепшае знікалі. Некаторыя і з блізкіх сяброў не разумелі, што ў яго на душы. А да ўсяго — беднасць, галеча. Заставалася адно... Самае страшнае. І С. Палуян рашыўся. У ноч з 7 на 8 сакавіка 1910 года ён паконччыў жыццё самагубствам. У перадсмяротнай запісцы не тое што крычалі — крывавілі словы: "Я так люблю жыццё, светласць і красу, ды не на маю долю выпала гэта".

Творчая спадчына С. Палуяна не такая вялікая. Прынамсі, тое, што знойдзена на сённяшні дзень: апавяданне "Вёска" і абразок "Хрыстос уваскрос", дваццаць адзін публіцыстычны, літаратурна-крытычны артыкул, сярод якіх і рэцэнзіі...

Няшмат, але ж нельга не прымаць пад увагу і ўзрост яго. Ды і значэнне твораў выходзіць за межы часу, у якім С. Палуян жыў і пісаў. Ён адным з першых выступіў у абарону нацыянальнай школы. Ён змагаўся за пашырэнне грамадзянскага статуса беларускай мовы, надаваў вялікае значэнне нацыянальнаму друку. Першапраходца С. Палуян і ў галіне тэатразнаўства. Менавіта тэатру ён надаваў вялікае значэнне ў адраджэнні самасвядомасці беларусаў. Ён па сутнасці першым абгрунтаваў значэнне перакладу для ўзаемасувязі літаратур, збліжэння народаў. А як далёка глядзеў наперад, сцвярджаючы, што верш Янкі Купалы, пакладзены на музыку Л. Рагоўскім, "павінен стаць гімнам беларускага Адраджэння".

Глядзеў наперад і — такая несправядлівасць — быў як бы лішнім у сваім часе. Пра гэта, бадай, і пасмяротны трыялет "С. Палуяну" М. Багдановіча:

*Ты быў, як месяц, адзінокі:*
*Самотна жыў, самотна ўмёр.*
*Хоць свет і людны, і шырокі, —*
*Ты быў, як месяц, адзінокі.*
*Красу, і светласць, і прастор*
*Шукаў — і, ад усіх далёкі,*
*Самотна жыў, самотна ўмёр.*

Хоць і позна, але сваю празмерную строгасць у адносінах да сына зразумеў і бацька. Кажуць, паехаўшы ў Кіеў, пасля пахавання нечакана ўсхапіўся ноччу, хацеў бегчы на могілкі. Падалося, што Сяргей не памёр, а заснуў летаргічным сном. Значыць, трэба спяшацца раскопваць магілу.

Маці ж забрала сынаву касаваротку і да самай сваёй смерці ў 1922 годзе клала яе на ноч пад падушку, хацелася ёй, каб кожным разам прысніўся любы Сяргейка.

Пазней бацька паставіў на магіле сына помнік: гранітная пліта з мармуровым крыжам. На помніку было высечана "Белорусский беллетрист Сергей Полуян", а ўнізе значыліся даты нараджэння і смерці. На жаль (яшчэ адна несправядлівасць) магіла С. Палуяна не захавалася. Тая частка Байкавых могілак у Кіеве, дзе ён знайшоў вечны спачын, яшчэ да вайны была знішчана, пайшла пад забудову горада.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

АДГАЛОСКІ

# Viva filologia!

*"...Дзе ўсе іншыя крыніцы чэзнуць, а застарэлыя прымхі пагражаюць завесці нас у дрыгву, не застаецца іншага выйсця, як руплiва даследаваць роднасць ды адметнасць кожнае мовы, ажно да найтанчэйшых яе жылаў і атожылкаў..."*

**Якуб Грым.**
**"Гісторыя нямецкае мовы".**

Я ўжо чую грэблівае: "Ён жа не гісторык. Дылетант. Нейкі журналіст". Гэта з нагоды публікацыі ў N 41 "ЛіМа" артыкула Здзіслава Сіцькі "Вяртаемся да літвы" (у рубрыцы "Меркаванне").

Мушу нагадаць, шаноўныя апаненты, крытыкі і проста нядобразычліўцы: Гутэнберг і Мэндэль, Эдысан і Цыялкоўскі, нарэшце, патэнтны службовец Эйнштэйн — усе былі дылетантамі. Але чалавецтва абавязана ім выдатнейшымі даследаваннямі, вынаходствамі і адкрыццямі.

Я таксама не гісторык. Але:

Генрых Шліман (сын пастара, гандляр) уважліва прачытаў Гамэра і паверыў паэту! Генрых Шліман раскапаў легендарную Трою.

Мікола Ермаловіч уважліва перачытаў школьныя ды універсітэцкія падручнікі гісторыі. Падручнікам ён не паверыў, пачаў шукаць праўду і знайшоў-такі летапісную Літву. Ермаловіч быў выкладчыкам літаратуры.

Я ўспрыняў гіпотэзу З. Сіцькі з першага ж азнаямлення. Перачытаў другі раз і яшчэ больш пераканаўся ў слушнасці здагадкі. Гіпотэза ставіла бясспрэчныя кропкі над "і" ў шматгадовых спрэчках: што такое гістарычная Літва, адкуль яна з'явілася на гістарычнай арэне, куды, урэшце, падзелася.

Пра заходнеславянскае паходжанне літвы пісалі многія аўтары мінулага і сучаснасці: Г. Шэдэль і Я. Коклес, Я. Багемскі і М. Стрыйкоўскі, П. Урбан і, урэшце, М. Ермаловіч у сваёй хрэстаматыйнай працы "Па слядах аднаго міфа". Ермаловіч мімахадзь, не засяроджваючы на гэтай думцы вялікай увагі, бо ягоная задача была значна важнейшай: даказаць, што ніякага завёву Беларусі Літвою ніколі не было. І ён зрабіў гэта бліскуча, вызваліўшы беларусаў ад комплексу нацыянальнай непаўнавартасці.

Дзе бяссільныя рыдлёўка археолага ці павелічальнае шкло даследчыка, пінцэт і пэндзаль рэстаўратара — на сцэну выходзіць лінгвіст, і вынікі бываюць нечаканымі. Асабліва гэта тычыцца цьмянай і заблытанай першапачатковай гісторыі славянства, пра што яшчэ ў мінулым стагоддзі добра сказаў выдатны расійскі вучоны І. Срэзнеўскі: "...Першыя старонкі нашай гісторыі застаюцца незапісанымі. Яны і застануцца белымі да той пары, пакуль не прыме ў гэтым удзелу філалогія. Яна адна можа напісаць іх".

Больш не трэба тэндэнцыйна перакручваць гістарычныя сведчанні і хронікі, не трэба слепнуць над гідранімікай і тапанімікай, блукаць па мапах Аўкштайціі і Жэмайціі, паўтараць безнадзейныя экскурсы ў этымалогію. Усё геніяльна проста: літ — літва. Як "мардва", "татарва" і г.д.

І не трэба саромецца таго, што нашую дзяржаву заснавалі прышэльцы, прафесійныя ваяры, навалач сярэднявечная. Прыйшлі і растварыліся сярод нас, пакінуўшы ў спадчыну гістарычнае імя ды слаўную 500-гадовую гісторыю. Як волжскія булгары (дарэчы, цюркі па паходжанні) пакінулі сваё імя славянскай дзяржаве — Балгарыі. Гэта не адзіны прэцэдэнт у сярэднявечнай гісторыі. Прыгадайма славутых мамелюкаў, былых рабоў, пазней прыдворных гвардзейцаў, якія ўтварылі сваю дзяржаву ў Егіпце і панавалі амаль трыста гадоў. А вікінгі, таксама вядомыя бадзягі? Дзе яны толькі ні пабылі! Не забывайма, што першыя летапісныя старонкі рускай гісторыі звязаны з імі (варагамі). Можна дадаць сюды і турэцкіх янычараў, і японскіх самураяў. Ды і нашыя баяры-шляхта ўтварыліся падобным шляхам, хоць трохі пазней ды з іншымі сацыяльнымі функцыямі.

Адзін з галоўных доказаў слушнасці прапанаванай гіпотэзы — з галіны параўнальнай лінгвістыкі. Здзіславу Сіцьку ўдалося адшукаць больш за дзве сотні тапонімаў і прозвішчаў, характэрных для Памераніі і Мекленбургіі, менавіта ў рэгіёне, акрэсленым Ермаловічам, як месца знаходжання летапіснай Літвы. Аўтар правёў параўнальны аналіз у іншых месцах Беларусі (карыстаючыся даведнікамі Рапановіча). Супадзенні сустракаліся, але, хутчэй, праславянскага ці нават індаеўрапейскага паходжання. Такога ж масіву, такой колькасці аналагаў, як на згаданай тэрыторыі, нідзе больш на Беларусі няма.

Лагічна і тое, чаму літы прыблукалі да нас. На Балканах, дзе яны першапачаткова атабарыліся, пачалася актыўная хрысціянізацыя. Зацятыя паганцы, літы рушылі далей, на Усход і апынуліся ў Польшчы. Пачалася каталізацыя палякаў, і яны адступілі ў міжрэчча Нёмана, Шчары і Бярэзіны. Тут, у векавечных пушчах і дубровах, сярод азёраў, рэчак і балот, было ўсё, як дома, у Памераніі. І насельніцтва пераважна паганскае, міралюбівае, славянскае. Але галоўнае — была запатрабаванасць у смелых, вопытных, прафесійна падрыхтаваных ваярах, была, так бы мовіць, праца па спецыяльнасці. Хто іх толькі ні наймаў, з кім яны толькі ні біліся! А ў перапынках — паміж сабою, пакуль не вылучыўся першы летапісны князь летапіснай Літвы — Міндаўг.

Здзіслаў Сіцька — журналіст. Сваю формулу "літы — літва" ён выказаў упершыню гадоў пятнаццаць таму ў артыкуле для "ЛіМа". Хутчэй за ўсё, рэдактар аддзела тады не ўцяміў ці не ацаніў сутнасць гіпотэзы. Артыкул не надрукавалі. Надрукавалі цяпер і ў большым аб'ёме. І я запрашаю ўсіх, хто прачытаў артыкул З. Сіцькі, прыняць удзел у яго абмеркаванні. Абурайцеся, крытыкуйце, павучайце, хваліце ці смейцеся, але выкажыцеся.

На заканчэнне прапаную яшчэ адну лінгвістычную гіпотэзу. Лічу, што ў старажытнасці героя гэтай размовы называлі *"лiтва"*. Менавіта так, з націскам на "і". прыкладам, як *"лотва"*, старажытны назоў аднаго з балцкіх плямёнаў. З цягам часу вымаўленне змянілася і схавала сапраўдны корань слова *"лiтва — лiтавец — лiтаўскі"*. Ні адна старажытная пісьмовая крыніца не данесла да нас спосабу вымаўлення гэтых слоў.

Калі б не гэта, не блукалі б навукоўцы на працягу стагоддзяў па мапах Беларусі ды сучаснай Летувы, не ламалі б дзідаў у спрэчках за прыярытэты.

Паспрабуйце абвергнуць. Толькі, калі ласка, не ўжывайце аргументаў славутага чэхаўскага героя: "Гэтага не можа быць, таму што гэтага не можа быць ніколі".

**Уладзімір КРУКОЎСКІ**

## Многае не паспеў зрабіць

**Нядоўгім быў жыццёвы шлях Усевалада Краўчанкі. Ды і па сённяшні дзень нямала загадак вакол яго смерці: Усевалад Ігнатавіч паконччыў жыццё самагубствам 27 жніўня 1961 года, знаходзячыся ў замежнай камандзіроўцы, пры тым у складзе афіцыйнай дэлегацыі. А нарадзіўся 14 кастрычніка 1915-га ў вёсцы Каплічы цяперашняга Калінкавіцкага раёна. Скончыў рабфак у Мазыры і да 1941 года працаваў у рэдакцыі раённай газеты "Калгаснік Мазыршчыны", адначасова вучыўся завочна на літаратурным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, дзе скончыў два курсы. У вайну — супрацоўнік армейскай газеты "Боевое знамя", потым на журналісцкай рабоце ў Саратаўскай вобласці, а з мая 1943-га загадвае аддзелам партызанскага жыцця газеты "Савецкая Беларусь". З 1945 года — адказны сакратар часопіса "Полымя", з 1950-га — адказны сакратар, у 1953—1961 гадах —галоўны рэдактар часопіса "Бярозка".**

**З першымі апавяданнямі выступіў у 1933 годзе ў часопісе "Чырвоная Беларусь". Выйшлі зборнікі апавесцяў, апавяданняў "На крутым павароце" (1937), "Калгасныя навелы" (1940), "Зямля гудзе" (1945), "Станаўленне" (1947), "У імя Радзімы" (1948), "Жыта красуе" (1951), "Не поле перайсці" (1958) і іншыя. Выдаў шэраг зборнікаў прозы для дзяцей, кнігу аднаактовак "Апошняя варажба" (1960). Перакладаў з рускай і украінскай моў на беларускую.**

## Перакладчык з розных моў

**Сямён Дорскі (нарадзіўся 20 кастрычніка 1920 года, памёр 14 студзеня 1992-га) да вайны скончыў курсы замежных моў і тры курсы гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. У чэрвені 1941 года эвакуіраваўся ў Куйбышаўскую вобласць, працаваў у калгасе, а пасля перабраўся ў горад Уральск, дзе на той час жыў яго брат — тэатральны дзеяч і драматург Іосіф Дорскі. У 1943 годзе С. Дорскі быў прызваны ў армію. Пасля дэмабілізацыі працаваў перакладчыкам ва Упраўленні па выстаўках пры Савеце Міністраў БССР, без адрыву ад асноўнай працы скончыў факультэт замежных моў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Быў перакладчыкам, загадваў кафедрай англійскай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, з'яўляўся дацэнтам кафедры лексікі (пазней стылістыкі) англійскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў.**

**Літаратурную працу пачаў з вершаў, што былі апублікаваны ў 1941—1942 гадах у газеце "Уральская правда". З 1957 года перакладаў з англійскай, нямецкай, французскай і іспанскай моў на беларускую. У яго перакладах выйшлі раман П. Абрахамса "Вянок для Удома", аповесці Л. Рэна "Негр Нобі", П. Джойса "Цікі", кніга казак Г. Прокапа "Пятае кола", а таксама многія іншыя творы.**

## Сэрцам і душой з Беларуссю

**У кагорце слаўных дзеячаў, жыццё якім дала беларуская зямля, дастойнае месца належыць і Францішку Князьніну. І хоць у даведніках ён значыцца найперш як польскі паэт, драматург, перакладчык, сам Ф. Князьнін нікoлі не забываў пра свае вытокі.**

**Нарадзіўся ён 250 гадоў назад, 4 кастрычніка 1750 года ў Віцебску (памёр 25 жніўня 1807-га). У 1764 годзе скончыў клас рыторыкі Віцебскай езуіцкай калегіі. Падчас вучобы напісаў свае першыя вершы на латыні. Пасля Ф. Князьнін вучыўся ў Полацку, Нясвіжы, Слуцку. Жывучы з 1770 года ў Варшаве, часта прыязджаў у вёску Воўчын цяперашняга Камянецкага раёна. З 1775-га Ф. Князьнін з'яўляўся сакратаром князя А. Чартарыйскага, а з 1783-га — прыдворным паэтам Чартарыйскіх. Творчая спадчына Ф. Князьніна багатая і шматжанравая. Ён пісаў паэмы, ідыліі, элегіі, оды, байкі, п'есы, лібрэта опер. Опера "Цыганы" ( музыка М. К. Агінскага) у 1786 годзе была пастаўлена ў Слонімскім прыдворным тэатры Агінскіх. І ў жыцці, і ў творчасці М. Князьнін часта ўспамінаў сваю Бацькаўшчыну. Ён цікавіўся беларускім фальклорам, выкарыстоўваў яго ў сваіх творах. Збіраў беларускія прыказкі. Беларускай мовай карыстаецца і некаторыя яго персанажы. Так казак Захаранка з камедыі "Тры вяселлі" размаўляе на "трасянцы". Ёсць звесткі, што верш Ф. Князьніна "Кросенкі" ў канцы XIX стагоддзя быў пашыраны на Беларусі як народная песня.**

# АПОВЕДЫ–БЫЛІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

вось, у той ранак ля касаў стадыёна сядзелі мужчыны і гулялі ў даміно. На стале ляжалі спісы — чарга на білеты. А гэтыя людзі ўсю ноч дзяжурылі. Мы наблізіліся да стала.

— Хочаце запісацца?

— Хочам, — адказала сяброўка.

Мы напісалі свае прозвішчы, хоць білеты і не абы-якія — на цэнтральную трыбуну — ў мяне ўжо былі: спрыяў сябрук, які працаваў у ЦК камсамола. Пра гэты ранак я ўспомню на ўзлессі пад старадаўнімі дубамі паміж Вялікімі і Малымі Аўцюкамі ў чаканні жаночага футбола.

●

На фестываль гумару я ехаў не дужа вясёлым. На тое мелася шмат прычын. Не зусім добра пачуваўся: ціск падскочыў, розных клопатаў было багата. Падліў масла ў агонь сусед:

— Гэтыя жарты я чуў у нашай вёсцы пасля вайны. А Ліпскі ўсё прыпісвае аўцюкоўцам... І на фоне нашага жабрацтва — гэта пір падчас чумы....

Жонка не пярэчыла: едзь, калі трэба. І нібы між іншым дадавала: касіць трэба, і дровы секчы, і грыбоў у лесе поўна, і рой можа вылецець. Падтэкст быў яўны: а ты едзеш сабакам сена касіць....

Не спрыяла добраму настрою і надвор'е. Па дарозе наш аўтобус не раз накрывалі шэрым абрусам хмары, лупцаваў касы дождж, потым зноў выбліскваля сонца, але мой настрой не мяняўся да лепшага.

Дождж лінуў падчас адкрыцця фэсту на развілцы дарог між Аўцюкамі. А навічку яшчэ і з пажарнай машыны "ахрысцілі". Уразіў стары аўцюковец з пеўнем. Яны абое нават не зварухнуліся.

Перад Вялікімі Аўцюкамі вуліца была перакрыта, гасцей пацягнулі ў скокі. Спачатку я ўпіраўся, але сімпатычная дзяўчына ўчапілася моцна і цягнула ў круг:

— Не пойдзеце ў скокі — звольняць з работы.

Такая перспектыва мне не пагражала, ды усе ж я здаўся. І скажу вам: не пашкадаваў, дзяўчына была агонь, танцавала надзвычай лёгка.

А ў вёсцы нас, членаў журы, чакалі накрытыя сталы. Трапіў я туды ўпершыню, таму ўсё ўспрымаў абвострана.

Уявіце сабе даўжэзную, кіламетраў на пяць з гакам вуліцу, асфальтаваную, вакол дагледжаныя хаты, акуратныя платы, купчастыя ліпы, клёны. Ля некаторых дамоў — сталы, накрытыя саматканымі абрусамі. І сталы гэтыя аж угіналіся ад розных прысмакаў і самых розных напояў. На адным стале я налічыў дваццаць сем розных страў! Перад хатаю на штыкетніку развешаны незвычайнай прыгажосці ручнікі, посцілкі. А вокны ўпрыгожваюць ліштвы-кароны.

— А хто гэтыя ліштвы выразаў? — спытаў я ў гаспадара.

— Усё сам. Вось гэтымі рукамі, — нібы доказ майстэрства, паказаў мазолістыя, цёмныя ад працы і сонца, рукі. — І хату, і ўсё ў хаце зрабіў сам. Жонка памагала. Вось пагляздіце, што ёсць на двары.

Некалі мне здавалася, што бацькоўскі двор зусім не малы, а тут быў падворак разы ў тры большы. А які вакол парадак! Гаспадар тым часам паказваў:

— Тут стаіць карова. А тут свінні. Малыш, хадзі сюды! — Малыш — велізарны вяпрук — ляніва рохкнуў і адвярнуўся да сцяны. — Тут стаіць мой конік. А тут квактуха з пылянятамі, — паказаў на скрыню з драцяным дахам, адкуль нясліся знаёмыя піскявыя гукі.

Далей гаспадар паказаў, дзе ў яго складзены сена, дровы, дзе станок, якім пілуе дошкі, робіць вагонку. Вось гэта гаспадар!

Мы ішлі па вёсцы. Сонца свяціла ярчэй, гучней іграў гурт "Раданіца", які суправаджаў журы. А мы, "журылкі", спярша ехалі на возе, але памалу да нас падсела гэтулькі малых аўцюкоўцаў, што нам ужо не было дзе сесці. Хацеў бы я, каб гэты воз пабачыў калега-літаратар, які даводзіў мне: вёска спілася, абязлюдзела, цяпер лёс нашай мовы ў руках інтэлігенцыі, асабліва радыё- і тэлежурналістаў. У Аўцюках родная мова жыве.

Мы крочылі пехам, ногі пакуль яшчэ трымалі, усё часцей яны самі прасіліся ў скокі. Я ўсё болей пераконваўся, што аўцюкоўцы ўмеюць не толькі жартаваць, а і працаваць, яны адмысловыя майстры, умеюць усё рабіць. І ўсё зробленае навідавоку: хаты паабапал вуліцы, абрусы, ручнікі на плоце, спечанае, зваранае, вырашчанае — на стале.

Ну, і жарты, смех несціханы. А смяюцца аўцюкоўцы з усяго. З таго, што ў Малых Аўцюках на 166 двароў болей, чымся ў Вялікіх. І халастых каласкоў у Малых Аўцюках — тры дзесяткі, а ў Вялікіх і дваццаці няма. Затое пчаліных сем'яў у Вялікіх Аўцюках — пад семядзесят, а ў Малых — усяго дзевяць.

Даўно вядома, што чужы хлеб — гасцінец, а чужая жонка — прыгажуня. У Вялікіх Аўцюках я пераканаўся, што і мёд чужы — надзвычай смачны. Падыходзім да чарговага двара, стол аж ломіцца ад прысмакаў, а ў цэнтры — рамка з мёдам. Гаспадар, малады сімпатычны каласок, тут жа адкроіў скрыль сотаў і падаў мне.

— Колькі ў вас сем'яў? — спытаў я.

— Ды нямнога. Усяго васемнаццаць.

— Мёд выдатны. З гарчынкай. Вельмі духмяны, — хваліў я, але пасаромеўся прызнацца, што сам пчаляр, бо ў мяне зімавалі ўсяго дзве сямейкі, праўда, ёсць прыбаўка — выйшлі два рai. Ды ўсё роўна хваліцца няма чым, свайго мёду сёлета не каштаваў.

А гаспадыня-калінка запрашала частавацца рыбай:

— Пакаштуйце рыбкі. Сама *л а в а л а* ў рэчцы Закаванцы.

Гаспадыня суседняга падворка спявала прыпеўкі, а ейны каласок граў на гармоніку. Стол таксама адмысловы. Застолляў было адзінаццаць. Апошні, дванаццаты стол, накрылі супрацоўнікі сельскага савета.

Якія стравы былі на сталах? Бліны і аладкі з макам, апетытнае сала з ружовымі праслойкамі, каўбасы, самаробныя сыры і амлеты, катлеты і шкваркі, грыбы салёныя і смажаныя. Частавалася не толькі журы. Мы, а гэта Уладзімір Ліпскі, Анатоль Кудравец, Віктар Казько, дырэктар мясцовай школы ды я, грэшны, толькі здымалі пробу. Галоўную, "чарнавую" работу выконвалі самадзейныя артысты, мясцовыя і прыезджыя, усе, хто хацеў і мог выпіць і закусіць. Талеркі пасля іхняй работы заставаліся чыстымі. Калінкам лёгка было іх мыць.

Так падрабязна я апісваю сталы і падворкі, каб яшчэ раз сцвердзіць: хто дбае, той і мае. Так было, ёсць і будзе заўсёды. І што вясёлыя, дасціпныя аўцюкоўцы — не жабракі.

Чытача, пэўна, цікавіць, якія меліся напоі? Аўцюкоўская жытнёвая, чыстая, як сляза, з асаблівым смакам і водарам, бо ў кожнага гаспадара свой "бульбулятар", розныя настойкі, наліўкі, бярозавік, які ўзмацніў свой гаючы смак у дубовай бочцы пад вечкам прарослага ячменю.

Чым далей мы ішлі, тым весялей рабілася на душы. А вясёламу ўвесь свет усміхаецца. Мне ўсміхаліся незнаёмыя людзі, абдымалі падвяселеныя каласкі, цалавалі калінкі. Мой сумны настрой развеяўся, бы шцам ранішні туман.

Дзеля справядлівасці адзначу, што ў Малых Аўцюках на сталах усяго было меней. Нездарма яны Малыя! Пра гэта гаварылі Генадзь Бураўкін і Мікола Чарняўскі, людзі сур'ёзныя, хоць і пішуць гумарыстычныя вершы. Яны сказалі, што ў Малых Аўцюках адзін каласок адмовіўся ад прыза — маха камбікорму, маўляў, ягонага каня ацанілі вышэй, чымся гаспадара. Як бачыце, у Аўцюках жартуюць усе, жартуюць кожны дзень. Канешне, яны і гаруюць таксама. Бяда не мінае: трапляюць у аварыі, хварэюць, але жыццё і смех перамагаюць.

Прызы мы ўручалі пад акампанемент дажджу. На адкрытай пляцоўцы, збудаванай спецыяльна для гэтага выпадку каля школы. А прызы былі розныя: вядро соевай мукі ажно са Штатаў, набор вазаў, крэсла, табурэт, скрыня цукерак, мяшок цэменту.

Дырэктар саўгаса, які быў на пасяджэнні журы, зразумеў, што прызы не дужа самавітыя, сказаў:

— Усім, хто накрываў сталы... ну, рыхтаваўся, чаркі наліваў, — дадзім па сто кілаграмаў збожжа. З новага ўраджаю. — Нехта з членаў журы ўсумніўся, дырэктар з усмешкаю запэўніў: — Выдзелім. А калі не дадзім, дык самі болей украдуць...

Гумарысты аўцюкоўцы, гумарысты іхнія кіраўнікі.

●

А назаўтра была вясёлая мытня. Каб трапіць на ўзлессе між дубамі, дзе меркавалася само свята, выступы артыстаў з усіх абласцей, конкурсы анекдотыкаў, дзе наліваюць чаркі з бульбулятара, дзе адбудзецца і жаночы футбол, трэ было прайсці мытню.

Шашу перад мостам цераз невялічкую рачулку Закаванку перакрылі крывым шлагбаумам. Збоч збудавалі вузкі драўляны масток — тут і размясцілася аўцюкоўская мытня. Пышнагрудая калінка ў артыстычным убранні, дзве маладзенькія памочніцы: адна трымала бутлю, куды народ соваў грошы, другая ставіла вялізную пячатку на любую частку цела. Ну, і вусаты міліцыянер — сапраўдны, без падману. Кожны мусіў або расказаць жарт, праспяваць прыпеўку, або адкупіцца "зайчыкамі", можна і баксамі.

Я расказаў анекдот, маладзенькая калінка паставіла пячатку на старонку нататніка, але я не рвануў адразу на ўзлессе; стаў збоч — карцела паслухаць і паназіраць. Неўзабаве вясёлая калінка загаліла круглае звабнае калена:

— Шлёпніце сюды пячатку...

— Можна і вышэй, — рагатнуў вясёлы міліцыянт.

— Я сама ведаю, куды трэба, — не пагадзілася калінка. — Я з Каленкавіч. Вось мая каленка і прошу...

Народ валіў цераз мытню бясконцым патокам. А пад дубамі на дзвюх эстрадах — вялікай і малой — спявалі, гаманілі, разыгрывалі сцэнкі, чыталі байкі вясёлыя, таленавітыя каласкі і калінкі з усёй Беларусі.

Каму не хапала месца на сцэне, ці чарга туды была яшчэ далёка, а павесяліцца хацелася, скакалі, спявалі, хто дзе стаяў. На поплаве размясціліся кругам з паўтузіна калінак. Адна з іх грала на баяне, сяброўкі падпявалі Салістка, апранутая пад цыганку — у шырокай квяцістай спадніцы, квяцістай хусцінцы, і сама смуглявая, цёмнавокая, скакала басанож па траве і спявала прыпеўкі:

***Пакахала аўцюка,***
***Ён мне цешыў вока.***
***А цяпер любоў мая***
***Мне выходзіць бокам...***

Спадніца веерам трапяталася вакол моцных загарэлых ног. Здавалася, што яна птушкай узляціць зараз у неба. Грацыёзнымі рухамі калінка ці то стрымлівала палёт сваёй спадніцы, ці то, наадварот, спрыяла гэтаму палёту. Яе звабныя вусны не закрываліся, з-за іх нібы чарада белых гусей свяціліся здаровыя белыя зубы.

— Во, гэта калінка! — пачуў я голас. Азірнуўся — два вясёлыя каласкі таксама залюбаваліся артысткамі.

— Адкуль вы, калінкі? — не стрываў я, каб не запытацца.

— Тутэйшыя. З Каленкавіцкага раёна, вёска Дудзічы...

Слухаў я артыстаў, людзей, што тоўпіліся вакол. І радаваўся, бо і на сцэне, і між гледачоў, гасцей гучала беларуская мова. Амаль усе сцэнкі тэатраў мініяцюр былі на роднай мове. Засмучала, што багата сюжэтаў круцілася вакол бутэлькі гарэлкі, а беларус часцей за ўсё выстаўляўся за гэткага дурнаватага мужыка. Не, шаноўныя, не такія нашы каласкі ды калінкі!

●

Я ўжо трохі і засумаваў, бо не магу доўга смяяцца, не люблю доўгіх застолляў, даўжэзных прамоў, заўсёды шкада часу, бо ён ніколі не вяртаецца назад, яго не купіш ні за якія грошы.

І тут я пачуў футбольны марш, паклічны, азартны, і пакіраваў на ягоны заклік. Футбольнае поле было блізка, цераз дарогу, вядома, разы ў тры меншае за сапраўднае. Вароты — дзве жэрдкі, уверсе — таксама жэрдка. Суддзя ў сямейных трусах і ботах-кірзачах паклікаў на поле каманды Вялікіх і Малых Аўцюкоў. Форма футбалістак была самая розная: хто ў спадніцы, хто ў калготках, хто ў сямейных трусах. На нагах у каго кеды, красоўкі, а ў каго чаравікі на шпільках. У некаторых "калінак" былі вельмі валасатыя ногі і не жаночыя плечы, хоць "грудзі" і выпіралі з-пад футболак. Але былі і калінкі сапраўдныя, пра гэта сведчылі іхнія жаноцкія формы. У варотах злева на раскладушцы разлеглася калінка-варатар, гатовая ўзяць пенальці...

Гульня пачалася. Мяч узляцеў у паветра. Як толькі ён крануўся зямлі, яго ўхапіла ў прыпол "калінка" і стрымгалоў памчала да чужых варот. Напярэймы ёй кінулася некалькі футбалістак. Тады "калінка" выбіла мяч у аўт, абняла бліжэйшую футбалістку. І яны

пачалі цалавацца. Судзейскі свісток заліўся звонкай трэллю, але "футбалісткі" не маглі адарвацца. Мусіць, пацалункі былі сапраўдныя. Так могуць цалавацца толькі каласок з калінкай.

Балельшчыкі, якія абступілі футбольнае поле з усіх бакоў, рагаталі на поўны голас. Асабліва гучна смяяліся міліцыянты, пажарнікі і ўрачы хуткай дапамогі. Сакрэт просты: ім не было работы, яны дасюль сумавалі, а цяпер адвялі душу. Чырвоная пажарная, бела-чырвоная медыцынская машыны стаялі побач акурат за футбольным полем, іхнія вадзіцелі маглі назіраць за гульнёй з кабіны.

А на эстрадзе былі два каментатары. Адзін вёў рэпартаж на беларускай мове, другі яму падсабляў на рускай. Гэта двухмоўе па-аўцюкоўску. Рэпартаж быў жартоўны, вельмі дасціпны. Гледачы, якія не пакінулі сваіх месцаў на лавах, рагаталі да слёз. Сапраўдны тэатр мініяцюр.

Падзеі на футбольным полі развіваліся імкліва. Неўзабаве галы пасыпаліся то ў адны вароты, то ў другія. Крыкі "гол!" гучалі мацней, чымся на мінскім стадыёне.

Я ўжо змарыўся смяяцца, азірнуўся і перакануўся, што не ўсе аўцюкоўцы і госці — вялікія прыхільнікі футбола. На ўзлессі было поўна святочна апранутых людзей. Яны тоўпіліся каля рэстарана "Млынок", стаяла чарга ля шынка "У Параскі". А вось рэстаран "Колосок" пуставаў.

Пад разгалістым дубам на крэслах-калодках вакол шырачэзнага пня — якія магутныя дрэвы растуць на нашай зямлі! — сядзелі каласкі нападпітку, гучна гаварылі:

— Дажыліся. Гарэлкі нідзе няма...

— Як няма? У кожнай палатцы хоць заліся, — запярэчыў другі.

— Не, каласок. Усюды водка. Нават "Белая Русь" ужо стала водкай.

Вырашыў праверыць. Зазірнуў у адну гандлёвую кропку, другую, трэцюю. Так, гарэлкі не было.

— У нас усе тавары маркіраваны па-руску, — сказала маладая русявая дзяўчына. — Нам так загадалі...

Над шэрагам гандлёвых палатак на даўжэзным палотнішчы было напісана "Калинковичское райпо". Ну што ж, загад ёсць загад. Мо таму і мясцовыя начальнікі пачыналі прамову ці тост на роднай мове, заканчвалі па-руску і наадварот — пачыналі на іншай мове, а заканчвалі на роднай. Дзіўныя палешукі! А якую шыльду бачыў я ў Вялікіх Аўцюках: "ул. им. В. И. Ленина".

Збоч райпоўскіх палатак быў кніжны кіёск. Дзве дзяўчынкі з тонкімі русявымі касіцамі разглядалі дзіцячыя кніжкі. На стале побач ляжалі "Памяць. Калінкавіцкі раён" і кніга Уладзіміра Ліпскага "Аўцюкоўцы". Я ўзяў важкі том "Памяці".

— Якая тоўстая кніга! — шапнула дзяўчо сяброўцы.

— Тоўстая... Спісаў багата. Дзесяткі тысяч людзей загінулі, калі наш раён вызвалялі ад немцаў. Ды і раней гінула шмат... — круглавідны твар прадаўшчыцы зрабіўся сур'ёзным і сумным.

Мне таксама стала маркотна, я пакіраваў па свежанаезджанай дарозе далей ад людзей. Злева быў густы малады бярэзнік, а справа шапатлівай сцяной стаяў авёс. Высокі, густа-сіні, магутны. Здаецца, такога нікалі не бачыў. Мільганула вусцішная думка: мо такі магутны авёс, бо зямля палітая крывёю...

•

Калі я вяртаўся, футбол, мусіць, закончыўся. Народ сыпануў да эстрады. Насустрач мне ішлі тры вясёлыя прыгожыя калінкі.

— Дзеўкі, во гэты чалавек выдаў кніжку Ліпскага, — сказала адна з іх, якая была ў сцэнічным строі. — Аўтограф, калі ласка...

— Ды не, дзяўчаты. Я не выдавец. Я — рэдактар. Прачытаў рукапіс, паправіў тое-сёе, падпісаў у друк.

— Ну ўсё роўна. Вы блаславілі. Да Ліпскага чарга. Падпішыце...

Пярэчыць не выпадала. Падпісаў тры кніжкі.

— За гэта варта выпіць, — рашуча сказала калінка-артыстка.

З поліэтыленавага пакета вынырнула пляскатая пляшка "смирновской", круглыя пластмасавыя кубачкі.

— Не палохайцеся. Гэта наша, збожжавая. Галава не будзе балець, — супакойвалі калінкі.

— За ваша вясёлае свята! — падняў я кубачак.

— А мы за вас! — чокнуліся са мной калінкі. — А цяпер давайце пацалуемся.

Не паспеў я нічога адказаць, як адчуў на вуснах гарачы і дальбог ж салодкі пацалунак. А потым другі, трэці...

Гэты момант можна ўспомніць і паміраючы.

ПАМЯЦЬ

# "Таленавіты быў паэт, ды загубілі..."

Мікола Гваздоў (сапраўднае імя Мікалай Васілевіч) нарадзіўся 1 чэрвеня 1916 года ў Полацку ў сям'і служачых (але па невядомых прычынах дзяцінства правёў у дзіцячым доме). Вершы пачаў пісаць у трынаццаць гадоў. У 1933 годзе паступіў у Мінскі Вышэйшы Белпедінстытут.

У 1935 годзе М. Гваздоў перавёўся на завочнае аддзяленне і паехаў працаваць настаўнікам у Чэрыкаўскую школу.

З паказанняў арыштаванага Сяргея Мурзо: "Я, Гвоздев и Гинзбург высказали намерения уйти в Польшу, при чем для этой цели я с Гвоздевым летом 1934 года ездили в Дзержинский район к родственникам Гвоздева, проживающим около самой границы. О наших настроениях знал Хатулев (расстраляны 29 кастрычніка 1937 года), который также ездил к родственникам Гвоздева. Весной 1934 г. я, Гвоздев и Гинзбург высказали необходимость связаться с польским консулом, с тем, чтобы через него связаться с заграничными белогвардейскими организациями, для совместной борьбы с Советской властью..."

13 красавіка 1936 года М. Гваздова арыштавалі на кватэры яго сябра Пятра Хатулёва (знаходзілася па адрасе: вуліца Розы Люксембург, дом 44/2, кв. 1), да якога ён прыехаў пагасціць.

Пры арышце "энкавэдысты" забралі:

"Документальная переписка, блокноты со стихами, черновики стихов, рукописи стихов. Книги: Дж. Лондон, У. Хадыка, Словарь Байкова-Некрашевича..."

З адказаў вучняў Чэрыкаўскай школы на пытанні следчых з НКУС: "Учитель Гвоздов читал нам лекцию о русской литературе... Гвоздов сравнивал портрет Сталина, находящийся в классе, с животными. Гвоздов, указав на портрет Сталина, сказал, что художник изобразил у Сталина одну его видимую часть для нас, но если рядом поставить свинью — написал это слово на доске — то мы бы увидели ее в натуральном виде и даже как она хвостом виляет...

Гвоздов на экзамене, для разбора междометия, перефразировал: "Ура! (вместо — Прощай!) Немытая Россия, страна рабов, страна господ!..

Советские пятилетки называл фантазией...

Больше всего любит Есенина и Клюева. Избегал (на уроках) перерабатывать Горького...

Будучи в Витебске Гвоздов начал писать стихи, наполненные есенинской замкнутостью и оторванностью от жизни. В институте также стихи писал пессимистические, выражал недовольство окружающей жизнью, называл ее хаосом..."

Улетку 1936 года Міколу Гваздова асудзілі ("за контрреволюционную агитацию") на 5 гадоў пазбаўлення волі.

З паказанняў Пятра Шыракова (Тодара Лебяды) на допытах у НКУС (лістапад-снежань (?) 1936 года): "В 1933-1935 гг. я учился с Гваздовым в одной группе... Недисциплинированный студент (таксама пра Гваздова-студэнта паказаў і С. Лёвін. — **Л. М.**), пессимист, подвержен упадническим настроениям. Недоволен окружающей жизнью... В 1935 г. я жил на квартире П. Хатулева, где раньше бывал и М. Гваздов (і некаторы час таксама жыў. — **Л. М.**). В его книгах я с Басей Цыпиной (сакурсніца і жонка Т. Лебяды; даволі падрабязна апісана ў рамане М. Сяднёва "Раман Корзюк". — **Л. М.**) обнаружили письма одного товарища из Орши, — где высказывались враждебные взгляды... (там же) были стихи пессимистическо-упаднического характера. Эти письма я собрал и передал парторгу литературного факультета — Мележко Ст." Удакладнім, што Мялежка Сцяпан быў камсоргам факультэта. Заўважым, што тут Т. Лебяда абгаворвае сябе, — пісьмы М. Гваздова ён нікому перадаць не мог, бо ў момант арышту П. Хатулёва яны былі канфіскаваны, аб чым пры вобыску кватэры і былі састаўлены адпаведны вопіс. Хутчэй за ўсё гэтымі "прызнаннямі" Т. Лебяда хацеў "скасціць" сабе тэрмін пазбаўлення волі, бо дапамагчы ўжо асуджанаму М. Гваздову ён нічым не мог.

Недзе ў пачатку восені (?) Міколу Гваздова этапіравалі ў Варкуту.

У 1947 годзе ў часопісе "Шыпшына" (1947. N 5) Юрка Віцьбіч пісаў: "Праз некаторы час (пасля "суда тройкі". — **Л. М.**) яго (М. Гваздова. — **Л. М.**) сябры атрымалі кароткі ліст з просьбай:

Прышліце мне гальштук.

Гэтая страшная просьба не патрабуе тлумачэнняў... Згадвае "пра гальштук" у сваёй кнізе "Раман Корзюк" і Масей Сяднёў. Пазней (у "Масеевай кнізе") ён пісаў: "Таленавіты быў паэт, ды загубілі".

Рэабілітавалі паэта толькі праз 50 (!) гадоў. Але як ён загінуў, мы не ведаем нават цяпер.

**Леанід МАРАКОЎ**

ВЕЧАРЫНЫ

# У пошуку ісціны...

Аматарам беларускага паэтычнага слова добра вядомы гэты адрас — Рабкораўская, 19.

Тут месціцца філія Літмузея М. Багдановіча «Беларуская хатка». Сёння «Беларуская хатка» — не проста музей, не проста тэатр-батлейка — гэта яшчэ і вядомы ў сталіцы асяродак беларушчыны.

Пазычыўшы для сябе славуты назоў клуба беларускай інтэлігенцыі, што існаваў у Мінску на пачатку стагоддзя і чыннікам якога быў Максім Багдановіч, супрацоўнікі «хаткі» з гонарам працягваюць традыцыі сваіх духоўных папярэднікаў. Ужо добрых 9 гадоў пры музеі існуе адмайменны культурніцкі клуб, адзіным культам для якога з'яўляецца — культ беларускай Духоўнасці. А Духоўнасць, перадусім, рэалізуецца праз нацыянальную літаратуру.

Хто толькі ні «гасцяваў» у Максімавых пенатах на вуліцы Рабкораўскай за апошнія гады!...

Тут выносілі на высокі чытацкі суд свае творы і літпачаткоўцы, кшталту бум-бамлітаўскай творчай генерацыі, і паважаныя аксакалы беларускай літаратуры, такія, як Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін... Ёсць сярод гасцей музея і сталыя сябры — так бы мовіць, уласныя творчыя «дамавікі»...

Некалькі разоў у чарзе за "кастальскім" пацалункам Леаніда Дранько-Майсюка і ягоным уласнаручным аўтографам цярпліва выстойвалі сарамліва-настойлівыя студэнткі і ліцэісткі.

Неаднаразова тут частаваў парадыйнымі розгамі сваіх творчых калег, а пасля раскрылваў для паэтычнай споведзі сваю душу перад слухачамі Міхась Скобла. Чараваў гукамі сваёй «гішпанскай сяброўкі» па-гемераўску самаадданы беларускай песні Алесь Камоцкі...

Вось і гэтым кастрычніцкім адвячоркам у «Беларускай хатцы» быў чарговы аншлаг. Каб уладкаваць усіх жадаючых прысутнічаць на аўтарскай вечарыне Леаніда Галубовіча, гаспадару музея Эдуарду Акуліну прыйшлося ахвяраваць нават мемарыяльныя крэслы з экспазіцыі «хаткі». Але, думаецца, Багдановіч не застаўся ў крыўдзе, бо ўзровень вечарыны, узровень паэзіі, якая тут гучала, не пакінуў абыякавым аніводнага з прысутных.

*Ты — боль, паэзія. Ты— быль.*
*Твае суровыя законы*
*Не для забаў, не для гульбы —*
*А пошук ісціны да скону...*

У ісанцаі гэтых хрэстаматыйных радкоў са свайго першага паэтычнага зборніка Леанід Галубовіч не стаміўся пераконваць слухачоў на працягу ўсёй вечарыны.

Гучалі добра вядомыя чытачам раннія вершы «варонінскага класіка» (так у жарт назваў Леаніда вядучы вечарыны Э. Акулін), гучалі апошнія вершы з «апошніх вершаў Леаніда Галубовіча» ў аўтарскім выкананні. Празаічныя зацемкі з «левай кішэні» на слухацкі суд выцягнуў творчы сябра Л. Галубовіча — Міхась Скобла. Дарэчы, і гэтым разам Міхась захапіў свае знакамітыя «розгі» і, двойчы апеpазаўшы імі віноўцу вечарыны, «абвінавацію» апошняга ў клятваадступніцтве (усім вядома, што Л. Галубовіч зарокся пісаць вершы) — маўляў, многія з «зацемак» Галубовіча — нішто іншае, як сублімiраваная паэзія. І ў доказ сваіх слоў працытаваў некалькі лірычных мініяцюр аўтара.

Напрыканцы вечарыны слухачы літаральна атакавалі Леаніда Галубовіча з адзінай просьбай — не пакідаць Паэзію. І на нейкі міг нават падалося, што цвёрдакаменны ў сваёй непахіснасці Леанід восьвось паддасца на чытацкія правакацыі. Асабліва пасля таго, як апошні асобнік ягоных вершаў быў пушчаны з малатка на іправізаваным аукцыёне аж за 6 з паловай тысяч рублёў. А яшчэ кажуць, што няма попыту на беларускую паэзію...

У сувязі з гэтым нехта яшчэ раз не прамінуў нагадаць узрушанаму Леаніду Галубовічу, што талент — гэта Богам дадзены дар. І той, каму гэты дар даецца, павінен карыстацца ім без аглядкі на пройдзены шлях і пражыты век. Зрэшты і самому Леаніду Галубовічу гэта зразумела, а інакш навошта было прамаўляць:

*Не для забаў, не для гульбы*
*А пошук ісціны да скону...*

**Н. К.**

СУСТРЭЧЫ

# Працягваючы традыцыі

Гісторыя брацтваў у нашай краіне налічвае шмат стагоддзяў. Першыя брацтвы ўзніклі яшчэ ў сярэднявеччы, калі на Беларусі збіраліся групы веруючых людзей, якія выдавалі кнігі, будавалі цэрквы, арганізоўвалі новыя манастыры і друкарні і г.д. Разнастайнай была іх дзейнасць, але заўсёды ў іх была адна мэта — асветніцтва.

У нашыя часы таксама існуюць брацтвы. Па большай частцы яны працуюць пры хрысціянскіх прыходах і арганізацыях, але ёсць сярод іх і, так бы мовіць, свецкае брацтва, якое існуе пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. Скарынаўскае брацтва з'явілася ў 1997 годзе з мэтай асветніцтва і ўмацавання хрысціянскіх каштоўнасцяў у сучасным беларускім грамадстве. Брацтва апякуецца новаўтвораным аддзелам праблем хрысціянства і нацыянальнага развіцця Скарынаўскага цэнтра і ставіць перад сабой наступныя задачы: 1. Узаемападтрымка — маральная, духоўная, інтэлектуальная, матэрыяльная; 2. Абмен інфармацыяй беларусазнаўчага жыцця, думкамі, меркаваннямі; 3. Абмеркаванне ўмоў асветніцкай дзейнасці, што дазваляе далучаць да той ці іншай беларусазнаўчай праблематыкі ўсё большае кола людзей.

Што ж прымусіла людзей, быццам і не царкоўных, заняцца гэтай справай? Перш за ўсё — заклапочанасць станам сучаснага грамадства, яго дэхрысціянізацыяй. Гэта вельмі небяспечная з'ява ў нашыя часы, бо людзі адварачваюцца ад каранёў, ад веры продкаў, ад усяго, на чым можа трымацца наша грамадства і наша краіна. Недарэмна сябры брацтва — у асноўным навукоўцы, інтэлектуалы — былі названыя "свецкімі багаславамі", гэта людзі, якія ведаюць і разумеюць Божае слова, хрысціянскія прынцыпы жыцця і імкнуцца прытрымлівацца іх.

28 верасня у ННАЦ імя Ф. Скарыны адбылася чарговая сустрэча сяброў Брацтва. На ім прысутнічала шмат вядомых навукоўцаў, але асаблівую ўвагу прыцягвалі прафесары І. Чарота і А. Яскевіч, якія прадставілі свае новыя кніжкі.

Паседжанне пачалося з праслухоўвання гімна Скарынаўскага брацтва, які прагучаў на паседжанні ўпершыню. Спецыяльна для Брацтва яго напісаў кампазітар В. Гуляеў на словы верша М. Багдановіча "Пагоня". Вострая дыскусія ўзнікла пры абмеркаванні кнігі Івана Чароты "Беларуская мова і царква", дзе ён, выкарыстоўваючы свой шматгадовы вопыт працы ў Біблійнай камісіі пры Беларускай Праваслаўнай Царкве, разглядае розныя праблемы ўжывання беларускай мовы ў сучаснай царкве.

С цікавасцю выслухалі прысутныя даклад Алеся Яскевіча, які прадставіў сваю кнігу "Біблія: пераклады, тэксты", прысвечаную даследаванню перакладаў Бібліі. Выступілі і іншыя навукоўцы.

Наступная сустрэча Скарынаўскага брацтва, як заўсёды — у апошні чацвер месяца, 26 кастрычніка. Запрашаюцца ўсе, каму не абыякавы духоўны і культурны стан бацькаўшчыны і яе лёс.

**Г. ДАМБРОЎСКІ**

